КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 16 (337) ◂ 26 красавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**АНДРЭЙ КЛІМАЎ**

Стар. 4

**ПАМІЖ ВЫГАДАЙ І НЕБЯСПЕКАЙ**

Ваенны эксперт Аляксандр Алесін: «Я не выключаю таго, што з прылётам у Беларусь першага звяна расійскіх знішчальнікаў раптам вырашацца ўсе праблемы па нафтавым балансе»

Стар. 5

**«МЫ НЕ ТЭРАРЫСТЫ. МЫ П'ЕМ ПІВА»**

Наступствы бостанскай трагедыі прымусілі чэхаў даказваць амерыканцам, што яны не чачэнцы

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ЛОГІКА ЎТРЫМАННЯ ЎЛАДЫ**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ З НАГОДЫ

# КАЛІ МАЎЧАННЕ — ЗОЛАТА

Сяргей ПУЛЬША

**Нястрыманасць у выказваннях нашага прэзідэнта заўсёды грала з ім злыя жартачкі. Але зараз Пасланне Лукашэнкі паставіла пад небяспеку эканамічныя паказчыкі Беларусі за 2013 год. Калі мы не выканаем прагноз у 8,5% ВУП росту, то вінаваты ў гэтым будзе не ўрад.**




Зачытваючы сваё пасланне, кіраўнік Беларусі крануў балючую для Расіі тэму — стварэнне холдынгу МАЗ і КамАЗ. Лукашэнка лічыць гэты холдынг немэтазгодным.

«Прыходзяць людзі, я ў іх пытаюся: што мы атрымаем ад гэтага аб'яднання, акцыянавання, а яшчэ і перадай акцыі за бясцэнак? Рынкі ў нас ёсць, прадукцыя ёсць, у нас не горш МАЗы, чым КамАЗы», — заявіў Лукашэнка. «Мяне пачынаюць інфармаваць, што за імі (КамАЗам) стаяць замежнікі, яны з'яўляюцца там акцыянерамі, і яны будуць зацікаўлены, каб МАЗ апусціць, зачыніць. Ім не трэба лішніх канкурэнтаў», — працягнуў кіраўнік дзяржавы. «Я — прэзідэнт Беларусі, і я на гэту бандыцкую акцыю, інакш не назавеш, не пайду», — заявіў ён.

Замест стварэння холдынгу Лукашэнка прапанаваў стварыць упраўляючую кампанію гэтымі прадпрыемствамі і папрацаваць яшчэ 3–5 гадоў.

Гэтыя словы Лукашэнкі ідуць у поўны раздрай з тым, што абяцаў расійскаму віцэ-прэм'еру Аркадзю Дварковічу беларускі ўрад. Як раней здавалася, холдынг «МАЗ — КамАЗ» ужо «на мазі», аднак прамашка выйшла. Тут трэба было б разабрацца, хто тыя разумныя людзі, якія нешта нашапталі на вушка прэзідэнту. Але Дварковічу ў гэтым разбірацца — далёка і нявыгадна, таму з Расіі мы атрымалі «асіметрычны адказ».

Беларусь імкнецца атрымаць ад Расіі сёлета 23 мільёны тон нафты. Расія цягне ката за хвост, узгадняючы нафтавы баланс пакварталы. На першыя два кварталы Расія нам выдала нафты, сапраўды, з разліку гэтай лічбы. А вось пасля словаў Лукашэнкі, як паведамляе газета «*Известия*», урад Расіі падрыхтаваў ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць паведлічэнне паставак нафты на беларускія НПЗ у III і IV кварталах 2013 года.

Сярод прэтэнзій расійскага ўрада — невыкананне беларусамі ўмоваў па вяртанні ўзгодненага аб'ёму нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты. Акрамя гэтага, беларусы зацягваюць рэалізацыю супольных інтэграцыйных праектаў, у тым ліку стварэнне СП холдынгу паміж КамАЗам і МАЗам, — паведаміла газеце крыніца ва ўрадзе Расіі.

Таму расійскі бок гатовы накіраваць нафту ў Беларусь, але толькі 18,5 мільёна тон.

Прычым «*Известия*» наўпрост паведамляюць, што «Беларусь усялякімі шляхамі імкнецца да зацягвання працэсу рэалізацыі супольных праектаў, высоўваючы новыя і змяняючы ўмовы ранейшых дамоўленасцяў».

Але нават пасля гэтага званочка Аляксандр Рыгоравіч не стрымаўся. Прызначаючы новага амбасадара Беларусі ў ААЭ Рамана Галоўчанку, прэзідэнт зноў выказаўся па МАЗе. Адзначыўшы, што ААЭ і рэгіён Блізкага Усходу — «неаранае поле» для беларускай дыпламатыі і эканомікі, Лукашэнка паведаміў: «Нам прапануюць: давайце на базе МАЗа створым у адной з краін Усходу такую вытворчасць, мы будзем браць у вас часткі, а ўсё астатняе, кузаў аўтобуса, можам рабіць на месцы. Добрая прапанова — грошы даюць, рынак ёсць. Чаму на гэта не пайсці?»

Пакуль, па-першае, не ясна, хто гэта прапанаваў. Па-другое, расійскія КамАЗы там ведаюць лепш, чым нашы МАЗы, бо яны, расійцы, неаднаразова перамагалі на ралі «Парыж — Дакар». Калі мы будзем там ствараць сумеснае з КамАЗам прадпрыемства — гэта адно, а адпраўляць туды нікому не вядомую марку?..

А між тым, стварэнне «дочкі» МАЗа ў ААЭ — гэта яшчэ адзін крок да забойства сумеснага холдынгу. Здаецца, прэзідэнт ужо ўсё вырашыў — холдынгу капец.

З іншага боку, здавалася б — ну і што? Ну, паставіць нам Расія замест 23 мільёнаў тон нафты 18,5, няўжо ад гэтага прадпрыемствы стануць, людзям няма чаго есці будзе? Усё роўна сінявокай для ўнутранага спажывання хапае і 7 мільёнаў тон, нават з запасам. Можа, без Расіі пераб'емся?

Зрабіць гэта, канешне, можна. Але пра ўжо і так вельмі цьмяны праект «беларускага эканамічнага цуду» давядзецца забыцца. Паводле падлікаў эканаміста Леаніда Злотнікава, з адной тоны расійскай нафты Беларусь мае, у залежнасці ад атрыманага нафтапрадукту, да 100 долараў дададзенай вартасці. Недапастаўка пяці мільёнаў тон пагражае стратай 500 мільёнаў долараў. А 500 мільёнаў долараў — гэта значыць 1% ад ВУП Беларусі.

Гэты працэнт, іншым разам, вельмі дорага каштуе. Напрыклад, рост ВУП у мінулым годзе склаў толькі 1,5%. Толькі гэтая «адзінка» напярэдадзе пяцёркі дазволіла нам не казаць пра тое, што краіна знаходзіцца ў рэцэсіі, што спынілася рост вытворчасці. Адначасова яна ж, адзінка, дазволіла нам казаць, што мы яшчэ маем сілы і патэнцыял выкарабкацца з крызісу. А калі б яе не было?

Як мяркуе той жа Злотнікаў, страціўшы 1% ВУП за наступны паўгода, кожны беларус за гэты перыяд страчвае каля 5 долараў на месяц. Улічваючы, што працуе ў нас не кожны, а прыкладна палова, то зніжэнне заробку на 10 долараў асабліва адбіваецца на беднейшай частцы насельніцтва, што зарабляе менш за 3 мільёны рублёў. Для іх страта гэтых, груба кажучы, ста тысяч — вельмі адчувальная. Гэта калі не казаць пра пенсіянераў…

Між тым, трэба зазначыць, што 500 мільёнаў долараў Злотнікава — гэта яшчэ аптымістычны паказчык. Іншы эканаміст, Леанід Заіка, кажа, што на адным мільёне тон нафты Беларусь зарабляе паўмільярда долараў. Страта 5 мільёнаў тон, такім чынам, з'яўляецца стратай 2,5 мільярда долараў. Што стане з эканомікай, калі мае рацыю не Злотнікаў, а Заіка?

Лепш бы прамаўчаў пра МАЗ — КамАЗ, не ўліпілі б мы ў нафту…

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



ПРЫСУД

## ПАЎЛУ ВІНАГРАДАВУ ДАЛІ 12 СУТАК

**23 красавіка суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня абвінаваціла Паўла Вінаградава ў парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства.**

У судовую залу дапусцілі толькі жонку актывіста Святлану. 12 сутак актывіст моладзевай арганізацыі «Zмена» кампаніі «Гавары праўду» атрымаў за вывешванне каля ўвахода на станцыю метро «Няміга» партрэта Міколы Статкевіча і бела-чырвона-белага сцяга. Жонцы актывіста Святлане ўвечары 22 красавіка патэлефанавалі з міліцыі і паведамілі, што Павел затрыманы.

У «Фэйсбуку» яна напісала: «Прыйшла дадому з працы і бачу, што тэлефон і кашалёк Паўла Вінаградава дома, а вось яго самога і сумкі ў турму няма. Праз 5 хвілін пасля гэтага мне патэлефанаваў супрацоўнік міліцыі і сказаў, што заўтра можна прыязджаць у суд Цэнтральнага раёна», — паведамляе Святлана.

**Паводле spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ЦІ МОЖА СМЕРЦЬ БЫЦЬ ПАКАРАННЕМ?

**Ці мае права дзяржава вырашаць, хто павінен жыць, а хто — не? Як суадносіцца правасуддзе і мера пакарання?**

Гэтыя і многія іншыя пытанні задавалі ўдзельнікі Клуба сацыяльнага і прававога кіно на чарговай сустрэчы, якая прайшла ў Крыме.

Як паведамляе «Сетка прававых прыёмных Крыма», увазе гледачоў былі прапанаваныя два дакументальных фільмы рэжысёра Віктара Траццякова: «Прычына смерці — прочырк» і «Убыл по приговору» аб смяротным пакаранні ў Беларусі. Пасля прагляду ўдзельнікі абмяркоўвалі смяротнае пакаранне з розных пунктаў гледжання.

Напрыклад, якія магчымасці смяротнае пакаранне дае сучаснай дзяржаве або якія «пагрозы» нясе ў сабе смяротнае пакаранне як «вышэйшая сацыяльная справядлівасць». Размова пра смяротнага пакаранне перарасла ў ажыўленую дыскусію, у якой закраналіся пытанні прававой дзяржавы і сучаснай сістэмы правасуддзя, а таксама прапаноўваліся мадэлі ідэальнай дзяржавы. Многія працўнікі смяротнага пакарання сцвярджалі, што ў прававой дзяржаве немагчыма існаванне смяротнага пакарання, бо вышэйшай каштоўнасцю ў такой дзяржаве з'яўляецца менавіта жыццё чалавека.

Таксама ўдзельнікі Кінаклуба пазнаёміліся з дзейнасцю Праваабарончага цэнтра «Вясна», Беларускага Хельсінскага Камітэта, Amnesty International, якія выступаюць супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння.

Вынікам дыскусіі стаў імправізаваны ўсеўкраінскі рэферэндум з пытаннем: «Ці ўводзіць ва Украіне смяротнае пакаранне як вышэйшую меру пакарання?». 80% прагаласавалі супраць увядзення смяротнага пакарання, а 20% прагаласавалі «за». Такім чынам, маладыя людзі зрабілі свой выбар і адказалі на пытанне, ці мае права дзяржава вяршыць «Божы суд».

**Паводле spring96.org**

ЦІКАВА

## ЗАМЕСТ ЦЫБУЛІ — ЛЕНІН

Сяргей ЧЫГРЫН

**Жыхар вуліцы Ружовай у Слоніме паставіў на сваім агародзе бронзавы бюст Леніна.**

Вуліца новая, на ёй слонімцы толькі распачынаюць будаўніцтва катэджаў. Таму, калі едзеш па Ружовай, бронзавы бюст кідаецца ў вочы здалёк.

Гаспадар Леніна на пытанне, дзе ён узяў гэты бюст, толькі засмяяўся і сказаў, што там, дзе ён яго ўзяў, — бюста ўжо няма. «Як бачыце, цяпер ён у мяне на агародзе, няхай аберагае маю сядзібу», — усміхнуўся малады слонімец і дазволіў Леніна сфатаграфаваць.

Дарэчы, пры камуністах у Слоніме было 10 помнікаў і бюстаў Леніна. Цяпер засталося толькі чатыры: адзін — у цэнтры горада, другі — у парку, трэці — у мікраёне Альбярцін і чацвёрты бюст Ільіча захаваўся яшчэ каля Слонімскага сельскагаспадарчага каледжа. Ну а пяты з'явіўся на агародзе на Ружовай вуліцы замест цыбулі з агуркамі.

ПРАБЛЕМА

## ДРОБНЫ ГАНДАЛЬ ЛІКВІДУЮЦЬ

Ігар МАСЛОЎСКІ

**Амаль дзве траціны гандлёвых кропак ліквідуюць. Гэта прадугледжвае канцэпцыя №191 Брэсцкага гарсавета, прынятая яшчэ ў 2006 годзе, пра якую раптам узгадалі сёлета.**

Чаму з прыходам буйнага бізнэсу ў гандаль павінен паміраць дробны? Прычым паміраць па прымусу?

А таму, што ў пункце 3 гэтай канцэпцыі прапісана:

«Стан дробнарознічнага гандлю і сферы паслуг у горадзе паказвае, што ў наш час яна стала неперспектыўнай, не адпавядае сучасным патрабаванням па культуры абслугоўвання, перашкаджае фармаванню эстэтычнага ўзроўню гарадскога асяроддзя, у выніку чаго не паляпшаецца гандлёвае абслугоўванне насельніцтва.

Да асноўных недахопаў і супярэчнасцям такой формы гандлю і абслугоўвання можна аднесці наступныя: адсутнасць неабходных санітарна-тэхнічных умоў для работнікаў і спажыўцоў; адсутнасць належнай абароны правоў спажыўцоў; парушэнне ўмоў рэалізацыі і захоўвання тавараў; пагаршэнне планавальных і інжынерна-тэхнічных параметраў пешаходных зон, ходнікаў, праездаў і іншых тэрыторый; перагружанасць тэрыторый дазенымі аб'ектамі, нізкая архітэктурна-эстэтычная якасць і афармленне».

Цікава, ці змогуць дэпутаты даць дэфініцыю паняццю «эстэтычны ўзровень гарадскога асяроддзя»? Актывісты кампаніі «Гавары праўду» параілі прадпрымальнікам звярнуцца да дэпутатаў Брэсцкага гарадскога Савета, і прычым персанальна да кожнага. Пад зваротам падпісалася 100 прадпрымальнікаў і каля 1000 жыхароў горада.

Адзначым, што ў 2004 годзе Брэсцкім гарвыканкамам было прынята рашэнне пра развіццё сучасных формаў гандлю і паслуг. Адпаведна, увесь дробнарознічны гандаль быў прыведзены ў адпаведнасць з гэтымі «сучаснымі формамі». Але праз 2 гады апынулася, што ўжо не адпавядае. Да таго ж улады неаднаразова заяўлялі, што аб'екты сферы гандлю і паслуг павінны быць у «пакрокавай дасягальнасці для грамадзян». Але супермаркет не ўпіхнеш у любое месца, і за запалкамі ездзіць у «Еўраопт» не сур'ёзна.



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## ПАМЯЦІ ПЯЧЭРСКАГА

Таццяна УЛАСЕНКА

**24 красавіка споўнілася 14 гадоў з дня гібелі лідара прадпрымальніцкага руху, грамадскага і палітычнага дзеяча Арнольда Пячэрскага.**

Сябры Руху салідарнасці «Разам» ушанавалі памяць Пячэрскага на Кальварыйскіх могілках, дзе ён пахаваны. Паводле афіцыйнай версіі, лідар прадпрымальніцкага руху загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Намеснік старшыні Руху салідарнасці «Разам» Аляксандр Макаеў адзначыў:

— Арнольд Пячэрскі быў забіты ў той страшны год, калі знікалі апаненты ўлады — дэмакратычныя палітыкі і лепшыя беларусы — Генадзь Карпенка, Юрый Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і іншыя. Арнольд быў кіраўніком прафсаюза «Садружнасць» па Мінску і Мінскай вобласці, сябрам БНФ «Адраджэнне».

Арнольд аб'ядноўваў вакол сябе самых актыўных прадпрымальнікаў, з'яўляўся арганізатарам першых прадпрымальніцкіх страйкаў, якія адбываліся на кірмашах «Дынама», «Камароўка». Ён фінансаваў працу некалькіх юрыстаў, якія па «гарачай лініі» аказвалі бясплатную дапамогу беларускім прадпрымальнікам. Дапамагаў Вячаславу Сіўчыку выдаваць прадпрымальніцкі бюлетэнь «Кірмаш».

— Памятаю Арнольда шчырым беларусам, які шмат што зрабіў для нашай Бацькаўшчыны, — узгадаў Вячаслаў Сіўчык. — У страшным 1999 годзе яго гібель стала самай балючай для мяне. Быў нанесены вельмі сур'ёзны ўдар па беларускім нацыянальным руху, бо Арнольд выконваў вельмі важныя функцыі. У яго дзейнасці арганічна перапляліся беларуская нацыянальная ідэя і сённяшнія эканамічныя інтарэсы беларускіх прадпрымальнікаў. Я веру, што калісьці беларускае грамадства даведаецца праўду пра так званую «аўтакатастрофу». Лічыў і лічу, што гэта было палітычнае забойства.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ШТРАФЫ — НАРОДУ, ГРОШЫ — НАСТАЎНІКАМ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вясна надышла, але праблемы не скончыліся. Мы ўсё яшчэ адварочваемся назад, зазіраючы ў зіму: а раптам пахаладнее? Азіраецца на зіму нават той, хто не мае да нашых «Хаўераў» аніякага дачынення.**

Інфляцыя ў Беларусі па выніках I квартала ў 10,8 разы перавысіла сярэдненеўрапейскі ўзровень, сведчыць агляд Расстата, падрыхтаваны на аснове публікацый агульнаеўрапейскага статыстычнага агенцтва Еўрастат і нацыянальных статыстычных дадзеных.

«Сярод разгляданых краін з пачатку бягучага года цэны больш за ўсё ўзраслі ў Беларусі (на 5,4%), Турцыі (на 2,9%), Нідэрландах (на 2,3%), Эстоніі (на 2,2%)», — гаворыцца ў паведамленні. У Расіі і Казахстане інфляцыя склала 1,9%, ва Украіне — 0,1%. У сярэднім па краінах ЕС рост коштаў з пачатку года склаў 0,5%.

Ну, пра 5,4% інфляцыі мы і без Расстату ведалі. А чаму так адбываецца? Хто вінаваты? Здавалася б, Мінэканомікі, бо цэны раслі ў асноўным на прадукцыю, кошт якой рэгулюецца дзяржавай. Але вось само Мінэканомікі так не лічыць.

Амаль 80% беларускіх прадпрымальнікаў не выконваюць цэнавае і антыманапольнае заканадаўства — перакладвае Міністэрства эканомікі праблему з хворай галавы на здаровую. Паводле паведамлення, у першым квартале 2013 года органамі цэнаўтварэння Беларусі праведзена 189 праверак суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, у тым ліку 87 пазапланавых праверак. Парушэнні цэнавага і антыманапольнага заканадаўства былі выяўлены ў 150 праверанных аб'ектаў. Па выніках 718 праверак у 2012 (у тым ліку 112 пазапланавых) парушэнні былі выяўлены ў 512 суб'ектаў.

Да суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія дапусцілі парушэнні заканадаўства, Дэпартаментам цэнавай палітыкі Мінэканомікі і гаспадарчымі судамі абласцей ужываліся штрафныя санкцыі. У 2012 годзе вынесена 811 пастаноў аб адміністрацыйным правапарушэнні ў выглядзе штрафу на 12,9 мільярда рублёў, у першым квартале 2013 года — 236 пастаноў на суму 356,1 мільёна рублёў. У даход бюджэту ў 2012 годзе і ў першым квартале 2013 года ўнесена 12,3 мільярда рублёў.

Ці верыце вы, што прадпрымальнік парушае антыманапольнае заканадаўства? Гы-гы тры разы. Канешне, шарыць па кішэнях прадпрымальнікаў, любым, нават самым абсурдным спосабам, выціскаючы з іх грошы, — гэта не праблема. Але чаму б не праверыць на антыманапольнасць такога манапаліста, як «Белтэлекам»? Альбо «Белпошту» з «Белсаюздрукам» як манапалістаў па распаўсюдзе газет? Менавіта праз гэтыя манаполіі «Новы час» не трапляе шмат да якіх чытачоў. На гэта ў Мінэканомікі рукі кароткія.

Ну што ж, бюджэт, хаця б штрафамі, але напаўняць трэба. Вось яшчэ адна структура далучылася да дзейнасці па напаўненні бюджэту. УП «Белтэхагляд» ініцыюе павелічэнне штрафаў за несвоечасовае праходжанне дзяржаўнага тэхагляду да 4 базавых велічынь (400 тысяч рублёў), а для легкавых аўтамабіляў, якія выкарыстоўваюцца для камерцыйных перавозак пасажыраў, — да 20 велічынь (2 мільёны). Згодна з дзейным заканадаўствам, дадзенае правапарушэнне караецца папярэджаннем або штрафам да 2 базавых велічынь. У цяперашні час прапановы УП «Белтэхагляд» разглядаюцца ў Міністэрстве транспарту і камунікацый.

Як паведамляе прэс-служба УП «Белтэхагляд», у канцы сакавіка падчас правядзення агульнарэспубліканскай дэкады «Дзяржтэхагляд» было праверана каля 24,7 тысячы аўтамабіляў, у трацiны з якіх былі выяўлены парушэнні тэрмінаў праходжання тэхагляду. Гэта ж якое неаранае поле для «стрыжкі купонаў» з простых грамадзян!

Лепш бы ўсе гэтыя Мінэканомікі і тэхагляды разбіраліся з іншымі рэчамі. Напрыклад, з нашай горача любімай і вельмі шаноўнай прамысловасцю, якая ўкладвае грошы проста ў паветра.

Напрыклад, на тыдні прадстаўнік Мінпрама РБ Вадзім Казлоў выпрошваў ва ўладаў Новасібірскай вобласці дапамогу для зборачнай вытворчасці «Магілёўліфтмаша». Справа ў тым, што «Магілёўліфтмаш» стварыў у Новасібірску сваё прадпрыемства, якое там аказалася нікому не патрэбнае. «Зборачная вытворчасць «Магілёўліфтмаша» была створана, але ў цяпер не працуе з адсутнасці падтрымкі з боку адміністрацыі Новасібірскай вобласці. Гатовыя ліфты закупляюцца, аднак зборачная вытворчасць не працуе», — заявіў Казлоў.

«Вытворчыя магутнасці дазваляюць выпускаць каля 400–500 ліфтаў на год. Беларускі бок зацікаўлены ў развіцці гэтага зборачнай вытворчасці. І хацелася б папрасіць падтрымку гэтаму праекту з боку адміністрацыі і мэрыі», — удакладніў беларускі чыноўнік, фактычна запатрабаваўшы заказы ліфтаў для новага жылля і замены старых ліфтаў на новыя ў наяўным жылфондзе.

Па словах Казлова, для стварэння зборачнай вытворчасці было выкуплена 3,3 тысячы квадратных метраў вытворчых плошчаў і 1,5 гектара зямлі на тэрыторыі былога завода «Сібсельмаш». Але, як высветлілася, Новасібірску гэтыя ліфты, як ужо казалася, не патрэбныя.

Колькі грошай было закапана ў гэтае прадпрыемства, можна толькі здагадвацца. Але ж без належнай прапрацоўкі рынку, без пакета заказаў, без ніякай маркетынгавай стратэгіі — стварылі вытворчасць, прасігналілі: «загад выкананы!» — і ўсё. Далей — сядзець без заказаў і без штаноў на сваіх трох тысячах квадратных метраў вытворчасці і 1,5 гектара зямлі. Хоць бы назад прадалі гэта прадпрыемства — за камунальныя паслугі не плацілі б…

Адзінае, што радуе ў гэтай агульнай сітуацыі з падаткамі, штрафамі і зборамі, дык хоць тое, што грошы нарэшце пойдуць таму, каму трэба. Калі яшчэ заплацім больш штрафаў, то з 1 ліпеня 2013 года будуць павышаны аклады выхавальнікам устаноў дашкольнай адукацыі. Згодна з пастановай Саўміна ад 22 красавіка 2013 года, аклады выхавальнікам будуць павышаны на 25%, памочнікам выхавальніка — на 10%.

Хоць нешта людзям перападзе, а не ўсё адно на разбазарванне.




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЯКСАНДР ГЛЕБ



Вядомы футбаліст Аляксандр Глеб атрымаў дыскваліфікацыю — на пяць гульняў. Такое рашэнне было прынята 22 красавіка ў Доме футбола на пасяджэнні Дысцыплінарнага камітэта Беларускай федэрацыі футбола (БФФ).

У ходзе пасяджэння быў разгледжаны эпізод з выдаленнем гульца ФК БАТЭ Аляксандра Глеба ў матчы 4 тура «Беларусбанк — чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболе сезона 2013 сярод каманд вышэйшай лігі» паміж ФК «Нёман» і ФК БАТЭ. Аляксандр Глеб быў выпраўджаны з поля за ўдар па твары цёзкі Анюкевіча без усялякіх бачных на тое прычын.

Дысцыплінарны камітэт прыняў рашэнне прымяніць у дачыненні да футбаліста каманды «БАТЭ» (Барысаў) Аляксандра Глеба дысцыплінарную санкцыю ў выглядзе часовай дыскваліфікацыі на ўдзел у футбольным матчы на пяць матчаў «Беларусбанк — чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболе сезона 2013 сярод каманд вышэйшай лігі», уключаючы матчы дублюючых складаў, за ўчыненае дысцыплінарнае парушэнне, адказнасць за якое прадугледжаная падпунктам 1.3 часткі 1 артыкула 38 «Агрэсіўныя паводзіны» і ў адпаведнасці з артыкуламі 15, 20, 64 Дысцыплінарнага кодэкса АБФФ.

Гэта рашэнне можа мець працяг: у БФФ сур'ёзна задумаліся над тым, каб скарэктаваць кодэкс. Хутчэй за ўсё, у бок узмацнення жорсткасці пакарання за падобныя парушэнні.

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ



Прэм'ер-міністр Беларусі, з выгляду «белы і пушысты», выступіў у незвычайнай для сябе ролі «злога паліцэйскага». На пасяджэнні Прэзідыума Савета міністраў 23 красавіка былі разгледжаны вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў першым квартале 2013 года.

Як паведаміла прэс-служба ўрада, дасягнутыя ў студзені-сакавіку вынікі працы эканомікі, па словах прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, можна назваць нядрэннымі толькі ў кантэксце агульнасусветных тэндэнцый запаволення глабальнай эканомікі. «Але калі глядзець з пункту гледжання выканання мэтавых паказчыкаў, якія вызначаны кіраўніком дзяржавы на 2013 год, я мяркую, што атрыманыя вынікі нікога не задавальняюць», — заявіў кіраўнік урада.

У цэлым характарызуючы сітуацыю ў эканоміцы, Мясніковіч заклікаў кіраўнікоў дзяржорганаў мабілізаваць намаганні для выканання пастаўленых на 2013 год задач. «Калі цяпер не паправіць становішча спраў, няма чаго чакаць і канца года, калі будзе дадзена ацэнка ўраду і аблвыканкамам кіраўніком дзяржавы, — адзначыў ён. — Таму калі ў нейкага міністра ці намесніка старшыні аблвыканкама, які курыруе адпаведны ўчастак, не атрымліваецца, будзьце мужыкамі — заяву на стол і шукайце іншую працу».

Раней пра «заяву на стол» казаў толькі Лукашэнка.

### ДУНЯ МІЯТАВІЧ



Прадстаўнік АБСЕ па свабодзе слова Дуня Міятавіч на канферэнцыі па бяспецы журналістаў, якая адкрылася 23 красавіка ў Варшаве, заявіла пра намер змагацца за беларускіх журналістаў. Адказваючы на пытанне сайта charter97.org, якія могуць быць задзейнічаны механізмы АБСЕ ўздзеяння на катастрафічнае становішча незалежных СМІ ў краіне, Міятавіч заявіла: «Наша роля, таксама, як і роля іншых міжнародных інстытутаў і арганізацый, не ў тым, каб змяніць палітычную сістэму ў вашай ці якой-небудзь іншай краіне. Яна складаецца ў тым, каб дамагчыся ад урада выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў. Беларусь застаецца ў нашым парадку дня. Я сачу за ўсімі спробамі падарваць свабоду выказвання меркавання. Я працую з беларускімі журналістамі — як з тымі, хто знаходзіцца ўнутры краіны, так і з тымі, хто жыве па-за яе межамі. Хутка я паспрабую наведаць Беларусь. Спадзяюся, што гэта адбудзецца ў бліжэйшы час».

«Я не магу ўказваць Лукашэнку ці іншаму кіраўніку дзяржавы, але я магу асвятляць іх дзеянні, якія не адпавядаюць абавязацельствам, выконваць якія яны пагадзіліся. Я буду працягваць рабіць гэта, не саромеючыся, і без якіх-небудзь ваганняў для таго, каб журналісты ў Беларусі і іншых краінах не былі абмежаваныя ў сваёй працы», — заявіла Міятавіч.

ПАРТРЭТ

# АНДРЭЙ КЛІМАЎ

Аляксандр ТАМКОВІЧ



Андрэй Клімаў

**У сярэдзіне 1990-х Андрэй Клімаў уваходзіў у пяцёрку самых вядомых бізнэсмэнаў Беларусі. А таксама ў кагорту самых яркіх палітыкаў — маладых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканння. А яшчэ быў выдаўцом «Газеты Андрэя Клімава». Аўтарам 9 кніг. І ва ўсіх сваіх іпастасях з'яўляўся адным з самых рэзкіх апанентаў Аляксандра Лукашэнкі. Усё абярнулася для яго гадамі зняволення і пакут. Навошта? Спадзяюся, на гэта пытанне і адкажа мой нарыс.**

## Шляхецкія карані

Сваім днём народзінаў — 17 верасня 1965 года — Андрэй Клімаў крыху незадаволены. Перш за ўсё, стагоддзем. З сумнай іроніяй адзначае, што нарадзіцца яму трэба было ў сярэднявеччы. Пажадана, у Вялікім Княстве Літоўскім, дзе за імкненне да шчасця сваёй краіны не кідалі за краты...

Калі вучыўся ў чацвёртым класе, маці ўладкавала яго яшчэ і ў спартовую школу па плаванне. Трэніроўкі — двойчы на дзень. А пасля, ужо па ўласным жаданні — футбол-хакей з сябрамі. Часу на вучобу амаль не заставалася, але на «добра» пры яго здольнасцях хапала. Неўзабаве да захаплення спортам дадалося захапленне кнігамі.

Маці Андрэя паходзіць з вядомага ўкраінскага шляхецкага роду Піваваравых, некалі дастаткова заможнага. Але ген багацця перадаўся ёй у крыху іншым выглядзе — багацце душы. Гонар і годнасць — найвышэй за ўсё — навука ад маці.

Як успамінае Андрэй, яна ніколі не шкадавала грошы на тры рэчы — садавіна, адпачынак і кнігі. Запойнае чытанне кніг стала падмуркам фармавання яго характару, самой асобы Андрэя Клімава.

Калі хто памятае, у савецкія часы было шмат розных дэфіцытаў, сярод якіх кнігі займалі адно з самых пачэсных месцаў. Некаторыя кнігі можна было набыць толькі пасля таго, як здасі 10 кілаграмаў макулатуры і атрымаеш адпаведны талончык. Андрэй Клімаў сабраў так каля двухсот кніг.

## Юнацкая наіўнасць

У 1983 годзе Андрэй даволі паспяхова скончыў школу і курсы англійскай мовы пры сталічным Доме афіцэраў, на той час прэстыжныя і якасныя. Мабыць, гэта і дало падставу замахнуцца на знакаміты Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін.

Крута, але і наіўна. У чым Андрэй хутка і ўпэўніўся. Для паступлення туды абавязкова патрабавалася накіраванне ад камсамола, па вертыкалі да ЦК уключна. Там Андрэя Клімава бачылі першы раз, і, як трэба было чакаць, паслалі...

Так ён амаль упершыню ў жыцці сутыкнуўся з савецкімі рэаліямі, і на два месяцы сышоў у дэпрэсію. Нікога не хацелася бачыць, а калі служыць у войску, дык толькі ў Афганістане — каб там геройскі загінуць.

Маці адчула гэтыя настроі і расказала пра Львоўскае пажарна-тэхнічнае вучылішча: справа для сапраўдных мужчын — і спорт, і рызыка. Паступіў, скончыў з чырвоным дыпломам у 1986 годзе. Да слова, нашмат раней гэтае ж вучылішча скончыў другі добра вядомы персанаж беларускай палітыкі — спікер Вярхоўнага Савета 12-га скліканння Мечыслаў Іванавіч Грыб.

## Дарослая праблема

Накіравалі Андрэя Клімава ў Мінск. Начальнікам каравулу пажарнай часткі нумар пяць. Не будзем у тысячны раз узгадваць анекдоты пра пажарнікаў. Адзначым толькі: шмат што з першага ж дня службы пачало ў маладога лейтэнанта выклікаць абурэнне, асабліва выпадкі, калі падначаленыя прыходзілі на службу «пад мухай». Дысцыпліну наводзіў цвёрдай рукой. Хутка начальнік пажарнай часткі ў якасці пакарання парушальнікам увёў: «Пойдзеш у каравул да Клімава»...

Львоўскае пажарна-тэхнічнае вучылішча не давала вышэйшай адукацыі, таму праз год работы Андрэй Клімаў прыйшоў у аддзел кадраў УУС Мінгарвыканкама з просьбай накіраваць яго для паступлення на гістарычны факультэт БДУ.

Выбар для пажарніка, мякка кажучы, неардынарны. Яму адмовілі і настойліва параілі ісці ў Вышэйшую пажарную школу. Клімаў упёрся. Кампрамісам стаў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту.

Было гэта ў 1987 годзе, а скончыць універсітэт ён змог толькі ў 2010-м, пасля трох турэмных тэрмінаў. Хаця сам Андрэй гаворыць пра чатыры. Справа ў тым, што ў 2006 годзе яго арыштавалі, калі ён адбываў «хімію» ў Баршчоўцы, і за быццам бы лаянку на тыдзень закрылі ў рэчыцкую турму. Па ўсім зразумеламу супадзенню, гэты арышт прыйшоўся на дзень прэзідэнцкіх выбараў...

## Небяспечны выбар

Не буду пералічваць прыступкі кароткай і вельмі паспяховай кар'еры Андрэя Клімава. Адзначу толькі, што ўжо праз тры гады ён працаваў на прэстыжнай пасадзе ў Галоўным упраўленні пажарнай аховы МУС БССР. Адтуль і звольніўся пасля першай жа паездкі за межы Савецкага Саюза — у Польшчу ў 1991 годзе. Нават тых уражанняў хапіла, каб адчуць, якой на самай справе можа быць свабода.

Звольніўся ў жніўні 1991-га, а ўжо ў лістападзе стварыў Малое прадпрыемства Андрэя Клімава, якое займалася гандлем нерухомасцю, будаўніцтвам, фінансамі, машынабудаваннем і кансалтынгавымі паслугамі. У 1994 годзе на яго базе былі створаны ААТ «Андрэй Клімаў і К», «Мінскі прыватны банк Андрэя Клімава» і «Газета Андрэя Клімава».

На гэты конт прыходзілася чуць шмат розных ацэнак, у тым ліку нядобразычлівых. Я ж не бачу ў гэтым чагосьці экстраардынарнага. Кіраўнік пэўнай справы павінен адказваць за яе якасць сваім прозвішчам.

У 1995 годзе пачаўся палітычны этап жыцця Андрэя Клімава. Ведаю, шмат хто да дэпутацкіх мандатаў вядомых бізнэсмэнаў ставіцца, мякка кажучы, скептычна. І часта мае на тое рацыю, але тут выпадак асобны.

Андрэй Клімаў не толькі перамог у сумленнай барацьбе на выбарах у Вярхоўны Савет 13-га скліканння, але і потым неаднойчы сваімі дзеяннямі пераканаўча пацвердзіў, што і ў палітыцы, і ў жыцці ён кіруецца асабістым сумленнем і рэальнымі інтарэсамі людзей.

Гэта не проста словы з якой-небудзь чарговай улёткі. Гэта стала падмуркам для трох крымінальных спраў...

## Песімістычны аптымізм

У 1996 годзе Андрэй Клімаў, на той момант сябар пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Вярхоўнага Савета, быў сярод тых дэпутатаў, хто падпісаў імпічмент Лукашэнку. Як лічаць многія, гэта і стала сапраўднай прычынай першай крымінальнай справы. Хаця афіцыйная фармулёўка прысуду была іншай.

Андрэя Клімава арыштавалі 11 лютага 1998 года, а 17 сакавіка 2000-га пакаралі шасцю гадамі зняволення. За тое, што ён скраў у сябе самога буйную суму грошай і здзейсніў такім чынам «крадзеж у асабліва буйных памерах». Спачатку называлася «неліцэнзійная дзейнасць», але потым ад яе адмовіліся.

Умоўна-датэрміновае вызваленне прыйшлося на 2002 год, на 25 сакавіка, на Дзень Волі. На той жа дзень, праз тры гады, ён заклікаў людзей выйсці на Кастрычніцкую плошчу, назваўшы гэтую акцыю «рэвалюцыяй». Як вынік — зноў апынуўся за кратамі.

Яму далі паўтары гады «хіміі». Першапачаткова адбываў пакаранне ў недалёкіх ад Мінску Крупках, што стала прычынай даволі частых візітаў сяброўапазіцыянераў, і Клімава перавялі ў вёску Баршчоўка Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

У снежні 2006 года тэрмін пакарання скончыўся, але на волі давялося пабыць зусім не доўга. Праз тры месяцы Андрэя Клімава зноў арыштавалі. На гэты раз за «абразу прэзідэнта» і заклік да «неканстуцыйнай змены існуючага ладу», якія нехта ўбачыў у кнізе «Прагулка з вампірам».

Арыштавалі яго 3 красавіка 2007 года, а 1 жніўня Цэнтральны суд Мінска вынес у пэўным сэнсе этапны прысуд: Клімаў стаў першым беларускім апазіцыянерам, якога пакаралі зняволеннем ва ўмовах строгага рэжыму. На два гады. Кнігу ж загадалі знішчыць.

Паўгода Андрэй правеў на Валадарцы, дзе з сардэчным прыступам трапіў у турэмную бальніцу, пасля яго перавялі ў мазырскую калонію строгага рэжыму №20. Ён вытрымаў неверагодны ціск. Але нечакана быў вызвалены, шчасліва трапіўшы пад чарговы віток дэманстрацыі змякчэння палітычнай сітуацыі ў краіне.

Напэўна, нехта пасля такіх выпрабаванняў лёсу сцішыў бы актыўнасць, але гэта не пра Клімава. У 2010 годзе ён уступіў у рух «За Свабоду» і вельмі абураецца размовамі пра яго «сыход у цень». Гэтак жа як, і пра выхад з партыі. Таму акцэнтую ўвагу: Андрэй Клімаў уступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю ў 1997 годзе і з яе шэрагаў ніколі не выходзіў.

На сітуацыю ў краіне глядзіць са своеасаблівым песімістычным аптымізмам. То бок, верыць, што перамены хутка надыдуць, але хвалюецца наконт нашай да іх непадрыхтаванасці.

У 2012 годзе Андрэй Клімаў стварыў і ўзначаліў інвестыцыйную кампанію «Дэстком», якая дзейнічае ад англійскага фонду «Mainerinvestment». Кампанія займаецца падрыхтоўкай інвестыцыйных пляцовак для будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў, гасцініц, гандлёвых цэнтраў, стварэннем банкаў.

Напэўна, пералік яго пасад і заняткаў з часам дапоўніцца новымі, але дакладна ведаю, што там не будзе адной. Андрэй Клімаў прынцыпова не хоча быць прэзідэнтам Беларусі. Нюанс для нашага апазіцыйнага асяроддзя цікавы...




Photo.ByMedia.Net

Рэвалюцыя Андрэя Клімава, 25 сакавіка 2005 г.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПАМІЖ ВЫГАДАЙ І НЕБЯСПЕКАЙ

Сяргей ПУЛЬША

**Паведамленне пра размяшчэнне расійскіх ваенных самалётаў-знішчальнікаў на Беларусі выклікала на гэтым тыдні бурныя абмеркаванні.**

Прычым міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу і Аляксандр Лукашэнка заявілі пра гэта нібыта як пра здзейснены факт. Быццам бы і не трэба вывучаць грамадскае меркаванне, быццам бы і не павінна гэтае пагадненне быць зацверджанае парламентамі двух краін. А калі гэта ўжо «амаль факт», то і ставіцца да гэтага трэба з боку выгады Беларусі.

Першае, што варта падкрэсліць: расійскія знішчальнікі на Беларусі — гэта авіяцыя супрацьпаветранай абароны. Іншымі словамі, гэта не ўдарная авіяцыя, якая пры выпадку можа бамбіць Варшаву ці Вільню. Гэта перахопнікі, што павінны збіваць ракеты і самалёты, якія перасякаюць мяжу Беларусі. Верагодна, гэта будуць самалёты Су–30. Самалёт прызначаны для кіравання групавымі баявымі дзеяннямі знішчальнікаў пры вырашэнні задач заваёвы панавання ў паветры, забеспячэння баявых дзеянняў іншых родаў авіяцыі, прыкрыцця наземных войскаў і аб'ектаў, знішчэння дэсантаў у паветры, а таксама для вядзення паветранай разведкі і знішчэння наземных або надводных цэляў. Пагадзіцеся, паміж Су–30 і стратэгічным бамбардзіроўшчыкам ёсць вялікая розніца.

Пры размове Шайгу і Лукашэнкі казалася пра тое, што ў Беларусі асядзе цэлы полк «сушак». Ці здолее Беларусь прыняць такую колькасць самалётаў?

Як кажа ваенны эксперт Аляксандр Алесін, Беларусь на многае здольная, тым больш, што авіяцыйны полк Расіі, як правіла, складаецца з 24 баявых самалётаў. «Беларусь проста насычаная аэравузламі, якія засталіся нам з савецкіх часоў. Гэта Баранавічы, дзе ў нас 61-я авіябаза, гэта Бяроза, дзе базаваліся знішчальнікі, а зараз, здаецца, цэнтр беспілотнай авіяцыі, гэта Рось, дзе базаваліся бамбардзіроўшчыкі Су–24, Мачулішчы, Бабруйск, Быхаў, дзе базавалася марская авіяцыя. Пытанне толькі ў тым, які з аб'ектаў у лепшым стане», — кажа Алесін.

Паводле яго слоў, расійская ваенныя зацікаўленыя ў тым, каб база была паблізу ад Баранавічаў. Па-першае, гэта не «закінуты аб'ект часоў СССР», а па-другое — побач авіярамонтны завод, дзе можна абслугоўваць і рамантаваць тэхніку.

Шматлікія апазіцыйныя колы пабачылі ў гэтых планах нейкую «расійскую агрэсію», «пагрозу незалежнасці» і гэтак далей. У Беларусі і так існуюць дзве расійскія базы. Гэта радыёлакацыйныя і сувязныя станцыі ў Ганцавічах і Вілейцы. З ваеннага пункту гледжання, менавіта яны, а не расійскі авіяполк, прадстаўляюць найбольшую пагрозу для Беларусі.

Справа ў тым, што ў выпадку ўзброенага канфлікту паміж Расіяй і Захадам, менавіта РЛС у Ганцавічах і Вілейцы будуць першыя сцёртыя з твару зямлі. Бо яны забяспечваюць супрацьпаветраную абарону Масквы (Ганцавічы) і па іх праходзяць загады да атамных падводных лодак (Вілейка). Дзе б ні размясціўся расійскі авіяполк, ён будзе базай «другога ўдару». Нават удару будуць падлягаць не самі самалёты, а інфраструктура — узлётныя палосы, склады з палівам і гэтак далей. А такога дабра ў Беларусі хапае.

Існуе, канешне, і экалагічная небяспека, бо паліва і змазка самалётаў — гэта не жартачкі. Але, на думку Алесіна, «дзякуючы» спадчыне СССР, Беларусь падэкалагічным ударам не апынецца. Проста таму, што падрыхтаваныя пляцоўкі для авіябазаў, з усімі ўзлётнымі паласамі, сховішчамі паліва і змазкі, існуюць практычна ў гатовым выглядзе: прыходзь ды забірай. Толькі ўпарадкаваннем і дробным рамонтам заняцца, канешне, будзе трэба. Дзе больш, дзе менш, але гэтыя савецкія аб'екты захаваныя.

Да таго ж, апошнім часам Беларусь значна скараціла свой «баявы авіяпарк». Беларусь вывела з эксплуатацыі 35 франтавых бамбардзіроўшчыкаў Су–24, не лятаюць 14 самалётаў Су–27 той жа 61-й авіябазы ў Баранавічах, а замяніць іх пакуль нічым не здолелі. Дэфіцыт беларускай арміі зараз — каля 50 самалётаў. Калі лятаць будуць 20 расійскіх замест 50 беларускіх, шмат шкоды экалогіі не будзе.

Самае ж вялікае пытанне — кошт авіябазы. Аналагічны аб'ект NATO такога кшталту знаходзіцца ў Кыргызстане. Гэта база «Манас». Першапачаткова ЗША арандавалі гэта месца за 15 мільёнаў долараў у год. У маі 2006 года Курманбек Бакіеў заявіў пра намер павысіць арэндную плату за авіябазу з 15 да 207 мільёнаў долараў. У выніку доўгіх перамоваў было падпісана пагадненне аб тым, што ЗША будуць аказваць штогадовую дапамогу Кыргызстану ў памеры 60 мільёнаў долараў ЗША, уключаючы плату за арэнду авіябазы.

«Ганцавічы і Вілейка абыходзяцца Расіі па стаўцы «арэнда нуль». То бок, яна за іх не плаціць», — кажа Алесін, і плануе, што з авіяцыйнай базай будзе тое ж самае. Справа ў тым, што паміж Расіяй і Беларуссю ў вайсковым накірунку вельмі развіты «бартэр». Расія не плаціць за Вілейку, але дазваляе ў адказ беларускаму войску бясплатна карыстацца палігонам «Ашулук», дае ракеты і мішэні. Расія не плаціць за Ганцавічы, але Беларусь мае прэферэнцыі ў пастаўцы расійскіх нафтапрадуктаў, газа і гэтак далей.

«Я не выключаю таго, што з прылётам у Беларусь першага звяна расійскіх знішчальнікаў раптам вырашацца ўсе праблемы па нафтавым балансе. Прылёт авіяпалка дазволіць Беларусі на больш выгадных умовах стварыць холдынг «МАЗ — КамАЗ» альбо каапераць расійскіх прадпрыемстваў ВПК з Мінскім заводам колавых цягачоў. То бок, адсутнасць арэнднай платы Расія нам кампенсуе неграшовымі прэферэнцыямі. І зноў будзе бартэр», — лічыць Алесін.

Таму, калі пытанне пра базу ўжо вырашана, трэба думаць, як атрымаць ад яе максімальны даход пры мінімальных унёсках. І першыя вынікі гэтага ўжо ёсць — Расія пагадзілася паставіць у Беларусь чатыры дывізіёны ракетных комплексаў С–300. Праўда, з 2007 года Беларусь спадзяецца атрымаць комплексы С–400. Але даронаму каню ў зубы не глядзяць.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# АГП + ПАРНАС = СУПРАЦОЎНІЦТВА

Генадзь КЕСНЕР

**Лідары беларускай Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і Рэспубліканскай партыі Расіі — Партыі народнай свабоды (РПР-ПАРНАС) Барыс Нямцоў 24 красавіка падпісалі заяву аб супрацоўніцтве.**



Барыс Нямцоў і Анатоль Лябедзька

Барыс Нямцоў перад пачаткам сустрэчы з журналістамі адзначыў, што гэтым разам яго ў Мінску сустрэлі вельмі ветліва. Даволі прыязна да яго паставіліся ў аэрапорце і ў сталічным гатэлі, персанал якога нават папрасіў сфатаграфавацца для стэнду ганаровых гасцей гэтай гасцініцы. «Ці не пераблыталі вы мяне з Кірковым?» — запытаўся Нямцоў, на што супрацоўнікі «Вікторыі» адказалі калектыўным смехам. Нагадаем, што 23 кастрычніка 2002 года Барыса Нямцова, Ірыну Хакамаду і Сяргея Маркава беларускія службоўцы не выпусцілі з мінскага аэрапорта і адправілі назад на радзіму.

Сустрэча з журналістамі адразу пачалася з падпісання Заявы аб супрацоўніцтве АГП і РПР-ПАРНАС. Падпісанты дакумента заяўляюць, што прызнаюць адна адну «сяброўскімі партыямі з падобным светапоглядам», кажуць пра намер «цесна супрацоўнічаць па абмену важнымі партыйнымі напрацоўкамі, інфармацыяй аб дзейнасці партыяў», «садзейнічаць развіццю і ўмацаванню сяброўскіх адносінаў і супрацоўніцтву паміж народамі Беларусі і Расійскай Федэрацыі ў сферы палітыкі, культуры, эканомікі, бізнэсу» і гэтак далей. Прычым абодва бакі падкрэслілі, што яны сыходзяць з прызнання прыярытэтаў правоў чалавека, дэмакратыі і ліберальнай эканомікі.

«Мы мелі такое ж міжпартыйнае пагадненне з СПС, але так атрымалася, што працягласць палітычнага жыцця АГП аказалася большай, — адзначыў Анатоль Лябедзька. — Тым не менш, у нас ёсць падмурак нашых адносінаў — гэта правераныя часам і гісторыяй нашы стасункі, а таксама мэты ў нас аднолькавыя: і АГП у Беларусі, і РПР-ПАРНАС у Расіі бачаць сваёй задачай вярнуць свае краіны да дэмакратычнага развіцця. І мы будзем спрыяць адзін аднаму, каб наблізіць нашы краіны, нашых грамадзян да гэтай мэты».

Са словамі беларускага палітыка пагадзіўся Барыс Нямцоў. «Мы б хацелі, каб і Беларусь, і Расія сталі дэмакратыямі, каб у нашых краінах мянялася ўлада, каб не было цэнзуры, каб у нашых краінах быў незалежны суд, а народы мелі магчымасць ведаць многае, а не быць проста статыстамі, — падкрэсліў сустаршыня РПР-ПАРНАС. — Мы выступаем супраць дыктатуры, за вызваленне палітзняволеных. Да вялікага сораму, я нават не мог сабе ўявіць, што буду вымушаны прызнаць, што ў Расіі палітвязняў больш, чым сёння ў Беларусі, што Расія зараз сямімільнымі крокамі ідзе па шляху Лукашэнкі, і Пуцін, які не ёсць вялікім аматарам Лукашэнкі, а ў іх узаемная нянавісць, тымі не менш, паўтарае ўсе тыя гнюснасці, якія насаджаюцца ў Беларусі доўгія гады».

Паводле слоў Нямцова, ён шчыра вельмі хоча, каб Беларусь стала свабоднай. «Калі вы станеце свабоднымі, то і ў Расіі з'явіцца шанс стаць свабоднай. Я лічу, што ў вас, нягледзячы на драматызм гэтай шматгадовай дыктатуры, шансаў стаць свабоднай, гордай, дэмакратычнай еўрапейскай краінай больш, чым у Расіі. Па-першае, таму, што ў вас па відавочных прычынах няма імперскіх комплексаў, па-другое, вы — абсалютная сарцавіна Еўропы. Да таго ж, у вас няма Каўказу, а гэта, дарэчы, вельмі важны фактар. Апроч таго, і народ у вас вельмі адукаваны, і Еўропа вельмі блізка, так што калі ў вас атрымаецца, то і ў нас, магчыма, таксама», — сказаў расійскі апазіцыянер.

Прыезд у Мінск Барыса Нямцова практычна супаў з візітам міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу. Таму і большасць пытанняў да расійскага апазіцыянера былі звязаныя з намерам Расіі размясціць у 2014 годзе ў Беларусі чатыры дывізіёны комплексаў С–300, а таксама авіябазу расійскіх ваенных знішчальнікаў.

«Лукашэнкаўская Беларусь і Пуцінская Расія ўваходзяць у такі пояс дыктатураў, якія лічаць сваім галоўным ворагам Захад. Гэта абсурд, але гэта факт. Большай нянавісці да Захаду, як у Пуціна, я, шчыра кажучы, ні ў каго не бачыў. Мяркую, што Лукашэнка ў гэтым сэнсе падзяляе яго погляды. Асабіста я лічу, што пагроза Расіі — зусім не з Захаду, але з Кітаю ды фундаменталісцкіх ісламскіх рэжымаў, якія знаходзяцца на поўдзень ад расійскіх межаў. А навошта гэта трэба Лукашэнку? Па-першае, відаць, ён лічыць, што пасля гэтага нічога не будзе пагражаць ягонай асабістай уладзе з боку Захаду. Але галоўнае, на мой погляд, Лукашэнка гэта патрэбна для гандлю, — мяркуе Барыс Нямцоў. — Далей ён зможа сказаць: не дасце мне грошай, я ў вас базу зачыню, ці яшчэ нешта такое».

«Я лічу, што Беларусь — гэта незалежная дзяржава, і я ўпэўнены, што беларускі народ ніколі ўжо не адмовіцца ад незалежнасці. Таму спробы зрабіць краіну залежнай пры дапамозе ваенных баз — гэта поўнае глупства. У мяне не ўзнікае сумненняў, што Лукашэнка будзе патрабаваць за размяшчэнне гэтых баз танных нафты і газу. Але ў мяне няма сумневу, што ўсе гэтыя выгоды не дойдуць да беларускага народа. Толькі вось гарантавана адно, што расійскія эскадрыллі ў выпадку чаго дакладна не будуць выкарыстаныя супраць беларускага народа», — упэўнены Барыс Нямцоў.

«Я быў бы рады, калі б замест аэрадрому былі ўкладзены расійскія інвестыцыі і пабудаваны нейкі завод з перадавымі тэхналогіямі, куды б пайшлі працаваць беларускія грамадзяне на добрыя заробкі пасля добрага навучання. Тады б у гэтым была логіка. А вітаць мілітарысцкі дух, падтрыку Аляксандра Лукашэнкі мы не можам, гэта тупіковы шлях», — падкрэсліў Анатоль Лябедзька.

«Лукашэнка пагадзіўся з Шайгу роўна дзеля таго, каб у ягоных руках з'явіліся новыя інструменты шантажу Расіі. Гэта — пастка для Пуціна. Я не вялікі аматар Пуціна, але сумна бачыць, як за час ягонага кіравання Лукашэнка выцягнуў з Расіі сто мільярдаў долараў, прычым не на карысць народа Беларусі, але на сваю асабістую карысць. А цяпер ён атрымае яшчэ адзін дадатковы рычаг ціску на Маскву», — дадаў Барыс Нямцоў.

▸ СПАДЧЫНА

# ЗНІКАЮЧАЯ ГІСТОРЫЯ ГОМЕЛЯ

Андрэй ПАПОЎ

**Валатоўская, Арцёма, Парыжскай камуны, Карла Маркса — вуліцы былога элітнага раёну Гомеля паступова забудоўваюцца наваробамі. І адбываецца гэта за кошт вандальнага руйнавання гомельскай даўніны.**


Забудова па Валатоўскай

«Свісток» — менавіта так некалі называлася частка Гомеля ў межах вуліц Валатоўская, Сожская, Парыжскай Камуны, Карла Маркса. Тут у сярэдзіне і ў канцы XIX стагоддзя жылі заможныя грамадзяне і чыноўнікі гомельскай управы і жандармерыі. Тут і па сённяшні дзень захаваліся масіўныя драўляныя дамы з карункавымі стаўнямі, аканіцамі і шыбамі. З арнаментамі і сімваламі даўно мінулых часоў. Цікавыя гэтыя аб'екты тым, што спосабы іх узвядзення і ўпрыгожання характэрныя менавіта для Гомельскага Палесся.

— У Гомелі ёсць свая каштоўная перліна, свая цікавостка. Тое, чаго ўжо амаль не знайсці ў іншых краінах Еўропы, — распавядае навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея Андрэй Скідан. — Гэта — гарадская драўляная забудова, наш Стары Горад. І, на жаль, ён больш цікавы для гасцей Гомеля, чым для саміх гамяльчан. Нашай драўлянай забудове пагражае поўнае забыццё, калі не сказаць больш. Работа па захаванню былога «Свістка» пачалася яшчэ ў далёкім 1987 годзе. Тады гэты раён пачалі актыўна забудоўваць новымі панельнымі дамамі. Вучоныя-гісторыкі Гомельшчыны былі не на жарт заклапочаныя паступовым зносам цікавых драўляных домікаў. Дарэчы, яны перасталі нават Вялікую Айчынную і паспяхова перажылі акупацыю.

Валанцёрамі-краязнаўцамі быў назапашаны вялікі матэрыял па ўсіх помніках даўніны Паўднёвага Усходу Беларусі. Сабраны матэрыял стварыў падставу лічыць Гомельшчыну зонай існавання ўнікальнай архітэктурнай дамовай разьбы. Актыўнае развіццё гэты напрамак драўлянага дойлідства атрымаў з другой паловы XIX стагоддзя. А карані яго ў далёкім XVI стагоддзі — калі на гомельскіх землях сталі з'яўляцца стараверы. Яны шукалі ў нас прытулку ад прыгнёту ўлады маскоўскага цара, беглі да нас з расійскіх тэрыторый. Адсюль вялікае падабенства гомельскай разьбы да разьбы Валагодчыны, Тульскай, Уладзімірскай і Маскоўскай абласцей. Майстры былі самі старaверамі, і родам адтуль. Веды і канструкцыі малюнкаў перадавалі ад дзеда да ўнука — і да XIX стагоддзя ўключна. Кожны стары гарадскі дом у Гомелі патрабуе скрупулёзнага аналізу. Гэтыя дамы старыя, але трывалыя. У іх спалучаецца архітэктура і дэкаратыўнае ўбранства.

Для нас драўляны дамовы дэкор хутчэй правінцыйны, вясковы стыль. Але начытаныя іншаземцы звяртаюць увагу менавіта на гэта! Замест гэтых артэфактаў гасцям паказваюць палац Паскевіча.

Гомельшчына налічвае цэлыя кварталы дамоў з архітэктурна-дамавой разьбой, імі валодалі як багачы, так і простыя людзі. Як не дзіўна, але ў народнай архітэктуры майстры нярэдка выкарыстоўвалі элементы мастацкіх стыляў. У архітэктуры дамоў былога «Свістка» можна прасачыць элементы класіцызму, ар-дэко, канструктывізму.

Ёсць дамы з гісторыяй. У доме па Валатоўскай, 23 па легендзе, пражыла апошнія гады мецэнатка Ірына Паскевіч. У 1932 годзе будынак гэты быў аддадзены музычнаму тэхнікуму. У ім выкладалі знакамітыя кампазітары Канстанцін Пукст і Аляксей Туранкоў. І як цяжка бачыць зараз сыход у нябыт гэтых унікальных помнікаў.

З пачаткам 2000-х гадоў грамадскія актывісты і вучоныя спрабуюць зрабіць усё ад іх залежнае для захавання драўляных помнікаў Гомельшчыны. За іх змагаюцца гомельскае аддзяленне ТБМ і «Талакі», актывісты з моладзевых аб'яднанняў. Вялікую працу зрабілі Андрусь Цянюта, Яўген Якавенка, Кастусь Жукоўскі, Марыя Булавінская, Ларыса Шчыракова і многія іншыя неабыякавыя гамяльчане. Адна з апошніх кампаній па захаванні помнікаў — збор подпісаў. Подпісы за захаванне драўлянай забудовы былога раёна «Свісток» на вуліцах Гомеля збіралі сябры ТБМ і «Талакі».

«Пазіцыі Мінкульта, што ў свой час замарозіў знос будынкаў у старой частцы Гомеля, і ўладаў горада наконт драўлянай даўніны вядомыя, — тлумачыць прадстаўніца ТБМ Марыя Булавінская. — Робім усё, што ад нас залежыць. Застаецца спадзявацца, што будзе плён. Раней захаванне ігнаравалася, бо зямля ў цэнтры гораду дарагая. Улады зносілі дамкі пакрысе. А зараз яны думаюць, як вырашыць праблему, бо насамрэч буйная кампанія распачалася менавіта зараз, хаця да чыноўнікаў актывісты звярталіся і раней».

Шмат захадаў рабілася гомельскімі чыноўнікамі ўпотай. Ужо сакавіку 2011 года ўлады прынялі рашэнне — будынкі каштоўныя, але аварыйныя. Іх няма сэнсу зберагаць. Знеслі будынак па Валатоўскай, 23. І музей гісторыі Гомеля не захаваў рэліквіяў з таго дома — ліштваў, аканіц, часцінак дэкору. Вось прыклад, калі яшчэ адзін стары гомельскі будынак знеслі ціха.

Гэты выпадак прымусіў актывістаў і навукоўцаў адсочваць сітуацыю больш дэтальна. Напачатку сакавіка ў памяшканні СШ №1 Гомеля адбыліся грамадскія слуханні па пытанні будоўлі буйным сталічным інвестарам 10-павярховага шматкватэрнага жылога дома па вуліцы Валатоўскай. Гэта якраз тэрыторыя драўлянай забудовы былога «Свістка». Слуханні прайшлі ў вельмі эмацыйным рэчышчы. Мясцовы дэпутат спрабаваў пераканаць людзей, якое шчасце іх чакае, калі інвестар возьмецца за будоўлю. Рэсурс spasemstrany.com паведамляе, што са 115 чалавек — жыхароў Валатоўскай, толькі 15 былі «за» ўзвядзенне новага дома коштам зносу старой забудовы.

На сённяшні дзень працуе створаная пры Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту камісія па прызнанню дамоў былога «Свістка» годнымі да захавання. Міністэрства культуры таксама разглядае заяўку на наданне статусу помнікаў дойлідства дамам «Свістка». Што далей — пакажа час. А пакуль мы бачым, як дом, у якім жыла княгіня, унучка апекуна Гомеля князя Паскевіча, расцягваюць па цаглінe «ўдзячныя нашчадкі».

▸ ЭСЭ

# НЯЗРУЧНЫ ГЕРОЙ

Алесь КІРКЕВІЧ

**«Каліновец» — гэта не прыналежнасць да польскага навучальнага закладу, а нацыянальная азнака: роўна як «бандэравец», «маскаль» альбо… «бульбаш».**


Алесь Кіркевіч

«…Замоўчваецца яго [Каліноўскага] роля ў арганізацыі масавага тэрору супраць суайчыннікаў, калі за адзін месяц забівалі да 600 нязгодных», — гэта не Гігін у перакладзе на беларускую мову, і нават не цытата з падручніка Трашчанка. Гэта — усяго адзін сказ з артыкула Віктара Хурсіка «Невядомае паўстанне 1863 года» ў адной буйной незалежнай газеце.

Артыкул нібыта антымаскоўскі: даволі малянічa апісваюцца казакі, нагайкі, спаленыя маёнткі, але пры гэтым паўстанцы аказваюцца такімі ж бандытамі, як і расейскія рэгулярныя часткі. Чаму так?

Хурсіка зразумець не складана. Аўтар працы «Кроў і попел Дражна», пра вёску, спаленую падчас вайны чырвонымі партызанамі з атраду імя Кутузава, проста перакладае стэрэатып Другой сусветнай вайны, дзе беларусам сапраўды былі чужымі абодва бакі, на Паўстанне 1863 года. Але чаму паўстанне? Чаму Каліноўскі?

Знішчэнне нацыянальнага міфу праз знішчэнне герояў — азнака прыніжаных нацыяў, якія знаходзяцца пад акупацыяй. Так пасля вайны было з Японіяй адносна традыцыйнага культу самураяў. Германія — наогул асобны выпадак: дастаткова пацікавіцца апошнімі пастановамі операў Вагнера ў Байрэйце, дзе Вальхала — офіс вялікай кампаніі, у якім валькіры фарбуюць сабе пазногці, не адыходзячы ад працоўнага месца…

Каліноўскі, асоба нацыятворная, безумоўна, герой нязручны. Шляхціц, а не лайдак з вясковымі комплексамі. Уніят, а не камунаатэіст разліву РПЦ. Жорсткі да сябе і іншых, а не памяркоўнарахманы слязлівы арганізатар тэатральнага гуртка, які на першым жа допыце закладае ўсіх. «Адмарозак», а не палітык, чэгевараўскі тыпаж.

Як вядома, Чэ пакінуў міністэрскую пасаду на Кубе, каб працягнуць справу рэвалюцыі ў Конга, Балівіі… Без сумневу, Каліноўскі зрабіў бы таксама, бо не быў створаны для наменклатурнай, спакойнай «стваральнай» працы. Апісанне Кастуся верагодней за ўсё з'явілася б у паліцэйскіх арыенціроўках Палтаўшчыны, Кубані, а мажліва, на Балканах ці Каўказе, у выпадку перамогі Паўстання ў Літве.

«Дэструктыўная асоба», — скажа нехта. Мажліва. Роўна як Цэзар, Аляксандр Вялікі, Напалеон, якія па сутнасці не прынеслі шчасця сваім народам, а закідалі трупамі палову свету. Зрэшты, французаў не вельмі бянтэжыць гэты факт, калі менавіта Банапарта яны лічаць закладальнікам асноў сучаснай французскай дзяржавы і бясконцай крыніцай натхнення для мастакоў, рэжысёраў, пісьменнікаў, нас з вамі ў школьныя гады.

Стаўленне да Каліноўскага — індыкатар стаўлення асобы ці партыі да беларускага нацыяналізму ў прынцыпе. З Каліноўскага пачынаецца Беларусь, а разам з ёй — і наш нацыяналізм. Запавет "Яські гаспадара з-пад Вільні": «Народзе, тады толькі


Кастусь Каліноўскі

зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе!», актуальны зараз, як і 150 год таму. Пад ім падпішацца і паважаны «франтавец» з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, і барысаўскі фанат-ультрас, прадстаўнікі нацыі «каліноўцаў», якія неяк ужываюцца ў адным доме з «бульбашамі». Адна краіна — дзве нацыі…

Блытаніна ў ацэнках фундаментальных гістарычных асобаў і з'яваў — справа не сённяшняга дня. Гісторык і літаратар Панцеляймон Куліш, аўтар першага ўкраінамоўнага гістарычнага рамана пра Сеч, таксама блытаўся ў ацэнцы казакоў, то рамантызуючы іх, то прадстаўляючы бандытамі і забойцамі.

Што казаць, калі расейцы дагэтуль не разабраліся ў ацэнцы Івана Жахлівага, Пятра I, Сталіна… Жах і веліч у адным флаконе, як і ўсё, зрэшты, у нашых экстравагантных усходніх суседзяў. Калі прыбраць з гісторыі крывавых катаў ды іх прыхільнікаў — нікога не застанецца, акрамя Дастаеўскага. Калі пакінуць — варта забараніць Фёдара Міхайлавіча і выкрасліць са школьнай праграмы: каб у дзяцей не адбывалася падваення асобы. Хаця, мажліва, у гэтым і ёсць сімвалізм двухгаловай шэльмы?..

Гуманізм, якім, мажліва, кіруецца Хурсік, як вядома, так і не выпрацаваў ніводнага героя, акрамя абстрактнага "агульначалавека" — у ідэале яшчэ і ахвяры. Габрэі, дарэчы, як хрэстаматыйныя ахвяры ў найноўшай гісторыі, абмяжоўваюць гэтую сваю нацыянальную асаблівасць музеем Халакосту і садам Яд-вашэм. Далей пачынаюцца блокпасты і памежныя заставы… Такі комплекс і робіць сучасную нацыяю жыццяздольнай.

Эпітэт «каліновец», як і «бандэравец», яшчэ доўга будзе ўспрымацца спрэчна ў сваёй айчыне — відаць, не прайшло тых 40 гадоў блукання па пустыні, патрэбных для змены пакалення і пачатку новага жыцця нацыі. З верагоднасцю, аднак, можна сказаць, што «бульбашы», якія рызыкнулі выйсці з Егіпту, назаўсёды застануцца там, на Сінайскай паўвыспе. Спіце ж спакойна, дарагія браты!

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 29 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладрама «Там, дзе жыве каханне».
**12.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**12.50** Вакол планеты.
**13.35** Eurovision. Вынікі тыдня.
**13.55** Журналіцкае расследаванне.
**14.25** Таямніцы следства.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Анімацыйны фільм «Алёша Паповіч і Тугарын Змей» (Расія).
**16.50** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлестужка АТН «Сімвал Перамогі».
**22.05** Народная камедыя «Сваты-6».
**23.50** Дзень спорту.
**00.05** Серыял «Майстры жахаў».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.00** «Легендарныя кінакамедыі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**21.55** Прэм'ера. «Лілехамер». Закл. серыя.
**22.55** Фільм «Каламбіяна».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень».
**10.10** «Уявіце сабе».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг». Новы сезон.
**15.50** «Як трэба».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Ультрафіялет». ЗША, 2006 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Пякельная кухня - 2».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння» (Расія).
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.50** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія). 1-я серыя.
**11.50** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.55** Камедыя «Кідалы ў гульні» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Серыял «Двайняты» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыя «Кідалы ў гульні» (Расія).
**23.20** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія). 1-я серыя.
**23.55** Авертайм.
**00.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** Камедыя «Раз, два! Кахаю цябе!».
**00.50** Навіны - Беларусь.
**01.00** «Чужыя таямніцы. Поры года».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Таямнічая Расія».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Прэм'ера. Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Фільм «Чорны горад».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультфільмы».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: ў пошуках смаку».
**07.20** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Выніковая праграма «Разам».
**10.00** Маст. фільм «Ар-хі-ме-ды!».
**11.30** Праграма «Агульны інтарэс».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Праграма «Агульны рынак».
**12.40** Праграма «Простая мова».
**12.55** Тэлесерыял «Поспехаў табе, шпік!».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**21.25** Праграма «Свет Спорту».
**21.55** Дак. фільм «Жыццё пасля спорту».
**22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.50** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.40** Дак. фільм «Жыццё пасля спорту».
**04.25** Праграма «Свет Спорту».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55, 14.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Zeroes Heroes.
**08.55** Дакументальная гадзіна: «Кухня», дак. фільм, 2001 г., Расія.
**09.25** Два на два (тэледыскусія).
**09.50** Euromaxx.
**10.20** Форум (ток-шоу).
**11.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Асаблівы вязень».
**11.55** Фільматэка майстроў: «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**13.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.05** ПраСвет.
**14.55** Zeroes Heroes.
**15.30** Дакументальная гадзіна: «Кухня», дак. фільм, 2001 г., Расія.
**16.00** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.40** «Мітумба: шляхам сэканд-хэнду», дак. фільм, 2005 г., Італія–Германія.
**17.35** Відзьмо-невідзьмо: выд. 28.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.30** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** Фільматэка майстроў: «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**23.20** Студыя «Белсат».
**00.55** Асабісты капітал.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.45** Не прапусці! (параднік гледача).
**02.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 30 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** Адмысловы рэпартаж АТН.
**12.30** Нябачны фронт.
**12.40** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.15** Таямніцы следства.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-6».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.45** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлестужка АТН «Сімвал Перамогі».
**22.05** Народная камедыя «Сваты-6».
**23.50** Дзень спорту.
**00.05** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Фільм «Рэд».
**23.10** «Yesterday live».
**00.10** Камедыя «Прыватны дэтэктыў, ці Аперацыя «Кааперацыя».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Паляўнічы». Аўстралія, 2011 г.
**15.45** «Дзіўная справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Школа злодзеяў». Італія, 1986 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.
**01.05** «Адмысловы праект з М. Задорнавым».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сяброўка адмысловага прызначэння» (Расія). Заключная серыя.
**10.20** Авертайм.
**10.50** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія). 2-я серыя.
**11.25** Цела чалавека.
**12.00** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.05** Серыял «Двайняты» (Расія).
**15.05** Драма «Сёстры» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Серыял «Двайняты» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/2 фіналу. Рэал - Барусія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Драма «Сёстры» (Расія).
**01.05** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія). 2-я серыя.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Права на сустрэчу».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** «Аншлаг і Кампанія».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Чужыя таямніцы. Поры года».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Таямнічая Расія».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Прэм'ера. Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**22.10** Прэм'ера. «Свой Чужы раён».
**23.00** Вострасюжэтны фільм «Мой дом - мая крэпасць».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультфільмы».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: ў пошуках смаку».
**07.20** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Двое».
**10.00** Маст. фільм «Звальненне на бераг».
**11.30** Праграма «Даведнік».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Праграма «Незорная дзяцінства».
**12.55** Тэлесерыял «Поспехаў табе, шпік!».
**13.55** Дак. фільм «Камчатка. Жыццё на вулканах».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**21.25** Праграма «Саюзнікі».
**21.55** Дак. фільм «Міфы Брэжнева».
**22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.50** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.40** Дак. фільм «Міфы Брэжнева».
**04.25** Праграма «Саюзнікі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10, 15.10** «Кніга рэкордаў Шуткі», дак. фільм, 2005 г., Сербія–Чарнагорыя–Чэхія–Славакія.
**11.30** Вагон.
**11.40** Навігатар.
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.30** Асабісты капітал.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Не прапусці! (параднік гледача).
**14.40** Еўропа сёння.
**16.25** Вагон.
**16.35** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.55** На колах.
**18.25** Без межаў.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры Яблыкі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 17 серыя.
**22.30** Назад у будучыню.
**22.45** Форум (ток-шоу).
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.30** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 1 МАЯ, СЕРАДА

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.30** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Заўтра - гэта мы!
**09.40** Eurovision. Вынікі тыдня.
**09.55** Музычная камедыя «Кубанскія казакі» (СССР).
**12.10** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна).
**13.20** Прэм'ера. Гумарыстычная праграма «Трыццаць гадоў лёгказасваяльнага гумару» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Анімацыйны фільм «Рататуй» (ЗША).
**17.25** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**18.55** Камедыйная меладрама «Каханне і галубы» (СССР).
**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлестужка АТН «Сімвал Перамогі».
**22.05** Народная камедыя «Сваты-6».
**23.15** Фантастычная драма «Віхура» (ЗША).
**00.55** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Фільм «Цырк».
**10.45** Фільм «Вяселле з пасагам».
**12.40** Камедыя «Паласаты рэйс».
**14.20** «Абракадабра».
**15.00** Фільм «Анёл у сэрцы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** «Анёл у сэрцы». Працяг.
**19.30** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Стаса Міхайлава.
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Юбілейны канцэрт Стаса Міхайлава. Працяг.
**22.20** Фільм «Два дні».
**00.00** Камедыя «Шпег».

### СТВ

**06.30, 07.25, 08.20, 09.15, 10.10, 12.00, 12.55, 13.50, 14.45, 15.40** «Легенды СССР».
**11.05** «Прошаная вячэра».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прошаная вячэра».
**17.45** Фільм «Афоня». СССР, 1975 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Святочны канцэрт. Лепшае.
**21.10** Фільм «Каханне і галубы». СССР, 1984 г.
**23.00** «Дым над вадой». Канцэрт.
**00.55** «Глядзець усім!».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.05** Мультфільм «Казка пра цара Салтана» (СССР).
**08.05** Тэлебарометр.
**08.10** Гумарыстычнае шоў «Юбілейны вечар Юрыя Гальцава» (Расія).
**10.10** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 1 - 3 серыі.
**15.25** «Палёт над Айкуменай». Канцэрт.
**17.10** Рамантычная камедыя «Стыльная штучка» (ЗША).
**19.20** Гумарыстычнае шоў «Юбілейны вечар Юрыя Гальцава» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/2 фіналу. Барселона - Баварыя. Прамая трансляцыя.
**23.40** Трагікамедыя «Зламаныя кветкі» (ЗША-Францыя).

### РОССИЯ

**07.00** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**08.15** Камедыя «Беражыце жанчын».
**10.40** Тэлесерыяле «Ісаеў».
**14.00** Весткі.
**14.20** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**14.35** Камедыя «Крок насустрач».
**16.05** «Крывое люстэрка».
**18.00** «Disco дача». Вясновы канцэрт.
**20.00** Весткі.
**20.35** Лірычная камедыя «Травеньскі дождж» (2012 г.).
**22.20** Фільм «Час кахаць» (2012 г.).




### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.15** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Вострасюжэтны серыял «Бомж».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Бомж» (Працяг).
**14.20** «Справа густу».
**14.50** Дэтэктыўны серыял «Бігль».
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Працяг).
**22.05** Прэм'ера. Усенародная прэмія «Шансон года-2013».
**00.50** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Дак. фільм «Дзяржаўны Эрмітаж».
**05.30** Мультфільмы».
**07.30** Маст. фільм «Маё каханне».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Простыя лікі».
**09.40** Маст. фільм «Кубанскія казакі».
**11.35** Канцэрт «Дунаеўскі і сын. Песні на ўсе часы».
**12.35** Маст. фільм «Сардэчна запрашаем, ці Староннім уваход забаронены!».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.15** Тэлесерыял «Рака-мора».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.15** Тэлесерыял «Рака-мора».
**22.30** Маст. фільм.
**00.10** Маст. фільм «Кубанскія казакі».
**02.05** Тэлесерыял «Рака-мора».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 17 серыя.
**11.00** Вагон.
**11.10** Форум (ток-шоу).
**11.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**12.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**12.40** «Хадзіце на мой голас», рэпартаж, 2008 г., Беларусь.
**13.05** «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча.
**14.40** Назад у будучыню.
**14.55** «Смерць як луста хлеба», маст. фільм, 1994 г., Польшча.
**16.50** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**17.40** Асабісты капітал.
**18.05** Праект «Будучыня».
**18.35** Беларусы ў Польшчы.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.05** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1–2.
**19.30** «День шахтера», дак. фільм, 2010 г., Расія.
**20.35** Маю правы (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**22.15** «Ночы і дні», серыял: 11 серыя.
**23.10** «Стадыён бяздомных», трагікамедыя, 2008 г., Польшча.
**01.10** «Плошча», дак. фільм, 2006 г., Беларусь.
**02.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 2 МАЯ, ЧАЦВЕР

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.30** Нашы.
**12.45** Нябачны фронт.
**13.10** Таямніцы следства.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна).
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Каробка перадач.
**17.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.20** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлестужка АТН «Сімвал Перамогі».
**22.05** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна).
**23.50** Дзень спорту.
**00.05** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.15** Фільм «Шпацыр у аблоках».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Адмысловы праект з М. Задорнавым».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Школа злодзеяў». Італія, 1986 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Выкрадальнікі кніг». Расія, 2003 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.
**01.05** «Адмысловы праект з М. Задорнавым».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Міф пра ідэальнага мужчыну» (Расія). 1-я серыя.
**10.20** Вышэй за дах.
**10.55** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.15** Меладраматычны серыял «Двайняты» (Расія).
**16.15** Наперад у мінулае.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Меладраматычны серыял «Двайняты» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/2 фіналу. Чэлсі -Базель. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.
**00.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/2 фіналу. Бенфіка - Фенербахчэ.

### РОССИЯ

**07.00** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**08.00** Камедыя «Тры дні ў Маскве».
**10.30** Тэлесерыял «Ісаеў».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.20** Фільм «Жанаты халасцяк».
**15.50** «Ізмайлаўскі парк». Вялікі гумарыстычны канцэрт.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** «Ізмайлаўскі парк». Вялікі гумарыстычны канцэрт. Працяг.
**17.50** «Кветкі і песні вясны». Святочны канцэрт.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.35** Лірычная камедыя «Моцны шлюб» (2012 г.).
**22.25** Навіны - Беларусь.
**22.35** Фільм «Фродзя» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.15** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Вострасюжэтны серыял «Бомж».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Бомж» (Працяг).
**14.15** «Справа густу».
**14.45** Дэтэктыўны серыял «Бігль».
**19.00** Сёння.
**19.20** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Працяг).
**21.55** Баявік «Антыкілер ДК».
**23.35** «Прамень святла».
**00.05** Дакументальны цыкл «Наш космас».

### МИР

**05.00** Дак. фільм «Скарбы Эрмітажа».
**05.30** Мультфільмы».
**07.20** Маст. фільм «Сэрцы чатырох».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Любімыя акцёры».
**09.40** Маст. фільм «Ход канём».
**11.15** Праграма «Простыя лікі».
**11.45** Тэлесерыял «Сінія ночы».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.15** Тэлесерыял «Сінія ночы».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.15** Тэлесерыял «Бухта страху».
**21.50** Маст. фільм «Фантоцы ў вырай».
**23.30** Маст. фільм «Ход канём».
**01.00** Тэлесерыял «Рака-мора».
**03.30** Праграма «Народы Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Беларусы ў Польшчы.
**07.40** Маю правы (юрыдычная праграма).
**08.05** «День шахтера», дак. фільм, 2010 г., Расія.
**09.10** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**10.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Ночы і дні», серыял: 11 серыя.
**11.20** Невядомая Беларусь: «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**11.55** Аб'ектыў.
**12.20** Маю правы (юрыдычная праграма).
**12.40** «День шахтера», дак. фільм, 2010 г., Расія.
**13.45** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**14.35** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Ночы і дні», серыял: 11 серыя.
**16.00** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** Невядомая Беларусь: «Катынь. Праз 70 гадоў», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**17.00** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**17.45** Маю правы (юрыдычная праграма).
**18.10** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял, 2011 г., Польшча: 1 серыя.
**22.30** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**22.40** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №4 (80) (красавік)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс


«НАВІНЫ»: літаратурна-грамадскае жыццё красавіка ........ с. 2.
«ЭСЭ»: згадкі Алеся ЖУКА пра Янку БРЫЛЯ ........ с. 3.
«ПАМЯЦЬ»: 100-годдзе Рыгора РЭЛЕСА ........ с. 4.
«ПАЭЗІЯ»: вершы Кацярыны СЯНКЕВІЧ ........ с. 5.
«ПРОЗА»: мініяцюры Марыны ЯЎСЕЙЧЫК ........ с. 6.
«ПАЭЗІЯ»: «Пераўлік пражытага» Леаніда ГАЛУБОВІЧА ........ с. 7.
«ЧЫТАЛЬНЯ»: раздзелы новага рамана Алеся УСЕНІ «ГРЭХ» .... с. 8–9.
«ГРАМАДА»: вершы Алеся МАСАРЭНКІ і Міхася МІРАНОВІЧА .... с. 10.
«УСПАМІНЫ»: Генрых ДАЛІДОВІЧ пра «маладосцеўскія» часы . с. 11–12.
«ГУМАР»: апавяданне «Прэзентацыя» Сяргея ГРЫШКЕВІЧА ...... с. 13.
«ФОРУМ»: працяг інтэрв'ю з Дзмітрыем ПЛАКСАМ і Алесь КАСКО пра паэзію Алеся ПАПЛАЎСКАГА ........ с. 14.
«КРЫТЫКА»: кніжная паліца Усевалада СЦЕБУРАКІ ........ с. 15.
«СВЕТ»: навіны літаратурнага замежжа ........ с. 16.


ІНТЭРВ'Ю

## Дзмітрый Плакс: «УПЕРШЫНЮ ЗА МНОГІЯ ГАДЫ Ў БЕЛАРУСЬ НЕ ПРЫЕДУЦЬ ШВЕДСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ...»

**Да ад'езду амбасадара Швецыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана культурніцкія беларуска-шведскія дачыненні можна было назваць больш чым шчыльнымі — яны папросту квітнелі, а творчае жыццё пры амбасадзе не меней як віравала: канцэрты, вечарыны, прэзентацыі... Цяпер усе яны па магчымасці перанесеныя па-за межы тэрытарыяльнай Беларусі: Варшава, Беласток, Львоў, Вільня... Закрыты шлях у Сінявокую і для многіх ініцыятараў беларуска-шведскіх праектаў, і нават для саміх творцаў. Але пра іх не забываюцца ў Шведскім Каралеўстве.**

**Напрыканцы снежня мінулага года пісьменнік і перакладчык Дзмітрый Плакс атрымаў прэмію Шведскай Акадэміі за распаўсюд шведскай культуры за мяжой. З гэтай нагоды мы вырашылі пагутарыць з Дзмітрыем — пра прэмію і не толькі.**



***Валерыя Кустава: — Дзіма, як лічыш, зробленае ў беларускім напрамку на культурніцкай дзялянцы за мяжой атрымлівае адпаведны водгук, розгалас на радзіме?***

**Дзміры Плакс:** — Я неяк не вельмі задумваюся над такімі рэчамі... Які водгук можна ці трэба лічыць адпаведным?.. Раблю, што маю рабіць, ці што атрымліваецца рабіць. Мяне больш хвалюе якасць, я вельмі рэдка бываю задаволены сваёй працай. Часцей за ўсё не хапае часу, каб давесці, скажам, тыя ж пераклады да таго ўзроўню, да якога, як мне падаецца, іх можна давесці. Канечне, неразумна наракаць на ўмовы, але мой унутраны час рэдка адпавядае тым уяўленням пра хуткасць і павольнасць, якія звычайна маюць выдаўцы і рэдактары.

***В.К.: — У сувязі з фактычна прыпыненнем ці, прынамсі, запавольваннем функцыянавання шведскай амбасады ў Беларусі — ці ёсць значныя змены ў супрацы, якая вялася ў беларуска-шведскім кірунку?***

**Дз.П.:** — Змены ёсць як чыста практычнага характару, так і глыбока сімвалічныя. Пра апошнія ведаюць усе: замарожванне дзейнасці амбасады, ад'езд амбасадара Стэфана Эрыксана. Да першых жа можна аднесці амаль поўнае спыненне выдачы віз беларускім бокам, якое мела месца быць цягам шасці-сямі мясяцаў. Шведскія грамадзяне, так ці інакш уключаныя ў сумесныя праекты, у гэты час практычна не маглі наведваць Беларусь. Цяпер сітуацыя, як выглядае, змянілася, але калі гаварыць пра праекты, якія патрабуюць планавання — як тыя ж Дні шведскай літаратуры — то яны, канечне, моцна пацярпелі.

Ну, але культурніцкія сувязі развіваюцца згодна са сваёй унутранай логікай — і таму я спадзяюся, што, мякка кажучы, дзіўнаватыя захады ўладаў не моцна паўплываюць, да прыкладу, на жаданне чытачоў знаёміцца з перакладной літаратурай.

***В.К.: — Як адзін з каардынатараў і ініцыятараў Дзён беларускай і шведскай літаратур, што праводзіліся ў Менску і іншых гарадах Беларусі, што скажаш, — ці будуць яны і надалей праводзіцца? Тое была і ініцыятыва на месцах, і афіцыйных дзяржаўных органаў, якія, прынамсі, часткова былі заангажаваныя ў арганізацыю свята...***

**Дз.П.:** — Заснавальніца Дзён шведскай літаратуры ў Беларусі Марыя Сёдэрберг якраз адна з тых, каму адмовілі ва ўязной візе. Таму, думаю, сёлета, упершыню за многія гады, у Беларусь не прыедуць шведскія пісьменнікі і сумесных з беларускімі творцамі выступаў-вечарынаў не будзе.

Што ж да супрацы з мясцовымі ўладамі, то яна, вядома, была, бо гэта ж не нейкая партызанская дзейнасць, а адкрытыя публічныя мерапрыемствы. Але не мне табе казаць, што мясцовыя ўлады ці кіраўнікі ўстаноў не маюць уплыву на візавую палітыку.

***В.К.: — Ведаю, што Дні шведска-беларускай культуры перанесеныя на тэрыторыю суседніх з Беларуссю краінаў — і цяпер супольныя выступы ладзяцца ў Вільні, Варшаве, Львове, Беластоку... Што, як на мяне, сімвалічна — бо ўсе гэтыя гарады не чужыя беларусам... I ты з'яўляешся актыўным удзельнікам тых выступаў.***

**Дз.П.:** — Ну, «актыўным» — гэта перабольшанне... На «актывізм» не стае часу і сілаў, але я спрабую ўдзельнічаць у мерапрыемствах, на якія мяне запрашаюць, бо гэта, як мне падаецца, элементарная павага да арганізатараў. Адсюль, думаю, зразумела, што планаваннем гэтых мерапрыемстваў я не займаюся, і таму мне цяжка сказаць, чаму яны праводзяцца менавіта ў тых гарадах, але, напэўна ж, таму, пра што ты і сама кажаш — яны не чужыя беларускай культуры.

***В.К.: — Як ты мяркуеш: ці магло б, пры нейкіх варунках, афіцыйнае беларускае кіраўніцтва (ці, скажам, папросту беларуская інтэлігенцыя — у якасці няўрадавай узнагароды) надзяліць цябе прэміяй ці якім медалём за распаўсюд беларускай культуры ў краінах Скандынавіі, у прыватнасці — у Швецыі?***

**Дз.П.:** — Гэта, як ты разумееш, пытанне не да мяне. Я не магу сам ацэньваць сваю працу і працую, вядома, не дзеля прэмій. Да таго ж, людзей, якія вартыя ўзнагародаў нашмат больш, чым я, таксама хапае. Так што...

Калі ж казаць пра саму ідэю — прэмію ці ўзнагароду за распаўсюд беларускай культуры — то, напэўна было б някепска такую ўзнагароду мець, проста, каб пры нагодзе яшчэ раз магчы сказаць пра тое, што беларуская культура не ёсць ізаляванай выспай, а мае дачыненні і сувязі з культурамі, лічы, усяго свету. З другога боку, не трэба перабольшваць значэнне нейкіх прэмій, у галіне культуры працуюць людзі, якім узнагароды не важныя. Ну, прынамсі, так павінна быць, як мне падаецца...

***В.К.: — А як называецца шведская прэмія і «намінацыя», за якую ты яе атрымаў?***

**Дз.П.:** — «Прэмія Шведскай Акадэміі за прадстаўленне шведскай культуры за мяжой». Гэта, відаць, і намінацыя таксама.

***В.К.: — Як часта ўручаецца названая прэмія?***

**Дз.П.:** — Раз на год.

***В.К.: — Хто ёсць суддзямі, хто абірае пераможцаў і якім чынам?***

**Дз.П.:** — Шведская Акадэмія — цалкам закрытая арганізацыя, яны асабліва не распаўсюджваюцца пра свае спосабы і метады...

***В.К.: — Як бы ты патлумачыў розгалас у беларускіх СМІ (БелаПАН, Радыё Рацыя, Беларускі Партызан, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Радыё Свабода і іншыя) — практычна ўсе змясцілі навіну пра тваю прэмію, любяць цябе, цікавяцца?***

**Дз.П.:** — Любяць, відаць, не мяне, бо я не такая ўжо публічная асоба, каб усе рэсурсы дружна распаўсюджвалі інфармацыю пра мяне. Вось Акадэмію, пэўна, любяць. Ну і прэміі :).

***В.К.: — Ты ўвогуле часта адчуваеш, што беларусы табой ганарацца? Кажуць табе: дзякуй, Дзіма, што нас прасоўваеш за далёкай мяжой...***

**Дз.П.:** — Не ведаю нават... Хутчэй за ўсё — не, не адчуваю... Прызнацца, увогуле пра гэта звычайна не думаю... Негатыўных рэакцый, асабліва на кантраверсійныя нейкія праекты, заўжды больш, чым пазітыўных, бо людзі абураныя ці раздражнёныя з большай ахвотай бяруцца за пяро, дастаткова паглядзець на дыскусійныя форумы і каментары ў інтэрнэце. Але, канечне, здараецца, што і прыемнае кажуць, праўда, у асноўным — знаёмыя, сябры, тыя, каму мая праца неабыкавая па вызначэнні... Зрэшты, чаму нехта мусіць быць мне ўдзячны? Я працую для свайго задавальнення, раблю ў пераважнай большасці выпадкаў выключна тое, што хачу рабіць — гэта я мушу быць удзячны за тое, што мне так пашанцавала — і я спрабую пра гэта не забываць.

***В.К.: — Ці ўручалася Прэмія Шведскай Акадэміі яшчэ камусьці за наробкі менавіта ў шведска-беларускім кірунку?***

**Дз.П.:** — Марыя Сёдэрберг атрымлівала такую прэмію гадоў 5–6 таму, але не ведаю, ці гэта было звязана з Беларуссю, ці па сукупнасці ейнае працы, бо Марыя працуе не толькі з Беларуссю, але і, напрыклад, з Расіяй, Афганістанам.

***В.К.: — А колькі асобаў за ўсю гісторыю ўзнагароды яе атрымлівалі?***

**Дз.П.:** — Не ведаю... У гэтым годзе другую такую прэмію разам са мной атрымала Хелен Сігеланд, якая шмат гадоў адказвала за падтрымку перакладаў шведскай літаратуры на замежныя мовы — спачатку ў Шведскім інстытуце, затым у Дзяржаўнай радзе культуры.

***В.К.: — Кім і калі была заснаваная прэмія? Наколькі прэстыжнай лічыцца?***

**Дз.П.:** — Прэмія Шведскай Акадэміі, адпаведна, заснаваная Шведскай Акадэміяй. Я не ведаю, наколькі яна лічыцца прэстыжнай: Шведская Акадэмія мае з дзясятак розных прэмій, якія ўручаюцца раз на год у часе ўрачыстага пасяджэння Акадэміі.

Працяг на стар. 22 (14) ▸

## ПАЛІЦА

### «КНІГАНОША» ПА-АНГЛІЙСКУ




Пабачыў свет інфармацыйны каталог беларускіх кніг «Кніганоша» (№ 2). У выданні змешчаныя больш за 170 бібліяграфічных апісанняў.

Каталог апублікаваны на англійскай мове і рэпрэзентуе кнігі, якія выходзілі ў беларускіх прыватных выдавецтвах у 2010–2011 гадах. У выданні два раздзелы: мастацкая літаратура (проза, паэзія, драматургія, эсэістыка) і нон-фікшн (навуковая літаратура, акадэмічныя выданні).

У каталог патрапілі кнігі з выдавецтваў «Кнігазбор», «Логвінаў», «Галіяфы», «Радыёла-плюс», «Медысонт», «Тэхналогія», «Харвест», «Лімарыус», выдавецтва Змітра Коласа і іншых. Не абыдзеныя ўвагай і кнігі беларускіх аўтараў, выдадзеныя ў Маскве, Беластоку, Вільні.

### «КРАІНА БЕЛАРУСЬ» ПА-АНГЛІЙСКУ




У славацкім выдавецтве «Kalligram» (Браціслава) выйшаў у свет англійскі пераклад папулярнай кнігі Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча «КРАІНА БЕЛАРУСЬ».

Аўтар перакладу і ўступнага слова да англійскамоўных чытачоў — знакаміты брытанскі беларусіст прафесар Джым Дынглі. Ідэя выдання з'явілася даўно, але набыла рэальныя абрысы, калі ёю натхнілася вядомая грамадская дзяячка Вольга Стужынская.

Кніга ўводзіць у свет нашай мінуўшчыны ад старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя. Гісторыя Беларусі разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага развіцця цывілізацыі. Тэкст суправаджаюць каля дзвюх тысячаў ілюстрацый, у тым ліку ўнікальныя летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, рэдкія фотаздымкі. Кніга пераканаўча сцвярджае, што беларусы гістарычна, культурна і ментальна належаць да Еўропы.

Гэта — першае англійскамоўнае выданне такога кшталту, прысвечанае гісторыі Беларусі і створанае беларускімі аўтарамі.

Адначасова тое ж славацкае выдавецтва выдала расійскамоўны пераклад «Краіны Беларусі». Абодва выданні паступілі ў «Акадэмкнігу» ды іншыя кнігарні.

Выдаўцы і аўтары мяркуюць, што пераклады кнігі «Краіна Беларусь» не толькі зацікавяць замежных вучоных і дыпламатаў, прадпрымальнікаў і турыстаў, але і значна павялічаць колькасць сяброў нашай краіны.

MEMORIA

## ГЕОРГІЙ ВАЛКАВЫЦКІ

**7-га красавіка спачыў у вечнасці Георгій Валкавыцкі — беларускі літаратар, заснавальнік і шматгадовы галоўны рэдактар тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва», ганаровы сябар СБП. Яму было 90 гадоў…**



Георгі Валкавыцкі нарадзіўся 13 сакавіка 1923 года ў Белавежы. У 1956 годзе заснаваў тыднёвік «Ніва», якім кіраваў больш за 30 гадоў. Аўтар зборніка лірыкі «Рознагоддзе» і кніжкі сатырычных вершаў «Макатразмы», а таксама некалькіх празаічных кніг.

«Гэта сапраўдны валун у галіне пісьменства, у галіне беларускай журналістыкі на Беласточчыне. Ён стварыў тыднёвік «Ніва», паказаў, што гэты тыднёвік можа быць цікавы і карысны. А самае галоўнае — беларускае слова вывеў на шырокую прастору роднай мовы, прыгожага літаратурнага пісьменства. Калі быў «жалезны занавес», ён супрацоўнічаў і друкаваў менавіта аўтараў з Беларусі. Ён ламаў гэты занавес пры дапамозе беларускага слова. Вопытны, сардэчны, цёплы чалавек...», — сказаў Радыё Рацыя цяперашні галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа.

Пахавалі славутага беларуса Польшчы ў роднай Белавежы.

## ТРАВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



03.05.1953 — Франц Іванавіч Сіўко
03.05.1958 — Уладзімір Мікалаевіч Сіўчыкаў
05.05.1933 — Фёдар Архіпавіч Яфімаў
09.05.1953 — Віктар Уладзіміравіч Хурсік
24.05.1958 — Інэса Аронаўна Ганкіна
26.05.1953 — Сцяпан Фёдаравіч Сяргей (Юрась Гуліцкі)
31.05.1948 — Святлана Аляксандраўна Алексіевіч

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ЛІТПРАЦЭС

## ВУЛІЦЫ БУТРЫМА І ЛАГВІНОВІЧА

**У Баранавічах у назвах вуліцаў увекавечаная памяць беларускіх літаратараў Івана Лагвіновіча і Венанцыя Бутрыма.**

Гэтую ініцыятыву грамадскіх арганізацый «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Творчае згуртаванне «Святліца»» падтрымаў сваім рашэннем Баранавіцкі гарадскі Савет дэпутатаў.

Нядаўна да горада былі далучаныя некалькі вёсак, і некаторыя назвы вуліцаў у іх і ў горадзе супадалі. Узнікла патрэба перайменавання. Такім чынам, вуліца Палявая ў колішняй вёсцы Дубава цяпер будзе насіць імя Венанцыя Бутрыма, а вуліца Мірная ў вёсцы Узногі пераназваная ў гонар Івана Лагвіновіча.

Згадваюцца радкі магічнай паэзіі Венанцыя Бутрыма:

*…Радзіма, дзіўны водар траў*
*над Шчарай у чмяліным гудзе!..*
*І кветак іншых — не прызнаў,*
*і спеў — заўжды адзіным будзе:*
*тут, толькі тут, дзе вольхаў рад*
*над нетаропкаю вадою,*
*і май надзей, і лістапад —*
*над пасівелай галавою.*

Гэта радкі з першага зборніка вершаў В. Бутрыма «У барвах зямлі», выдадзенага ў 2001 годзе, на схіле дзён паэта. У 2003-м пабачыла свет другая кніга яго паэзіі «Паралелі», але аўтар не дажыў аднаго месяца да яе выдання… У 2007-м жонка і сын В. Бутрыма прафінансавалі выданне зборніка яго расійскамоўнай паэзіі «В пространстве и времени», а ў 2011-м выдалі кнігу яго прозы на беларускай і расійскай мовах «Маўклівыя сумныя птушкі».

Іван Лагвіновіч пасяліўся ў Баранавічах у 1992 годзе — пасля вяртання ў Беларусь з украінскага Данбаса. А родам ён з хутара Запрапасць на Ганцавіччыне, адкуль 17-гадовым юнаком паехаў на ўкраінскую зямлю і працаваў шахцёрам аж да пенсіі.

Для паэта І. Лагвіновіча гады жыцця ў Баранавічах былі вельмі плённымі. Дзякуючы «Святліцы» і самому аўтару за гэты час выйшлі яго кнігі «Разлукі выраёвыя» (2000), «Піліпаўка» (2001), «Заряна» (зборнік расійскамоўных вершаў, 2002), «Ляда юдолі» (2003), «Далёкае і блізкае» (2004), «Палыновыя кветкі» (2007).

У 2011 годзе Івана Лагвіновіча не стала, але праз тры месяцы пасля сыходу выйшла яго кніга паэзіі «Элегія палескага матыля». Вельмі сімвалічным падаецца верш з гэтай кнігі «Суцяшэнне».

*Я ведаю, пасмяротна*
*Радзіма мяне ўзнагародзіць*
*Ордэнам Залатога*
*Палескага Матыля.*
*Лагоднаю летняй парою*
*Няхай сабе і нядоўга,*
*Будзе ён красаваца*
*На зялёнай стужцы*
*Расліны-самасейкі,*
*Што да сонца памкнецца*
*З магільнага капца.*

Згаданыя кнігі Венанцыя Бутрыма і Івана Лагвіновіча выйшлі малымі накладамі, і знайсці іх можна хіба што ў саміх Баранавічах ды ў Нацыянальнай бібліятэцы і вышэйшых навучальных установах Беларусі, якія рыхтуюць гуманітарыяў.

Цяпер «Святліца» рыхтуе патрэбныя дакументы, каб атрымаць дазвол ад гарвыканкама на выраб і ўсталяванне мемарыяльных шыльдаў на дамах, дзе жылі Бутрым і Лагвіновіч.

**Алесь Бакач**

## ЛІТАРАТУРНАЯ САЦСЕТКА

**З'явілася першая беларускамоўная сацыяльная сетка для аматараў літаратуры, у межах якой карыстальнікі змогуць ацэньваць, абмяркоўваць, а ў будучым, магчыма, і чытаць любімыя творы.**

Нядаўна запрацаваў сайт bookster.by. Яго рэдактар Аляксандра Дорская распавяла БелаПАНу: «Мы рабілі праект разам з мужам, гэта было нашае хобі. Проста ў нейкі момант мы вырашылі, что ўласна нам не хапае такога кніжнага сайта, а калі гэтага няма ў беларускім інтэрнэце, варта зрабіць яго самім».

Па словах А. Дорскай, байнэту не хапае не толькі кніжнай сацыяльнай сеткі, але і ўвогуле сайта, які б даваў прастору беларускай крытыцы, для рэцэнзавання беларускіх кніг. У выніку, разам з мужам Аляксандра заснавала сайт, які аб'ядноўвае элементы і сацсеткі, і літаратурнага анлайн-часопіса. Рабіць праект даводзілася на ўласныя грошы, а паслугі дызайнераў ды праграмістаў каштуюць нятанна.

Кожны зарэгістраваны наведнік «буксцера» зможа сам дадаваць любімыя кнігі на сайт ці ацэньваць прачытанае па пяцібальнай шкале. Можна таксама пазначыць кнігу кнопкай «не чытаў, але асуджаю» або «не здолеў дачытаць». Акрамя таго, на «буксцеры» можна будзе даведацца пра цікавыя падзеі ў літаратурным жыцці, прачытаць кніжныя навіны, рэцэнзіі, інтэрв'ю з пісьменнікамі.

У хуткім часе плануецца дадаць на сайт фрэнд-стужку, якая дапаможа знаходзіць людзей па чытацкіх цікаўнасцях і густах, глядзець, хто як ацэньвае кнігі, а таксама рэкамендаваць кнігі сябрам.

У перспектыве на сайт плануецца дадаваць і замежныя кнігі, што зацікавіць большае кола аматараў чытання.

МЕРКАВАННЕ

## «КРУЖОК ХАДЗЕЕВА», або ХТО ЛАМАЎ ЛЁСЫ МОЛАДЗІ

**Даўно заўважыла, што матэрыялы Сямёна Букчына адрозніваюцца глыбінёй аналізу і літаратуразнаўчай грунтоўнасцю.**

Вось і ў яго артыкуле ў «Народнай волі» пра новы, угANARаваны Прэміяй Гедройца раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без» сказана нямала слушнага. Пераканаўча паказана, што аўтар, як паміж двух крэслаў, сеў паміж двух жанраў — мастацкім і дакументальным. З гэтым нельга не пагадзіцца. Сумнеўным уяўляецца іншы момант: быццам вядомы паэт і палітык «прымазваецца» да дысідэнцкага асяроддзя.

Асяроддзе гэтае ў Мінску было вельмі неадназначным, даўно пара пазбавіць яго рамантычнага флёру. Раю прачытаць пра «кружок Хадзеева» ў «Сіняй кнізе беларускага алкаголіка», якую напісаў чалавек якраз з таго кола. Дарма нас расчульвае С. Букчын згадкай пра «сломанные судьбы». Бо сем'і, кар'еры, лёсы ламала не толькі ўлада ў асобе сваіх спецслужбаў, але і само знаходжанне ў хадзееўскай «тусоўцы».

На кватэры «Палкоўніка» існаваў самы сапраўдны разгульна-алкагольны прытон, куды, для поўнага кайфу, вадзілі «прапашчых» жанчын. З вучобы хадзееўцаў выганялі не столькі за вольнадумства, колькі за пропускі і бяспутны лад жыцця. Згубны ўплыў Хадзеева на мінскую моладзь 60-70-ых няма каму нават засведчыць. Хто спіўся і здэградаваў, хто (праз гэта ж) даўно ў лепшым свеце, а некаторыя проста не хочуць успамінаць сваю бурную маладосць. Так, гэта быў неардынарны чалавек, але з «гнілым» нутром. На яго, як матылі на агонь, зляталіся неакрэплыя душы. Ён умеў сыграць на самаацэнцы сваіх «таленавітых хлопчыкаў».

Я ведаю двух з той кампаніі: адзін неяк выбраўся, другі дасюль у твані па горла. Для аўтара вышэйназванага рамана проста шчасце, што ён не заграз у тым згубным «інтэлектуальным» балоце. А мог бы! Невядома, чаго там было болей: непрыняцця савецчыны, ідэйнай фронды ці агіднай, паўкрымінальнай «бытавухі»…

Недарэчнымі мне падаліся развагі С. Букчына адносна таго, хто ў той кампаніі быў стукачом і «закладваў» астатніх. Там церлася столькі багемнага люду і адбываліся такія няўдобіцы, што «спакою не мелі» ні КДБ, ні сталічная міліцыя, ні бацькі прыгрэтых «талентаў». І там сапраўды было весела — у тым размаітым блатным лежбішчы, бо кніга У. Някляева дзіўным чынам пераклікаецца сваімі «хохмамі» са згаданай «Сіняй кнігай».

Калі Сямён Букчын хацеў ад Уладзіміра Някляева суровай драмы, то, відавочна, раман тые не задумваўся. Дый ацэньваем мы не тое, на што спадзяваліся, а тое, што выйшла з-пад пяра пісьменніка...

**Галіна Каржанеўская**

ЗГАДКІ

# ВЯЧЭРА З БРЫЛЁМ

Алесь ЖУК

**У маё жыццё Янка Брыль увайшоў у дзяцінстве, нават цьмяна помню вокладкі «Зялёнае школы», «Ліпкі і клёніка».**



Янка Брыль

Веданне, што іх напісаў Брыль, прыйшло, калі быў ужо старшакласнікам і сам пачаў спрабаваць пісаць. З таго часу чытаў Брыля пастаянна, чытаў усё напісанае ім. Ды і маё літаратурнае жыццё сталася непасрэдна звязаным з Іванам Антонавічам, яго ўвагаю і дапамогаю. Няўдзячная гэта справа — набівацца ў вучні да вялікіх пісьменнікаў, калі іх ужо няма ў жывых. Вось дажыву і прачытаю ў яго дзённіках, што ён сам так лічыў, буду і ўсцешаны, і ўдзячны, а калі і не прачытаю, усё роўна як і быў, буду ўдзячным.

Я штосьці пісаў пра Брыля, ці не да яго сямідзесяцігоддзя, помню нават назву «Жыта, жыццё, кніга…». Але з мяне не вялікі пісальнік нават і да юбілеяў, хаця пра Брыля напісаць і хочацца, і трэба было б. І пра яго самога — біяграфія неардынарная, — і пра творчасць. Іван Антонавіч з самага пачатку Другой сусветнай вайны, якая для нас сталася Вялікай Айчыннай, стаў яе салдатам, кулямётчыкам марской пяхоты ў польскай арміі ў крывавых баях пад Гдыняй. Там быў узяты ў палон, з якога ўцёк толькі з другой спробы. Дома ваяваў у партызанах, пасля вайны працаваў у перыядычных выданнях, а потым заняўся толькі літаратурнай работай. Ён рана пачаў пісаць. Першыя апавяданні датаваныя трыццаць сёмым годам — гэта тыя, якія ён палічыў патрэбным уключыць у першы том пяцітомнага збору твораў. У час вайны, да партызанкі, ім зроблены спробы двух аповесцяў пра толькі што перажытае — пра ўцёкі з палону. Пазней гэтыя аповесці лягуць у аснову «кнігі адной маладосці» — рамана «Птушкі і гнёзды». Брыль прыйшоў у літаратуру адразу сталым пісьменнікам з дабротным апавяданнем «Марыля». Ён любіў паэзію і не мог не пісаць вершы. Разам з першаю кнігаю прозы ён паказаў свае вершы Кандрату Крапіву, той прачытаў і сказаў: «Пішы, мабыць, прозу».

Брыль быў прафесійным пісьменнікам, іх зусім нямнога было ў нашай літаратуры, хто зарабляў на жыццё літаратурай. Самым маладзейшым быў Уладзімір Караткевіч. Усе мы, астатнія, працавалі ў рэдакцыях, выдавецтвах, на радыё, на тэлебачанні. Брыль працаваў за пісьменніцкім сталом да канца жыцця. «Хлопцы, вы, мабыць, яшчэ гэтага не ведаеце. А я калі дзень не сяду за стол, адчуваю сябе такой сволачху», — сказаў ён аднойчы.

Каб напісаць паўнавартасны літаратурны партрэт пісьменніка, трэба, відаць, мець адпаведны талент і валодаць хаця б літаратуразнаўчай тэрміналогіяй, мець добрую памяць, уменне ўбачыць пісьменніка ў кантэксце ўсёй літаратуры, як гэта, да прыкладу, умеў рабіць Андрэ Маруа. Таму паспрабую проста расказаць пра Івана Антонавіча як пра чалавека ў звычайным чалавечым жыцці, успомніць тое, што сёння ўспамінаецца і з усмешкаю, і з журбою. Таму і вяртаюся да той вячэры з Брылём, якая адбылася хутчэй за ўсё ў семдзесят сёмым годзе. Я тады ўжо працаваў у часопісе «Маладосць» і пасля работы пайшоў у «Паліткнігу», якая мясцілася ў пісьменніцкім доме на Карла Маркса.

Быў лагодны цёплы летні перададвячорак, не надта спякотны, з лёгкім ветрыкам, пры маладой зеляніне дрэў і не надта разагрэтым за дзень асфальтам. Ля кнігарні сустрэўся з Іванам Антонавічам. Павіталіся, спытаўся, куды іду. У яго быў добры настрой.

— А можа давай прыдумаем што лепшае, чым кнігарня. Дзе гэты другі майстра халодных спраў?

— Павінен на месцы быць, у яго служба, — адказаў у тон жартаўліва і кіўнуў на будынак ЦК КПБ.

Другі майстра халодных спраў быў ніхто іншы, як Анатоль Кудравец, які ў той час працаваў загадчыкам сектара мастацкай літаратуры ў ЦэКа. Майстрамі халодных спраў Брыль дражніў нас за назвы апавяданняў: у Кудраўца «Холад на пачатку вясны», у мяне «Асеннія халады». Я пазваніў Кудраўцу з тэлефона-аўтамата, які стаяў на вуглу дома пры магазіне «Белсаюздруку», дзе цяпер уваход у метро. Анатоль Паўлавіч быў пры тэлефоне, і я сказаў яму, што мы з Брылём вось тут і шукаем трэцяга. Праз некалькі хвілін Кудравец быў з намі.

І пачаўся наш абход рэстаранаў у цэнтры Мінска, які інакш як анекдатычным нельга назваць. Найперш мы пакіравалі ў новую прасторную «Жураўінку» на беразе Свіслачы. Там гулялі вяселле — якія могуць быць прэтэнзіі? Падняліся на гору да «Патсдама». Там абслугоўваліся замежныя турысты. Нічога страшнага — побач ёсць «Нёман». Але ён быў зачынены па «тэхнічных прычынах». Гэта ўжо развесяліла. Але надвор'е цудоўнае, кампанія харошая, і да гасцініцы «Мінск», дзе на пятым паверсе акуратны рэстаран, недалёка. Але і там нейкае спецабслугоўванне. Што ж, побач «Папараць-кветка». Выйшлі з гасцініцы і ўгледзелі: з-за вугла ад паштамта ў наш бок імкнуў Рыгор Семашкевіч. Мы заўважылі яго першыя. Рыгор, як угледзеў нас, зрабіў свой фірменны фінт: кругом-назад. Ён, калі хацеў пазбегнуць сустрэчы з кім-небудзь, засяроджваў увагу на цыгарэце і імгненна рабіў на пятцы правай нагі разварот на сто восемдзесят градусаў. Мы з Юркам Голубам пацяшаліся з гэтага ягонага разварота, але паўтарыць не маглі. Ды не тут то было:

— Грыша-а-а! — моцна паклікаў Брыль, і калі Грыша асуджана павярнуўся да нас, пальцам паклікаў да сябе. Свайго імянітага цесця Семашкевіч не тое каб пабойваўся, але стараўся трымацца ад яго на адлегласці.

— І куды гэта ты такі наваксаваны? — насмешліва спытаўся Брыль.

— Дыпломнікі робяць прыём пасля абароны, — Рыгор паказаў на «Папараць-кветку».

Стала зразумела, што і там нам нічога не свеціць.

— Ну, дыпломныя замочаць і без цябе. Давай з намі — мы таксама ідзём у рэстаран. З намі цікавей будзе.

І ўчатырох рушылі да старой гасцініцы «Беларусь» спакойна і ўпэўнена. Але і там знайшлася прычына, па якой рэстаран не працаваў. Мы разгублена пераглянуліся — ісці болей не было куды. І тут я пачуў упершыню, як Брыль смачна вылаяўся, хаця і лёгкі мацюк ад яго можна было пачуць рэдка. Семашкевіч з палёгкаю ўздыхнуў: яму «свяціла» «Папараць-кветка».

— Хлопцы, яны што — згаварыліся нас да Ніны Міхайлаўны загнаць?

— Можна і да Любові Захар'еўны, — прапанаваў Кудравец, маючы на ўвазе паехаць да яго. Але чаго да яго, калі Брылёва кватэра паблізу.

— Не, хлопцы, не тое, мальчышнік дык мальчышнік, — махнуў рукою Брыль. Было відно, што настрой у яго сапсаваўся — яму хацелася абысціся чамусьці без жонкі, на гэта была, відаць, нейкая свая прычына. Я ведаў, што жонку Брыль любіў, паважаў і пабойваўся, яна магла і прыкрыкнуць на яго.

Раз мне давялося быць у Брыля з Уладзімірам Андрэевічам Калеснікам, з якім Брыль сябраваў моцна і сапраўдна. Сяброўства іх пачалося ў партызанах. Разам з ім і Алесем Адамовічам рабілася кніга-помнік «…Я з вогненай вёскі». Дык вось тады, абедаючы, Іван Антонавіч у гаворцы нечага занадта загарачыўся, і Ніна Міхайлаўна абсекла яго:

— Ты прыдзерж сябе, Янка, а то Валодзя зноў пісталетам па галаве прыдзержыць.

І пачала расказваць знарок для мяне, як Калеснік прыдзерждваў Брыля ў партызанах, хітравата пазіраючы на мужа, якому вырашыла насаліць і якому зусім не хацелася яе расказа, але ён мусіў маўчаць. Калеснік, для якога такія сутычкі, мабыць, былі не ўпершыню, толькі злёгку пасміхаўся.

Брыль быў у адной з разведак, якой камандаваў Калеснік. Здарылася так, што разведчыкі нечакана сутыкнуліся з паліцаямі. Успыхнула кароткая перастрэлка. Вось тады Калеснік і прытаптаў пісталетам галаву Брыля ў разору між бульбоўніку са словамі: «Не высоўвайся, дылда, без цябе справімся!». Каб «закрыць тэму» і перавесці гаворку на іншае, Калеснік патлумачыў, што тая перастрэлка была адчэпнага дзеля: ніхто ні з партызан, ні з паліцаяў не хацеў злавіць кулю.

Цярпець закіды на свой адрас Брыль не любіў, сам мог дасціпна пажартаваць у кампаніі, але калі хто спрабаваў нават злёгку закрануць яго, мог адбрыць так, што ў наступны раз чапаць не хацелася.

— Можа, яшчэ не ўсё прапала? Пачакайце, я пазваню, — і Кудравец пайшоў у тэлефонную будку, пакорпаўся ў запісной, набраў нумар, потым пагаварыў з некім, і па тым, як ён з весела натапыранымі вусамі выйшаў, мы зразумелі, што званіў ён не дарэмна.

— Для нас ёсць столік у рэстаране гасцініцы «Турыст».

— Ну во, як казаў мой Лётчык, не на таво, сцерва, наскачыла, — весела пракаментаваў паведамленне Брыль словамі аднаго з герояў свае аповесці «Ніжнія Байдуны». А мне падумалася, што пасля аповесці ад прататыпаў-землякоў пірагоў яму перапала — у аповесці гумар быў не толькі дасціпны, але і крута пасолены.

Праехаць па Магілёўскім праспекце за плошчу Ванеева невялікая далечыня. Ды і машына знайшлася хутка. Высадзіўшы начальніка ля Мінскага абкама партыі, праз некалькі хвілін шафёр спыніў ля нас службовую машыну. Аказалася, што Анатолю Паўлавічу даводзілася бываць у тым рэстаране, і ён на ўсякі выпадак, пазнаёміўшыся з афіцыянтам, запісаў нумар тэлефона.

Афіцыянт прыязна сустрэў нас, прыняў заказ — і неўзабаве мы ўжо пасля першага кілішка весела і нават з задавальненнем успаміналі сваё турнэ па цэнтры Мінска і «захапляліся» зладжанай работай гарадскога трэста рэстаранаў і сталовак. Падвесяліла наш настрой і нечаканая сустрэча. Мы ўгледзелі на праходзе між столікаў аднаго нашага паважанага навукоўца. Ён быў белазуба ўсмешлівы, у цёмным касцюме, пры гальштуку. А побач з ім статная, у белым касцюме, на многа маладзейшая за яго пані, яўна завочніца, з букетам кветак. Знаёмы ўгледзеў нас. Усмешка застыла, і так заўсёды чырвоненькі твар яго густа зачырванеўся. Ну, сустрэцца з намі для яго было нічога, але ж — Брыль… Навуковец павітаўся кіўком галавы і пакіраваў да свайго століка, радуючыся, што ён аказаўся не паблізу з намі.

Брыль з падтэкстам зірнуў на Семашкевіча і пракаменціраваў:

— Вось так, хлопцы, вучыцеся ў старэйшых, а то ўсё «по кабинетам запершись».

Сядзелася ў тым чысценькім рэстаране даволі ўтульна. А потым, калі пачаліся танцы, Брыль выпараў танцаваць і Кудраўца, і Семашкевіча. Рыгор, развесяліўшыся, нават і полечку станцаваў. Гаварылі пра ўсё і пра нічога, было прыемна проста сядзець і гаварыць. Калі прыцямнела, Семашкевіч развітаўся з намі, сказаў, што трэба быць дома, так абяцаў жонцы. Мы яго не затрымлівалі, а самі прасядзелі амаль да паўночы.

Калі выйшлі на вуліцу, Брыль нечакана прапанаваў:

— А чаго мы будзем лезці ў транспарт? Давайце пяшком пройдзем.

Ноч была цёплая, не душная. Яшчэ не паспелі прапячыся на сонцы сцены дамоў і асфальт. Дыхалася лёгка, пахла незагрубелай лістотай. Адно толькі, што нам з Кудраўцом трэба было намагацца, каб не адставаць ад Брыля. Ішлі па амаль пустых вуліцах, гаварылі, жартавалі. Тады яшчэ можна было хадзіць па начным горадзе, не баючыся хуліганія і занадта пільных міліцэйскіх патрулёў, якія не так дакументы правяраюць, як абнюхваюць.

Правялі Брыля да дома і раз'ехаліся…

Чаму Івану Антонавічу захацелася тых мужчынскіх пасядзелак, Бог ведае. Можа, захвалявала маладое, сама напоўненае жыццём лета, а можа ўспомніліся, як яны некалі, радыя, што вярнуліся з вайны жывыя, — Шамякін, Кулакоўскі, Макаёнак, Вялюгін і іншыя — маглі, сабраўшыся гуртам, прахлапчукаваць усю ноч. Разыходзячыся, выдавалі кожнаму даведкі, што такі-сякі правёў ноч у кампаніі такіх самых і сведчылі гэта подпісамі.

Цяпер, пішучы пра нелітаратурнага Брыля, смутна ўспліла ў памяці даўняя, не помню калі быўшая паездка ва Украіну. Не помню з якой нагоды, хто яшчэ быў у кампаніі з нашых беларускіх пісьменнікаў і ўкраінскіх. Мы ехалі некалькі гадзін ноччу па стэпе і дарогаю спявалі. Брыль меў прыгожы голас, любіў і ўмеў спяваць песні. Ён ведаў іх многа, сваіх беларускіх, польскіх, але, мне здаецца, найбольш любіў украінскія.

Неаглядны ўкраінскі стэп, ноч, паўднёвая каламутна-жоўтая поўня над стэпам, палынковы стэпавы водар праз адчыненыя вокны — і Брылёў голас, які спявае казацкую песню: «…Папярэду Дарашэнка вядзе сваё войска, Войска запарожска, вядзе харашэнька».

Гучыць песня, аўтобус мкне і мкне пад вечнай поўняй з аднаго быцця да другога, а да небыцця яшчэ так далёка.

ЮБІЛЕЙ

# «МАЕ ВЯРНУЛІСЯ ГАДЫ»

## УЗАЕМНЫ ЎПЛЫЎ

Як непрыкметна і як імкліва перацякае час у гісторыю! Здаецца, толькі ўчора размаўляў з гэтым па-дзіцячы наіўным і адначасова мудрым, аптымістычным чалавекам, поўным невынішчальнае веры ў вечную каштоўнасць мастацкага слова, а ўжо восем гадоў яго няма сярод нас. Я выяўна чую яго бездакорную, нягледзячы на мілы габрэйскі акцэнт, беларускую мову, на якую ён лёгка пераходзіў з літвацкага дыялекту ідыша – яго мамэ-лошн, матчынай мовы.

У красавіку спаўняецца 100 гадоў з дня яго нараджэння (прыйшоў у свет у Чашніках Лепельскага павета). Усё сваё жыццё, непарыўна звязанае з Беларуссю, Рыгор (Гірш) Рэлес прысвяціў служэнню габрэйскай літаратуры.

Педагог па адукацыі, Рыгор Рэлес не толькі актыўна працаваў у літаратуры, але і выкладаў у габрэйскай школе, а пасля закрыцця пад сцягам камуністычнага інтэрнацыяналізму габрэйскіх навучальных установ – у расійскай вячэрняй школе; цудам пазбег трагічнага лёсу, які напаткаў большасць габрэйскіх дзеячоў культуры ў гады сталіншчыны, «адрабіўся» ўсяго выключэннем з Саюза пісьменнікаў БССР.

У пасляСталінскім Савецкім Саюзе існавала два перыядычныя выданні на мове ідыш: часопіс «Саветыш геймланд» і газета «Бірабіджанэр штэрн». На іх старонках час ад часу з'яўляліся Рэлесавы вершы, апавяданні, нарысы і замалёўкі. Яго творы перакладаліся на беларускую і расійскую мовы, зрэдчасу з'яўляліся на старонках замежных перыядычных выданняў. Але тагачаснае жыццё ў краіне несвабоды не давала пісьменніку магчымасці выказацца да канца. Памятаю, як аднойчы ў гаворцы са мною Рыгор Львовіч сказаў пра актрысу былога Дзяржаўнага габрэйскага тэатра БССР Юдэс Аронсчык:

— Якая таленавітая жанчына! Сапраўдную зорку яна зняла на габрэйскай сцэне. Але ж гэтую сцэну вырвалі ў Юдэс з-пад ног, і цяпер яна працуе рэжысёрам у народным тэатры глуханямых. Як гэта сімвалічна!

І я зразумеў, што гэта сказана не толькі пра Аронсчык, але і пра сябе.

Яшчэ ў хрушчоўскія і брэжнеўскія часы Р. Рэлес шмат ездзіў па гарадах і мястэчках Беларусі, сустракаючыся з чытачамі, прапагандуючы габрэйскае мастацкае слова, збіраючы фальклор, а з пачаткам перабудовы пісьменнік акрыяў, актыўна працаваў у Мінскім аб'яднанні габрэйскай культуры, вёў курсы мовы ідыш, на якіх вучыліся не толькі габрэі, але і многія беларусы, якія цікавіліся мовай і культурай народа, чый лёс на працягу больш, чым шасці стагоддзяў быў непадзельна звязаны з лёсам беларусаў. Адзін з выпускнікоў гэтых курсаў, А. Астравух, склаў цудоўны ідыш-беларускі слоўнік з мноствам прыкладаў жывой габрэйскай гаворкі, узорамі фальклору, літаратурнымі цытатамі, з аналізам узаемнага ўплыву дзвюх моваў.

Апошнім значным творам Р. Рэлеса сталі яго мемуары «Габрэйскія пісьменнікі Беларусі».

Абмежаванасць газетнай плошчы не дазваляе падрабязна расказаць пра доўгае і напоўненае драматычнымі падзеямі жыццё гэтага выдатнага чалавека. Лепш за ўсё пра пісьменніка гавораць яго вершы.

**Феліks Баторын**



Фота Сергея Шапрана

Рыгор Рэлес (справа) і Рыгор Барадулін

**Рыгор РЭЛЕС**

### Рып

*Старая пахілая ліпа*
*Глухою парою начной*
*Гайдалася з жаласным рыпам,*
*Бы нехта стагнаў за сцяной.*

*Не спаў я у гэткія ночы,*
*Трывожна на сэрцы было:*
*Вось грымне лясіна аднойчы*
*На беднае наша жытло,*

*Ударыць з разгону па даху,*
*Разбурыць хаціну як бач!*
*І сёстры дрыжэлі ад страху,*
*І тату будзіў іхні плач.*

*Ён нас супакойваў: «Не трэба*
*Баяцца, мае галубкі —*
*Такое рыпучае дрэва*
*Звычайна стаіць два вякі».*

*Дзясяткі гадоў праімчалі,*
*А ліпы старое тае*
*Ніяк не забыцца: начамі*
*Мне рып яе спаць не дае.*

**Пераклаў Феліks Баторын**

### Мяцеліца

*Поўня за акном са змрокам цвеліцца.*
*Дарагая, выключы святло.*
*Бачыш, як вясёлая мяцеліца*
*Сёння ў ход пусціла памяло!*

*Маладая, шустрая, нязвычная*
*Так імчыцца —*
*Следу не відно.*
*Пухкаю, бялюткай рукавічкаю*
*Не нахабна грукае ў акно.*

*Гэта не мяцеліца —*
*Гарачыя*
*Зноў мае вярнуліся гады.*
*Нібыта*
*Сябе ў люстэрку бачу я —*
*Быў такі няўрымсны,*
*Малады.*

*Гэта маладосць мая вярнулася,*
*Толькі не зялёнай,*
*А сівой.*
*Праз акно пабач,*
*Сяброўка чулая,*
*Што ў маёй душы за неспакой.*

**Пераклаў Рыгор Барадулін**

### Крыгаход

*…Нібы маланкі лёд спаласавалі —*
*І грымнуў гром — адтуль, з бяздоння вод.*
*Блакітным вокам выблісНула хваля —*
*І зноў у вір. Пачаўся крыгаход!*

*Вільготны вецер абвясціў адкрыта.*
*Што лёд крануўся, збуджаны вясной.*
*А людзі й не пачулі навіны той,*
*Занятыя будзённасцю сваёй.*

*Ля дома жонка першаю спаткала,*
*Яе пагляд нібыта гаварыў:*
*«Што там цябе раптоўна ўсхвалявала?*
*Такім шчаслівым ты даўно не быў!»*

**Пераклаў Генадзь Кляўко**

* * *

*І дзень мне не ў дзень, калі доўга цябе*
*я не бачу,*
*І яснае сонца нібы не смяецца, а плача.*

*Дарэмна выводзіць рулады жаўрук*
*па-над жытам:*
*Не бачу цябе — і сляпы і глухі я нібыта.*

*Ні кветкі на лузе, ні сінь, што сцякае*
*ў азерца,*
*Ні звон ручая серабрысты не цешаць*
*мне сэрца.*

*Бяседа сяброўская мне не аблегчыць самоту.*
*Паўсюль я знаходжу гаркоту адну*
*ды маркоту.*

*Не каюся, не, і дарогі назад не шукаю.*
*Я вырваў бы з сэрца цябе, толькі сілы не маю.*

*Паставіць бы побач вас: гэту,*
*што ў сэрцы, і тую,*
*Якая з любоўю ганебна і жорстка жартуе.*

*Каханне і здраду — пакінуць вас вока*
*на вока,*
*Самому ж пайсці без аглядкі далёка-далёка.*

*Я гэта — клянуся — зрабіў бы без стогну,*
*без плачу,*
*Аднак толькі з сэрцам з грудзей цябе*
*вырвеш, няйначай.*

**Пераклаў Феліks Баторын**

### Дом

*Не моўкне бусліны клёкат.*
*Мой дом не мяняюць гады.*
*Хоць шлях да яго недалёкі,*
*Ніхто не заедзе туды.*

*Заўсёды блішчаць аканіцы,*
*У печы смыляць смалякі.*
*Ступае прамень па масніцах,*
*І фікус рагаціць сукі.*

*А дзверы не скрыгнуць паволі,*
*Замок прабояў не гне.*
*Мой дом не прытуліць ніколі*
*Нікога — і нават мяне.*

*Той дом, дзе тугую яліну*
*Клаў бацька для ўсіх на вякі,*
*Застаўся стаяць ва ўспамінах, —*
*Мне пахнуць смалою сукі.*

**Пераклаў Рыгор Барадулін**

* * *

*Калі, збудзіўшы крыллем далі,*
*Над хатай, полем, над вадой*
*У вырай гусі адляталі*
*Асенняй сумнай чарадой;*

*Калі тужліва на змярканні*
*Яны крычалі з неба мне*
*Пра непазбежнае расстанне*
*І пра вяртанне па вясне;*

*Калі, нібы з апошняй сілы,*
*Як лета спознены ўспамін,*
*На золку сонца запаліла*
*Кастры пунсовых журавін;*

*Калі туман з рачное сіні*
*Сплываў павольна на лугі*
*І з чыстым срэбрам павуціння*
*Я сам міраўся без тугі, —*

*Мне разам з птушкамі карцела*
*Падацца ўдалеч,*
*ды куток,*
*Дзе адзвінела-праляцела*
*Жыццё,*
*пакінуць я не мог.*

*Тут травы, дрэвы, нават зоры —*
*Мне найбліжэйшая радня.*
*Тут і натхненне і бадзёрасць*
*Нанова чэрпаю штодня.*

**Пераклаў Артур Вольскі**

### Паляванне на зайца

*Я ля голага дрэва стаіўся,*
*Нерухомасцю роўны камлю.*
*Зрок напружыўся, слых абвастрыўся:*
*Я касога на мушку лаўлю.*

*Вось яно — паляўнічае шчасце —*
*Ён вялікі і гладкі такі.*
*Раптам дзве супрацьлеглыя страсці*
*Скрыжавалі ў сэрцы клінкі.*

*Халадок у душу запаўзае,*
*Ціхі голас нашэптвае мне:*
*«Чым, скажы, правініўся той заяц?*
*Ён так рады світанню, зіме.*

*Прастадушны, жыве, як умее.*
*Будзе стрэмкай сумненне калоць:*
*Ці ж цябе яго футра сагрэе?*
*Ці ж насыціць цябе яго плоць?»*

*Ну а заяц сядзіць ля асіны,*
*Чэша лапкаю вуха і нос*
*І не ведае, што праз хвіліну*
*Можа стрэл абарваць яго лёс.*

*«Вось тваё паляўнічае шчасце!»*
*«Не чыніў бы ты лепей бяды!»*
*Каб знянацку касы не памчаўся,*
*Я напэўна б не стрэліў тады.*

*Крывавжэрным не быў я ніколі.*
*Паляванне — не мой гэта хлеб…*
*На курок націскаю міжволі —*
*І на момант нібыта аслеп.*

*І, сябе ўжо гатовы аблаяць,*
*Нечакана я радасць адчуў —*
*Уцякае спалоханы заяц,*
*Толькі хвосцік мільгае ўваччу!*

**Пераклаў Феліks Баторын**

### Вочы

*Ці пяшчотна, ці пагрозна,*
*Ці гарэзліва, ці злосна,*
*Па-кашэчы ці па-воўчы*
*На мяне глядзіце, вочы.*
*Аднаму не буду рады*
*Раўнадушнаму пагляду.*

**Пераклаў Феліks Баторын**

ВЕРШЫ

# ДУХ І ЛЮСТРА

Кацярына СЯНКЕВІЧ



Фота М. Лукшы

**Кацярына нарадзілася 11 снежня 1991 года ў Гайнаўцы на Беласточчыне (Польшча). Жыве на хутары Граматнае Гайнаўскага павета. Закончыла Мастацкі ліцэй імя Артура Гротгера ў Супраслі ў класе фатаграфіі і тканіны. Цяпер — студэнтка мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта. Аўтар кнігі паэзіі «Дачка ружы» (2011 г.).**

* * *

*Мы знаёміліся*
*па-рознаму*
*свяціў дождж*
*ішло сонца*
*агулам надвор'е*
*было прыгожае ў сэрцах.*

*Мы гулялі галовамі*
*у кожнага з нас*
*было іх па дзве.*

*Надышоў ураган*
*адчыніў нам вочы*
*хтосьці з нас быў у двух абліччах*
*я не мела твару.*

## Кветка

*Я лёгка ўклала дзявочую кветку ў зубы,*
*і хутка памяняліся спосабы маіх позіркаў.*

*Я магла б намнога больш,*
*паўтарылася б мінулае,*
*падвойны смак болю, калі б ты хацеў.*

*Аднак такое каханне праходзіць*
*праз пятнаццаць хвілін —*
*як голад.*

* * *

*ці магу быць для цябе*
*малая так нармальна*
*маладая так натуральна*
*сівая на твары ад сівога плачу*
*звычайна*
*скажы і мне няпраўду*
*праўду ведаю ўжо добра*

* * *

*Усю цемру мусіш сцерагчы*
*як цяжкую зброю трымаеш за люстрам*
*не без віны як кожны*

*чаму ж расказваеш ёй пра мяне*
*я нават табе*
*не ўспомніла пра цябе*

## Драбіна

*Найбольш бяспечна забыцца аб табе —*
*жывеш завысока.*

*Спрабую ўзняцца туды —*
*лепш каб ты не бачыў мяне на драбіне*
*думак.*

*Уздымаюся нашай агульнай*
*драбінай,*
*бо адпаведны напрамак вядзе ўгору,*
*хоць неакрэслены ні знізу, ні зверху…*

## Дух і люстра

*чакаеш аж перапрануся*
*і надзену скуру*
*у якой я магла б адчуваць сябе*
*сабою*

*не жыву*
*ты якраз спазнаў*
*мой найбольшы сакрэт*

*калі я жыла*
*насіла сукенкі*
*ў кветкі*
*хачу іх табе паказаць*
*хаця гэта кавалак анучы*
*я была ў іх прыгожай*
*кажуць*

*дай мне толькі некалькі хвілін*
*таго зямнога*
*смешнага часу*

* * *

*Вяртаюся,*
*іду.*
*Ідучы, ірву палявыя*
*кветкі з лістотай*
*дрэў.*

*Прыйшла,*
*ёсць*
*і, ёсцевая, чытаю*
*ўвесь букет —*

*сляды слоў,*
*што прагнуць ісці*
*назад.*

## Туга

*сыходзіць праз столь*
*каналамі павекаў*
*стварае дождж*
*налівае збаны горла*
*запаланяе крэсла пад сабою*
*стаецца іншай асобай*
*табою*

* * *

*гляджу ў рэха маўчання*
*бясконцае цела ценю*
*плод яго рве галіну*
*з ізаляцыі дрэва*
*што ёсць*
*чаго няма*
*пачынаю ведаць*

* * *

*з неба істоты снежныя*
*кажуць ісці*
*страх думаць лёгкадумна*
*падвяргаюся ім*
*аракула шукаю*
*не даўраю вуснам*

* * *

*прашу пра дапамогу ў казцы-пуху*
*мараў*
*хто калі не ты зразумее і наладзіць*
*замком веяў зачыняю маўчанне*
*сляза захоўвае апошнюю заяўку*

* * *

*чорная кроў вачэй*
*тэлефонам змоўчана*
*згасае стомленага агню*
*апошні досвед*
*апошнія слёзы*
*духмяныя табой*

* * *

*даведаца праўду цяжэй*
*чым збіраць яблыкі*
*піць чужую шыю*
*дакранаць цябе вуснамі*

* * *

*я растаптала кветку што бегла*
*за пакрыўджаным тварам*
*сівых валасоў*
*(хто можа ў насычаных колерах*
*абвінавачваць галаву існаваннем*
*адзіноты дрэў?)*

*калі ўцяку паткнешся*
*не хачу аплакваць прахалодныя рукі*
*мае валасы вырастуць ды толькі*
*калі перастануць рваць іх пальцы гора*

* * *

*Праверыла ці магу спыніць цябе*
*бачыць*
*хаваючы попел фатаграфій*
*букет завялых месяцаў.*

*Відавочная адсутнасць твайго твару ў*
*сэрцы*
*дазволіла пражыць*
*адзін дзень*
*без слёз.*

* * *

*хто з'еў папяровую галаву праўды*
*калі размаўляем пра нешта*
*лягчэйшае чым паветра?*

* * *

*чакаю чагосьці што потым*
*буду называць успамінам,*
*доўга пакутую, таму не можа быць*
*інакш.*
*Ядвабная надзея высцілае ўжо*
*маю галаву ўнутры,*
*упэўнівае мяне, што хачу дабра,*
*наіўная.*

* * *

*адчуваю да цябе*
*дарэмнае вечнае каханне*
*без прычыны*
*таму рань*
*маю радасць быцця*
*абсмейвай*
*наіўную ўсмешку*
*ламі сэрца як*
*кубікі лега*

* * *

*адчуваю вялікую прорву*
*паміж успамінамі*
*агромную прорву сну*

*час ад часу адчуваю гэта*
*вызіраюць даўнія вочы змроку,*
*як яго вусны цешацца*
*маім плачам*
*маёй крохкай шыяй*

*ледзь трымаюся цела,*
*што адлятае туды, дзе*
*няма болю, кудысьці над луг,*
*пасярод хмар*

* * *

*я бачыла цябе ў згнілым святле*
*некалькіх паржавелых*
*планет*
*я была тваёй далонню*
*такою самай у абодвух блесках*
*яшчэ ўчора быў поўдзень*
*і мы хацелі аб ім размаўляць*

## Калі баляць думкі

*не рабі мне на злосць*
*гэта небяспечна*
*я прыцягваю праклятцці і чорных катоў*

*я жыла з чорным коцікам*
*я чараўніца*
*праклятая*

*раней абразілася на*
*свет выдумала лепшы*

*не бачыць мяне зблізку*
*калі баляць думкі*

* * *

*голая бессаромная цёплая*
*для іншых неабгрунтаваная*
*першабытная*

*накручваецца як музычная шкатулка*
*калі адчуваем сваю прысутнасць*
*іграе калі праходзім побач*
*застыгае на кароткую вечнасць*
*настолькі каб мы паспелі захапіцца*
*думаючы:*
*якія ў цябе прыгожыя вочы*
*Бога*

## Анёл

*Ніхто не хоча цябе пакрыўдзіць*
*не бойся*
*хоць баліць табе сам*
*гадзіннік*

*не ведаю як гэта зрабіць ды твае вочы*
*павінны пахнуць шчасцем*
*адчувальным*
*адбудуеш свой свет*
*паміж зямлёй і небам*
*на мяжы той самай песенкі*
*той якую вядома*
*выбераш*
*сама*

МІНІЯЦЮРЫ

# АДКЛЮЧЭННЕ СІСТЭМЫ

Марына ЯЎСЕЙЧЫК


Фота Н. Таменок

## Скажы літару «ДОМ»

Пашаманім на вогнішчы пачнога кахання? Давай. Раскрый рот. Скажы літару «ДОМ». Каб «Д» перацякла ў «О» і прагучала рэхам у гары, перацякла ў «М» і змоўкла, нібыта скончаная песня. Пабудуй дом для мяне, для сваёй нявесты. Будуй без цвікоў, без вострых вуглоў у хаце, каб печ і агонь, у агні — наша каханне, як цяпер. Не згары яно агнём, падкармі яго, агонь, каб каханне наша не згасла і семені многа дало, каб шчасце ў хаце. Каб радасць у хаце. Мы разам жывём.

## Трыпціх

Трыпціх. Гэта калі тры птушкі. Разам. У гняздзе сядзяць. Ты. Я. Дзіцёнак.

## Толькі кубачак кавы

— З чаго зроблены кубачак твой? Кубак, з якога п'еш.

— З акіяну. Акіяну вачэй тваіх, каханы мой. Кубак дае цяпло далоням маім, якія мерзнуць, нібы іх праклялі. І агонь, што ў грудзях, не растопіць лёд той, які ў далонях жыве. Плыні — палонкі — вадавароты — жаданні — імпэты — пачуцці. Усё тваё. Усё маё. Лета было на дваіх. Тваё — марское. Маё — акіянскае. І абодва ляжалі на грудзях зямлі. І абодва пагладалі ў бездань вачэй марскіх — акіянскіх. Тваіх — маіх. Сонца растала на ўзмежжы недахопаў кахання. Я за табой ішла. Цяпер ты за мной. Чую голас твой з бездані акіянскай. Пацалунак табе ў няголеную шчаку. Бусь! Ты адчуў цяпло, мой любы-каханы? На ўскрайку. Мяжы. Самаадданне. Далёка ты. Няблізка я. Толькі кубачак кавы злучае нас. Калі разам п'ем. Ты там. Я на канапе. На чужыне ты, на Радзіме я. Вярнулася, ты ж з'ехаў. Вось мяжа. Тая самая. Нашага акіяну.

## Ты браў сваё

Ты браў сваё, а я глядзела ў неба. У неба не вачэй тваіх — нябёс. Нябёс, што долу збочылі, з прасторы, дзе выгадаваў нас Гасподзь. Ты браў сваё: мае вусны і грудзі. І паглынаў і падмінаў. Ланцужок твой — спакуса. Ланцужком мяне ты трымаў. А я глядзела ў неба без думак. Без абурэнняў. Клічнікаў, пытальных знакаў і злучнікаў не было. Маўчанне. Як засланнё ад свету. А я глядзела ў неба, калі ты браў сваё.

## Разгаварылася

Што сядзіш? Што маўчыш? Апокрыф пішаш на tabula rasa. Тысяча дошкі тваёй абмяжоўвае ўласны Сусвет, які ты ствараеш подыхам. Навальніц. Што заселі ў тваёй галаве, што гавораць пра закіды мераў людскіх. Человек — мера всех вещей. Ці ж праўда гэта? Мералі-мералі, ды не адмералі. Ды не вымералі. Мярыла ўзялі не тое. Не сваё. З-за мяжы прыцягнулі. На якой мове гавораць, на такой і думаюць. Пра што думаюць, тое і выказваюць. Кача, дыча, індыча. Шабат шалом табе! На мовах розных гаворыць той чалавек, які мае права выказацца. Сказ гучыць. На раз-два-тры. Крокам. Адскоч. Адспрэчвай думку сваю, якая на табе запісана. Белых лістоў, чыстых папер не бывае. Ёсць шум, гоман, траскатня. Нехта зубамі ляскае. Нехта ў далоні пляскае. Апакаліптычная каштоўнасць часу. Не сядзіцца ўжо. Разгаварылася.

## Споведзь

Споведзь. Прастору. Часу. Вушы слухаюць. Вусны — п'юць. Гарбату. На ўскрайку мяжы. Думкі мае. Здараюцца ісціны з намі. Ты п'еш. Я куру. Цыгару. Ты глядзіш. На грудзі мае. Я лашчу позіркам твар твой. Мяжа. На ўскрайку — мы. Паміж намі. Між табой і мной. Адчуй, ты п'еш. Я куру цыгару. Браняпоезд імчыць за акном. Вайна. На ўскрайку. Вайна паміж намі.

— Аб'яўляю вас мужам і жонкай, — сказаў айцец Надсан.

Так сталі мы. І ўсталі. Удваіх.

## На мове дзікіх сабак

Імгненне поўніцца выем сабак. Мінута — ныццём чалавечым. Што агульнага тут, калі часавыя прасторы не супадаюць і не могуць з дакладнасцю сказаць, хто і як жыццё сваё пражывае. Сабакі раніцу маю сустракаюць. Гаўканнем, лаянкай. Поўніцца гукам тым увесь мікрараён загрувашчанага горада. Поўніцца гукам тым кожны пад'езд туманнага горада. Прадбачылася ўбачанае мною шмат дзён таму. Калі на ўскрайку дарогі ляжаў дуб-волат-асілак. Сканаў чалавек. Памерла дрэва яго. Цень стаў туманом, што з узгорка коціцца ў горад, апантана абдымае шматпавярховікі, якія лезуць у неба. Таму не сустрэнуцца ніяк прыроды з'ява і праява чалавека. Не ў лад ідуць справы. Раз'яднанне: гаў-гаў! Таму не дам! Гаворыць чалавек з чалавекам на мове дзікіх сабак.

## Я дастаткова зарабляю

Я дастаткова зарабляю, каб не стаяць з табой у чэргах на кірмашы. І ўвогуле, можна схадзіць у краму, каб не мерзнуць тут, пералічваючы тыя рублі, што дае твая эканомія. Я дастаткова зарабляю, каб у вольны час дазволіць сабе зрабіць сапраўдныя выходныя. Я дастаткова зарабляю, каб не мерзнуць на вуліцы ў бясконцых чэргах, а грэцца з табой у ложку. Намацаць пальцамі твае трусікі і… Я дастаткова зарабляю, але ж ты не чуеш мяне. Ты імкнешся мерзнуць. Для цябе большая асалода ў бегатні пад снегам. Ты любіш яго халодныя дотыкі больш за мае цёплыя пацалункі. Чаго ты такая суровая, як гэтая пара года, што страсае з тваіх веяк ледзь прыкметны маленькі снег? Ты ж не Снежная Каралева! Ты мая жонка. І я мушу сказаць, што дастаткова стварыць мадэлі рассявання часу праз дзіраваe грашовае сіта. Хіба ты не разумееш, што агульны настрой, які пануе сярод людзей, што агульны настрой наўмысна створаны для шэраў мас, якія ходзяць натоўпамі, што ён толькі збівае спанталыку? Навошта табе гэтыя падмерзлыя яблыкі за дзевяць тысяч, калі можна купіць вялікія і салодкія за дзесяць? Сэканоміць тысячу? Яна патрэбна табе болей, чым мой клопат пра цябе? Я дастаткова зарабляю, каб не лічыць грошы, якія ты эканоміш у чарзе. Снег ідзе. Я люблю снег. Ён гаворыць, а ты маўчыш. Не ведаю толькі, ці чуеш мяне. Думаеш, падлічваеш, дзе б танней купіць. А я дастаткова зарабляю, каб раптоўна сарваць з цябе станік. Ён ад Calvin Klein. Памятаю, ты казала, што бялізну можна купіць і дома. А я прывёз яе табе з Нью-Йорка. Ты адмовіла мне ў дотыках, ты сказала, што ў краіне рэжым жорсткай эканоміі. Ты адмовіла мне ў дотыках, разумееш? Ты маўчыш, за цябе гаворыць снег. Ты любіш зіму. Я дастаткова зарабляю, каб кахаць цябе…

## Адключэнне сістэмы

Калі ўзяць ды адключыць інтэрнэт ва ўсім свеце — святла ў вокнах стане менш, а людзей пабольшае. На ўскрайку Нябёс будзе тады тахкаць Бог: «Мне нудзіцца, што ім даспадобы прыйшоўся іх лёс: не выпраўляюць, не перакрэсліваюць, не хочуць нанава напісаць. Павыходзілі як ёсць, са свайго інтэрнэту, са сваёй павуціны вылезлі і сядзяць. Што з іх возьмеш? Ды нідзе нікога. Абы што…», — тады б падумаў Бог. Падумаў бы Ён пра чалавека. Пра людзей ён так падумаў бы.

Завіруха. Мухі палююць на бегемота, які жыве ў Беларусі. Не ў заапарку — проста так, пад калівам. З гарадскога куста страсае лапікі елак. Яны падаюць іголкамі ўніз і на скуру бегемоту — плясь! Не чуе. Таўстаскуры. Як і чалавек. Тоўсценькі. І скура аж гарыць. Ад прыцемак, што ў яго галаве. Ат не! Не чуе чалавек! Сядзіць. За камп'ютарам сядзіць чалавек. І слухае. Музыку электронную слухае. Яна палюе. На людзей. Збівае старыя праграмы кіравання светам, свае парадкі наводзіць. Таўстаскурыя не заўважаюць, як пачынаюць рохкаць — парсючкамі становяцца. Маленькімі. На прысмакі ласыя як на дотыкі гаспадарскія. Хатнія жывёліны. Не дзіўкія. Куды ім бадацца, бязрогім? У хлеўчыку сядзець! У тутэйшай прасторы ўжо ёсць начальнік. Чалавек толькі за госця тут.

Нудзіцца Бог. Як сыйшоў ён з Зямлі, так перастаў слухаць. «А што? Што мне слухаць, калі машыны гавораць? Гук Зямлі, гук Космасу заглушылі. Адбудавалі Сістэму Кіравання Планетай. Хто гэта? Хто яны, чалавекі? Раз-два, раз-два: кіруе Сістэма. Пі-пі-піпіпі… Код стварае камп'ютар. Розумам Код не падбярэш — здаровуе толькі згубіш. Сэрцам думаць сама лепш — яно жывое, яно падкажа», — сам з сабою размаўляе Бог.

«Ды куды ім, зямным парсючкам, людзьмі звацца? Беларусы! Ото ж!.. Гэты народ яшчэ які мароза- і цеплаўстойлівы! Але ходзіць у вопратцы чорнай. На плячах іх вісяць мышалоўкі. Кляц-кляц! І створаны захворванні: цялесныя і духоўныя. Спаць-спаць-спаць… Сістэма кіруе. Плясь! Плясь! Плясь! Сістэма цапамі малоціць сабраны ўраджай. З душ людскіх выкалочваюць энергетычны запас. За краты не хочаш? Аддай! Аддай! Душу сваю, сілу сваю аддай. Нам! Нам! Нам! Для агульнай справы патрэбна. Дай! Дай! Дай! Мы ўсталюем панаванне Сістэмы», — пераказвае Пан Бог калісьці даўно ім пачутае, ад самой Сістэмы пачутае.

«Ага! Ага! Ага! Аддаём! Аддаём! Зараж жа! Сілу сваю не прап'ём, не праядзім! Жыццё сабе захаваем. Дурны чалавек — то згодныя мы. Але ж ён разумнейшы за тую Сістэму, якую ствараюць тыя, хто прыніжае і б'е. Аплявуху ім! Беларусы ідуць самі па сабе — падпарадкавання над імі не будзе», — пачуў нечаканы адказ Валадар Сусвету. Пачуў адказ ад Чалавека.

«Ох!», — уздыхнуў Пан Бог.

І сваёй рукою пацягнуў за правадок, выдраў разетку з коранем. Каб немагчыма было аднавіць. Каб немагчыма было паўтарыць стварэнне Галгофы, на якую ішлі і да якой даходзілі людзі. І паміралі там, Ключоў Праўды не знаходзіўшы.

«Э не!», — выдыхнуў Бог. «Беларусы — людзі! Выплюнуць тую Сістэму! Ці дазволіць зрабіць ім крок наперад? Бррр…», — усхадзіўся Бог.

«Пачатак закладзены. Муравы рог у даліне дальменаў! Там пачнецца стварэнне Новай Сістэмы. Дзе музыка. З правага вуха ў левае. А ну марш! У першабытнасць!», — і сагнаў Пан Бог усіх людзей з месцаў наседжаных. Месцаў нагрэтых.

«Агнём гары, калі патопу не будзе болей! Даў слова сваё — не тапіць. То агонь свой у іх далоні кіну! Няхай папячэ крыху. Ото ж загамоняць тады! Ото ж скажуць яны, у якое поле цяпер пойдуць!..», — разважае сам сабе Гаспадар Сусвету.

«Ствараў-разбураў… То пачну зноўку нанова», — агучыў Бог сваю прапанову. «Марш! Марш! Марш адсюль! Размаўляць я не буду болей. Выйшла ўсё з-пад кантролю. І ляціць так, што ніхто не дагоніць».



ВЕРШЫ

# ПЕРАЎЛІК ПРАЖЫТАГА

Леанід ГАЛУБОВІЧ



***

*Ёсць*
*высокі*
*палёт —*
*азарэнне,*
*і — глыбіннага сэнсу пласты.*
*Дух,*
*зацяты ў зямных сутарэннях,*
*прагне ўзнесціся ў Космас*
*пусты…*

***

*За сталічнаю кальцавой*
*дарогай,*
*у лясной зацені непадалёк*
*Баравой,*
*прыставіўшы стары ровар*
*да стромай сасны,*
*сядзіць у дзьмухаўцах*
*і зялёнай траве*
*чалавек*
*і чытае кніжку,*
*раз-пораз*
*заходзячыся ад смеху…*

*Іду з сабакам сцежкай наўзбоч*
*і гадаю, каго ж ён чытае:*
*О' Генры, Чапека, Мрыя,*
*а, можа, Джэці?..*

*І ўвогуле,*
*ці не адзін гэта з апошніх*
*чытачоў,*
*што ненадоўга*
*збег*
*з віртуальнага свету?..*

***

*Цалуюцца маладзёны*
*ў вагоне метро…*
*І пацалункі іх*
*робяцца ўсіхнімі.*
*Разам з пасажырамі*
*яны стайваюць*
*на кожнай*
*станцыі…*

***

*Калі жанчыне пяцьдзясят,*
*а фарбы ў вобліку красуюць,*
*і пара жвавых чарцянят*
*вачэй яе ў тваіх танцуюць...*

*Тут важна розум не згубіць,*
*і юр яе прыняць дэ-факта,*
*і да канца мужчынам быць,*
*няхай і… на мяжы інфаркта...*

***

*Як даўно я*
*ў бацькоўскім доме не быў!*
*Ужо і лес пасівеў…*
*А зязюля,*
*з дзяцінства знаёмая,*
*ўсё кувае*
*гады незлічоныя…*

*Няўжо так доўга*
*яшчэ мне жыць?! —*
*слухаць стаміўся, —*
*пакуль нарэшце не зразумеў,*
*што і ў зязюлі*
*бывае пераўлік*
*пражытага…*

### У зямным заапарку

*Воўк палюе,*
*ліс хітруе,*
*страус хавае ў пясок галаву...*
*І як не марудзіць зязюля,*
*сквапна зберагаючы вечнасць,*
*чалавек аніяк не ўцячэ*
*ад інстынктаў і звычак*
*звярыных...*
*Але з даўніх часоў*
*зжываемся ж неяк усе мы*
*ў адзіным зямным заапарку:*
*бывае, што звер*
*прыручаецца чалавекам,*
*а, бывае, што сам чалавек*
*звярэе...*
*І ўсё ж,*
*дзякаваць Богу,*
*да гэтай пары*
*па абодва бакі вальера*
*адзін аднаго пазнаём...*

***

*Тутэйшы дзед*
*выгульвае ў прылеску*
*старога саслабелага сабаку.*
*Я са сваім іду яму насустрач,*
*і тую псіну ён як найбліжэй*
*наўмысна крок за крокам*
*падпускае...*
*— Не бойцеся,*
*цяпер ён стаў нязлы,*
*яму адно каб толькі*
*пасумоўнічаць…*
*На выгляд дзед —*
*вайсковы адстаўнік,*
*і гэта ўсё ён кажа мне па-руску,*
*маўляў, «ему бы только*
*пообщаться»…*
*Я не магу магчымасці такой*
*не даць сабаку,*
*ведаючы добра,*
*што нашы меншыя браты*
*адною моваю заўжды гавораць…*

***

***У звязку з лістом***
***М. Маліноўскага ў КДБ,***
***апублікаваным на сайце РС***

*У Багрыма верш забіраюць,*
*а ў яго ён і быў адзіны,*
*і Паўлюк яго не прысвойваў,*
*бо лічыў, што для ўсіх напісаны…*

*А далей,*
*вы толькі паслухайце,*
*бы халодную зброю, молат*
*у яго канфіскуюць кавальскі,*
*той якраз, з-пад якога*
*вылятаілі жар-птушкі…*

*А яшчэ*
*халуём называюць*
*польскім,*
*запраданцам і русафобам,*
*на магіле помнік руйнуюць…*

*Але трыццаць тры жаўрукі*
*ўсё адно на груд прылятаюць —*
*і ўхвалу пяюць яму вечную,*
*кажаноў наўкол адганяючы,*



Фота А.Скрыдлеўскага

*а пасля шчабятлівым граем*
*каля свечак роднага слова*
*ў храме грэюцца*
*на жырандолі.*

### Дыялог

*— Хачу быць прыслоўем*
*Тваім, Гасподзь,*
*пад неба высокага сховам.*

*— Тады ад шматслоўя*
*зямнога сыходзь*
*да праўды адзінага Слова.*

***

***Памяці паэта***
***Юры Гуменюка***

*Ніхто не паспеў заўважыць,*
*як*
*ты*
*выпырхнуў*
*з цвердзі зямной*
*у беласнежнае*
*сюррэалістычнае воблака,*
*апроч дэкадэнта-анёла,*
*які быў заняты мыццём посуду,*
*і не ўбярог,*
*а Бог не паспеў*
*(Гасподзь чамусьці*
*заўсёды не паспявае*
*за ўчынкамі тых,*
*каго Сам адарыў*
*доляй*
*Слова свайго)…*

*І пакуль ты ляцеў,*
*каханне рыдала ў табе*
*нераспазнаным голасам,*
*і ты паспеў пражыць*
*яшчэ адно жыццё, —*
*самае кароткае*
*і змястоўнае,*
*як слова*
*ма-ма…*

*Юры,*
*куды ты ляціш,*
*быццам распрасцёрты дэндзі*
*з карціны Марка Шагала*
*матыльком чорнакрылым,*
*пакуль я пішу свае словы*
*на лёсе тваім мадэрновым,*
*як першакласнік крэйдай*
*перад настаўнікам,*
*які ведае ўсё…*

*а сам аступіцца баюся*
*на коўзкай сцежцы*
*зімы айчыннай…*

***

*Я кніжку вершаў напісаў,*
*бы сам сябе абавязаў*
*увечніць тое, што сказаў…*

*Трапечуць кніжныя старонкі,*
*а дух ніяк не выйдзе вонкі*
*з-пад папяровай абалонкі…*

*Сяджу над ёй, як здань, няўцямны,*
*і быццам малітоўнік храмны,*
*чытаю ўласныя літанні…*

*Аднак няма там узвышэнняў,*
*наіву й грэшных узрушэнняў —*
*пачаткі ўсе без завяршэнняў…*

*Я ў кніжцы той, нібы ў труне,*
*і стылы дух жыцця з мяне*
*да вас імкнецца, але не…*

***

*Не жадаю прыжыццёвай славы,*
*да якое лезуць напралом.*
*Слава вулканіруе, як лава,*
*а пасля абрушваецца тлом.*

*Я хачу глухой, пакутнай славы,*
*непрадбачанай, як наша*
*смерць, —*
*той, што паўстае з халоднай*
*лавы,*
*каб жывых спаборнікаў не мецЬ.*

***

*Якое ж дробязнае ты,*
*маё жыццё! —*
*усё змясцілася*
*ў кароткай памяці…*

***

*Не рыдаю,*
*не каюся,*
*старанюся*
*ўсяго —*
*крок за крокам*
*вяртаюся*
*да нябыту*
*свайго…*

### Напрыканцы

*Калі сапсуецца кампутар —*
*буду пісаць асадкай,*
*высахне атрамант —*
*напішу крэйдай,*
*скрышыцца крэйда —*
*пісацьму вуглём,*
*скончыцца вугаль —*
*накрэслю крывёю,*
*застыне кроў, —*
*адлятаючы,*
*духам сваім напішу*
*на чыстым аркушы неба*
*не ведаю што…*

РАЗДЗЕЛЫ РАМАНА

# ГРЭХ

## Ад аўтара

У маёй роднай вёсцы сталі часта паміраць людзі. Што ні тыдзень, то пахаванне. Я звярнуўся да старадарожскага настаяцеля Свята-Мікалаеўскай царквы айца Ігара, каб ён патлумачыў, чаму так адбываецца. Святар з'ездзіў у Жыровіцкі манастыр, і там яму параілі: у вёсцы трэба пабудаваць хаця б капліцу.

«Ну што капліца? — падумаў я. — Калі ўжо будаваць, дык адразу царкву». Тым болей што грошай у мяне тады ставала.

Пабудаваную царкву я хацеў назваць імем святой Надзеі, бо так звалі маю маці. Айцец Ігар сказаў, што ёсць святыя Вера, Надзея, Любоў і маці іх Сафія. Іх немагчыма аддзяліць адна ад аднае. Царква была названая ў гонар гэтых святых пакутніц.

І тут я злавіў сябе на думцы, што пра Веру, Надзею, Любоў і маці іх Сафію нічога не ведаю. Закарцела зазірнуць у гісторыю і напісаць пра іх хоць невялікае апавяданне — каб і землякі ведалі, якім святым яны будуць маліцца. Пачаў збіраць матэрыял і паступова зразумеў, што абысціся адным толькі апавяданнем не ўдасца.

Юныя пакутніцы былі закатаваныя і забітыя па загадзе рымскага імператара Адрыяна (кіраваў імперыяй з 117 па 138 г. н. э.) напрыканцы ягонага жыцця. Натуральна, мне хацелася дакапацца, чаму ён пайшоў на такое злачынства. І чым болей я вывучаў біяграфію Адрыяна, тым болей узнікала пытанняў. Рэч у тым, што ён быў ледзь не самым справядлівым, самым лаяльным да іншаверцаў, самым міралюбным за ўвесь час існавання Рымскай імперыі. І раптам у апошнія гады перад смерцю Адрыян пачынае жорсткі пераслед усіх, хто не прызнае рымскіх багоў. Асаблівая нянавісць — да хрысціянаў. Чаму?

У 132–135 гг. н. э. Рымскую правінцыю Іудзея ахапіла адно з самых магутных паўстанняў, якое скалыхнула ўсю імперыю, паставіла пад пагрозу яе існаванне. Паўстанне было жорстка задушана. Менавіта пасля тых падзей яўрэяў пазбавілі надзеі на аднаўленне храма Саламона, яны страцілі сваю тэрыторыю і змушаны былі рассяліцца па ўсёй зямлі. Імператар Адрыян узненавідзеў і яўрэяў, і іхнюю веру. Ён быў вельмі адукаваным, вельмі дасведчаным чалавекам і, безумоўна, ведаў, што паміж іудзеямі і хрысціянамі вялікая розніца. Аднак жа ён ведаў і тое, што хрысціянства вырасла з іудаізму (гісторыкі так і называюць самую раннюю плынь — іудзеяхрысціянства), адтуль ягоныя вытокі, нават Стары запавет і для тых, і для другіх — адзін і той жа. Таму Адрыян узненавідзеў не толькі іудаізм, але і ягоны парастак — хрысціянства. Бо хто ведае, што вырасце на гэтым дрэве...

Вось чаму, каб растлумачыць жорсткасць Адрыяна да хрысціянаў, да Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі, мне давялося паглыбіцца ў гісторыю іудзейскага паўстання. Вось чаму менавіта яму прысвечаная першая кніга рамана «Грэх». Вызначальнае і тое, што спачатку ворагам хрысціянства была не толькі Рымская імперыя. Яшчэ больш бязлітасна ставіліся да хрысціянаў суплеменнікі-іудзеі: забівалі, гвалцілі, праклінальі. Яны бачылі ў хрысціянах не толькі ворагаў, але і (што галоўнае) адшчапенцаў, здраднікаў, якія адракліся ад самага святога — іхняга Бога…

**Алесь УСЕНЯ**

## Пасланец ад Бога

Змрочны пакой роўненька разразала палоска святла, што прабівалася праз вузенькае прадаўгаватае акенца ў мураванай і злёгку парэпанай сцяне. Яна, гэтая палоска, выхоплівала з цемры краёчак стала, на якім сіратліва туліліся адзін да аднаго гліняныя збан і кубак, а потым перакідвалася на драўляныя дзверы.

Па келлі бязгучна, нібы цень, соўгалася прыгорбленая чалавечая постаць. Ейныя рухі былі такія запаволеныя і зграбныя, што, здавалася, постаць не шпацыруе, а плавае ад сцяны да сцяны. Палоска святла, калі яе перасякала постаць, праецыравала на дзверы абрысы доўгага, да падлогі, балахона і галавы старога чалавека са звіслымі на плечы космамі і барадой ледзь не да жывата.

Якісь дакучлівы клопат ці нэндзу, шпацыруючы, выношваў гэты стары і нешта няўцямнанезадаволена буркнуў, калі ў ягоныя развагі нахабна ўварваўся лёгкі стук у дзверы. Нават не стук — па той бок нехта ціха шкрабаў, каб няўзнак не спудзіць важлівыя думкі гаспадара.

— Чаго табе, Пінхас? — выхрыпеў з грудзей стары, тым самым дазволіўшы ўвайсці ў келлю клышаногаму дзецюку з дзідаю ў правай руцэ — па ўсім бачна, ахоўніку.

— Рáбі, тут да цябе ірвецца адзін незнаёмец...

Гаспадар перапыніў ахоўніка:

— Я прасіў нікога да мяне не пускаць. Ці ты, Пінхас, не зразумеў?

— Прабач, рабі, але гэты чалавек... ну... нейкі не такі... Плявузгае абы-што. Кажа, што ён — вястун ад Бога...

— Значыць, Месія? — стары дазволіў сабе скрывіць вусны ва ўсмешцы. — Шчэ адзін атожылак роду Давыдава? Каторы па ліку? Гані яго, Пінхас, як далей.

— Так, прайдзісвет, — жвава, зрэшты, як і зазвычай, пагадзіўся ахоўнік. — Праўда, здаровы, як бугай. Мы такі добра ўпрэлі, яго лагодзячы.

— Вы пыталіся, што яму трэба?

— Ён хоча бачыць цябе, рабі. Хоча, каб ты яго выслухаў.

Стары абыякава махнуў рукою:

— Прэч яго.

З напругай павярнуўся — ажно скрыгатнулі косці ў суставах — і паплыў да свайго ложка.

— А ўрэшце, — на паўдарозе стары раптам схамянуўся, нібы штосьці прыгадаў, — можна і паслухаць. Вядзі.

Ахоўнік высунуў галаву за дзверы і зычна галёкнуў:

— Тамір, давай яго сюды!

Неўзабаве чацвёра ахоўнікаў уштурхнулі-ўвалаклі ў келлю мажнае цела і знарок паставілі яго акурат на тую самую палоску святла.

— Вось ён, рабі.

Незнаёмец быў гонкі і гожы. З-пад зношанай і месцамі абдзёрта-залатанай апраткі вытыркаліся мускулістыя бугры. Аднак жа найболей адметным быў ягоны твар. А дакладней сказаць — барвовы шнар, што распаласаваў гэты твар ад левае скроні — па ўсёй шчацэ — ледзь не да шыі. Гэтакі след мог пакінуць толькі меч. Са шнара ці не сачыліся крапелькі крыві.

На руках незнаёмца ўсё яшчэ віселі ахоўнікі — крый Божа, наробіць шкоды рабі, — аднак жа бачылася, што калі дужа захоча ён стрэсці з сябе гэтае ашмёцце, паляцяць блазнюкі на падлогу пераспелымі жалудамі.

— Адпусціце яго, — пачуўся з цемры ціхі і адначасна ўладарны голас старога.

Ахоўнікі адступілі назад, гатовыя ў любы момант ганчакамі накінуцца і загрызці сваю ахвяру. Прыжмуранымі глыбокімі вачыма, што ўжо трохі прызвычаіліся да змроку, незнаёмец свідраваў цемрадзь. Нарэшце ягоны позірк спатыкнуўся аб ледзь прыкметную постаць.

— Рабі Акіба, гэта ты? — голас незнаёмца быў падобны на гул перуна.

— Хто ты такі і чаму шукаеш мяне?

— Я — Сімон Бар Козіба[1].

— Сын Козібы? Дзіўна... Слухаю цябе.

Сімон нерашуча пераступіў з нагі на нагу — на глінянай падлозе засталіся крывавыя адбіткі пальцаў, відаць, шлях ягоны быў няблізкі і камяністы — і пачаў распавядаць:

— Я прыйшоў сюды як пасланец ад Бога. І не думайце, што я вар'ят ці самазванец. Калі б я па праўдзе быў гэтакім, то не шукаў бы сустрэчы з табою, рабі. Самазванцы, наадварот, баяцца цябе, як агню, бо ведаюць: аднаго твайго позірку досыць, каб назнайніцу вывернуць іхняе хлуслівае нутро. А я — вось, перад табою. І гатовы пайсці на любы іспыт. Бог паслаў мяне дзеля збавення роднай Іудзеі ад рымскага прыгнёту, я прыйшоў даць волю ўсім насельнікам Палясціны...

— Годзе! — перабіў Акіба. — Іудзеі патрэбны не Месіі. Іудзеі патрэбны ваяры. Рымляне не разумеюць слоў. Да іх даходзіць толькі адна мова — мова зброі. Зрэшты, гэта напісана і на тваім твары... Ці, можа, такі знак ты адхапіў у вулічным духане?

На ілбе Сімона выступілі крапелькі поту, а пісаг ад напругі зрабіўся цёмна-фіялетавым.

— Рабі, калі б такое сказаў хтосьці іншы, я перагрыз бы яму глотку. Не крыўдзі мяне, рабі. Рымлянін, які нанёс гэты ўдар, пэўна, не лічыць мяне за жывога... Калі да нашага мястэчка дакацілася вестка, што Іудзея зноў палыхнула паўстаннем, я за лічаныя дні сабраў тры сотні ваяроў. У нас было мала зброі, дый тую многія ці не ўпершыню трымалі ў руках. Аднак жа неяк ноччу мы спадобіліся напасці на рымскі гарнізон. Мы разлічвалі неспадзеўкі перарэзаць іх ледзь не ў ложках. Разлічвалі... А не прадбачылі галоўнага: вывучкі рымскіх ваяроў. Іх было меней, значна меней, чым нас. І ўсё ж яны перамаглі. Легіянеры, што стаялі на варце, паспелі падаць знак астатнім. І праз нейкія імгненні супраць нас ашчацінілася дзідамі жывая сцяна рымлянаў. Я ні ў чым не магу папракнуць сваіх сяброў, яны змагаліся, як маглі. Яны засланяліся далонямі ад мячоў, бо не было ніводнага шчыта, яны кідалі свае целы на дзіды, каб пракласці шлях іншым. Сутычка была кароткай. Нам удалося прыдушыць ці прыкалоць з дзясятак рымлянаў, аднак ніводзін іудзей не выйшаў жывым з таго пабоішча. І мне прыкра, што я ацалеў. Але, відаць, на ўсё воля Божая... Я ачуняў, калі схлынула цемра. З мястэчка даляталі стогны і крыкі: рымляне пакінулі гарнізон і чынілі расправу над жыхарамі за нашую вылазку. Я выбраўся з груды целаў маіх забітых сяброў і ўжо дакладна ведаў, куды трымаць кірунак... Сюды, у Бетар, дзе мудры рабі Акіба збірае з усяе Палясціны, з усяе зямлі незлічонае іудзейскае войска, каб скінуць, нарэшце, рымскае ярмо з шыі майго народа. Ты спытаешся, рабі, чаму я лічу сябе прыхадцам ад Бога ці, як ты кажаш, Месіяй? Адкажу. Калі, зранены і ледзь не беспрытомны, абкладзены целамі, я абыякава пазіраў у шэрае ранішняе неба, раптам нібы маланка шуганула наўсцяж, раздзіраючы смугу, і з гэтага разрыву на мяне хлынула незвычайнае, велічнае святло-ззянне. І адразу я пачуў моцны, уладарны голас, здавалася, ён запаўняў усю прастору, і немаведама было, ці далятае ён адтуль, з неба, ці вырываецца з мяне самога... «Сімон, — урачыста сказаў гэты голас, — ты, нашчадак Давыдаў, стаў Маім абраннікам, і табе наканавана збавіць сыноў Ізраілевых ад прыгнёту, абвясціць і заснаваць на зямлі царства міру. Зараз ты пойдзеш у Бетар, дзе збіраецца войска іудзейскае, і ўзначаліш яго, і павядзеш свой народ да перамогі...» Неба зноў заслалася шэранню, аднекуль усчаўся гулкі подых ветру, нібы побач пранеслася конніца, а я колькі хвілін усё яшчэ ляжаў нерухома і ніяк не мог усвядоміць, што са мною размаўляў Ён... Паступова цела маё налівалася незразумелаю сілаю, і неўзабаве я конча акрыяў. Я ні ў каго не пытаўся ні шляху, ні сцежкі. Быццам нечая рука прывяла мяне сюды. І вось я перад табою, рабі Акіба...



Стары наблізіўся да Сімона, стаў насупраць — твар у твар, — і па ягоных ручайках-маршчынах хваляю прабегла ледзь прыкметная іранічная ўсмешка.

— Кажаш, голас з неба? А ці не трызніў ты, ці не прымроілася ўсё табе, параненаму і амаль беспрытомнаму?

— Я быў пры сваім розуме, рабі.

— І чаму ж гэта Гасподзь абраў менавіта цябе?

— Не ведаю.

— Дык ты па праўдзе выхадзец з роду Давыдава, сын Козібы?..

— Не ведаю і гэтага.

— Цікава, — Акіба адышоў да стала, абапёрся далянёю аб ягоны краёчак. — А ты, Сімон, сапраўды прайдзісвет. Нямала такіх пабачыў я на сваім вяку. Хочаш славы? Хочаш павагі і пашаны? Але замест гэтага можаш атрымаць дзіду пад рабро...

— Не зневажай мяне, рабі! — з адчаем і крыўдаю мовіў Сімон. — Я не маню! Чым я магу даказаць гэта? Чым? — позірк ягоны пачаў мітусіцца па келлі, нібы сапраўды шукаў нейкія доказы, і раптам застыў на цесаку, што тырчаў за поясам ахоўніка Пінхаса. Ніхто не паспеў і здрыгануцца, як цясак гэты апынуўся ў Сімонавай руцэ. Ахоўнікі здолелі толькі жахнуцца — не за сябе, за Акібу, — а сам Акіба нават брывом не варухнуў, не спускаючы з твару тую ж усмешку і выказваючы пагарду да небяспекі.

Аднак Сімон зрабіў зусім не тое, што ад яго чакалі. Ён не кінуўся ні на Акібу, ні на ахоўнікаў. Ён узмахнуў цесаком і сёкануў па мезенцы левае рукі — адцятак пакаціўся акурат пад ногі Акібы.

— Я не маню, рабі! Я не ашуканец! — у адчаі Сімон узбіўся ледзь не на крык.

Са знявечанай рукі на падлогу вішнямі ападалі буйныя кроплі крыві, а Сімон па-ранейшаму ўчэпіста сціскаў цясак і ліхаманкава зыркаў, нібы шукаючы, што яшчэ на сабе адцяпаць, каб давесці сваю праўду.

Акібу, падобна, гэтае дзейства аніяк не праняло, быццам самаэкзекуцыю яму даводзілася назіраць штодня. Ён гідліва

[1] У літаральным перакладзе — «сын хлусні», «сын ашуканца».

пхнуў нагою адцятак-мезенец і абыякава мовіў:

— Гэта — не доказ. Пазбаўляцца кавалкаў цела дазвольна хіба што ў баях з рымлянамі. Па ўсім бачна, у цябе гэта атрымалася няблага, — Акіба зноў напусціў на твар кплівасці. — А ўвогуле ты можаш стаць вартым ваяром. Нам такія патрэбны. Пінхас, адвядзі яго ў які-небудзь атрад. І гэта… дайце яму якую анучу, каб перавязаць руку.

— Слухаю, рабі!

Пінхас выкалупіў цясак з рукі разгубленага Сімона і падштурхнуў яго ў плячо:

— Пайшлі.

Сімон паслухмяна паклыпаў да дзвярэй. На парозе азірнуўся і ўжо без крыўды, ціха і цвёрда мовіў:

— Я не маню, рабі!

<…>

## Няўдалыя перамовы

Рабі Рашбі і епіскап Іуда, апынуўшыся ў пакоі сам-насам, хвіліну-другую стаялі моўчкі, адводзячы адзін ад аднаго позіркі. Ім цяжка было пачаць размову, бо, як ні круці, а яны ўсё ж ворагі, хай сабе не па-чалавечы, а па стаўленні да Бога. Зрэшты, гэта для іх, святароў, было яшчэ болей значна, бо складала сэнс жыцця.

Нарэшце Іуда жэстам запрасіў госця прысесці да стала, а сам прайшоў у глыбіню пакоя, прытуліўся спіною да сцяны і ўжо цяпер кінуў пільны позірк на Рашбі, нібы задаючы маўклівае пытанне: «Ну, чаго ж ты да мяне завітаў? Што змусіла іудзейскага верхаводу звярнуцца да «напамаджанага», як вы, іудзеі, называеце нас, хрысціян?»

Рашбі і праўда прысеў, бо добра-такі здарожыўся, дый размова, як меркаваў, будзе доўгаю і няпростаю.

— Нам, яўрэям, цяпер жывецца вельмі цяжка, — нарэшце вымавіў Рашбі, робячы акцэнт на гэтае «нам, яўрэям», каб засведчыць: хоць у хрысціян і іудзеяў няма духоўнае еднасці, але застаецца еднасць па крыві. — І ў такі складаны час усім нам, хоць часова, трэба шукаць нейкае паразуменне, каб адужаць агульнага ворага…

Хто гэты агульны вораг, тлумачыць не было патрэбы, аднак Іуда нечакана заўважыў:

— Каго ты маеш на ўвазе, рабі? У нас, хрысціянаў, тут, у Ерусаліме, прынамсі, ворагаў нямашака…

Рашбі рэзка ўскінуў галаву:

— А што, рымскія акупанты для вас ужо не ворагі? Тое, што яны топчуць нашую зямлю, здзекуюцца з народа — гэта для вас усё адно?

— Не ўсё адно. Але Рым і ягоны кесар — гэта ўлада. А мы лічым, што няма ўлады не ад Бога…

Па твары Рашбі прабегла з'едлівая ўсмешка, і ён іранічна мовіў:

— Калі так разважаць, дык ваш Хрыстос спусціўся на зямлю толькі дзеля таго, каб забяспечыць уладарам іхнія кароны…

— Гэта не так. Калі ўладары не прытрымліваюцца запаведзяў, дык іхняя ўлада незаконная, бо яны не жадаюць пакарыцца Богу, а хто не пакарыўся Богу, той служыць д'яблу.

Абодвум стала зразумела, што цяжкае тэмы, якая стрэмкаю сядзіць у целе аднаго народа, не мінаваць.

Аднак Рашбі не хацелася паглыбляцца ў тэарэтычную спрэчку, бо яна магла перарасці ў звыклую грызню, якая не дасць ніякага плёну і конча пахавае надзею на аб'яднанне, хай сабе і часовае. Ён зірнуў у вочы Іуды і прымірэнча выдыхнуў:

— Не будзем пра гэта… Ёсць больш важкая нагода для нашае размовы. Я маю на ўвазе прыход Месіі…

— А як жа! Чуў, чуў, — тут ужо ўсмешка з'явілася на твары Іуды. Сімон Бар Козіба, доўгачаканы збавіцель яўрэйскага народа!

— Мне незразумелая твая іронія, — з непрыхаванай раздражнёнасцю працягваў Рашбі. — Гэта сапраўды Месія, якога наш народ чакаў вякамі. Бог, нарэшце, прыслаў Яго, пачуўшы нашыя малітвы. Колькі разоў яўрэі браліся за зброю, каб адолець чужынцаў! І ўсе паўстанні захлыналіся ў крыві. «Ну і дзе ж ваш Бог?» — кпілі нашыя нядобразычліўцы. І праўда, Бог не спрыяў нам. Не спрыяў да гэтага часу. Але ўрэшце злітаваўся. І цяпер мы ўпэўнена можам сказаць: «Вось яна, Божая ласка. Бог прыслаў Месію. А значыць, гэтым разам мы пераможам!». Дык адкажы мне, Іуда: няўжо яўрэі, якой бы веры яны ні былі, страцяць гэты шанец?

— А мы яго ўжо страцілі, — не выдаючы ніякай узрушанасці, адказаў Іуда. — Сапраўдны Месія ўжо прыходзіў.

— Ты, вядома ж, маеш на ўвазе вашага Хрыста…

— А каго ж яшчэ? Толькі Ён і ёсць Месія. Аднак мы, яўрэі, замест таго, каб прыслухацца да Ягоных пропаведзяў, пайсці па ўказанай Ім дарозе, распнулі Яго…

— Ну, скажам, кончы вырак вынес не сінедрыён, а пракуратар Понцій Пілат…

— А хто на яго націскаў? Хто гэтак апантана патрабаваў Ягонае пакутнае смерці? Вашыя першасвятары, фарысеі.

— Згадкі пра добранькага пракуратара і крыважэрных яўрэяў — як віламі па вадзе. Дагэтуль ідуць пагалоскі, што Понцій Пілат быў бязлітасным і жорсткім. Вашыя Евангеллі я вывучыў вельмі ўважліва. Там жа ледзь не цераз слова бязглуздзіца, а то і мана. Вось, скажам, згадка пра суд у Ерусаліме. Ды ніякай прэторыі, у двор якой быццам бы прывялі Хрыста для допыту, у Святым горадзе не магло быць, бо рэзідэнцыя Понція Пілата месцілася ў Кесарыі, на ўзбярэжжы мора. І чаго б гэта яму напярэдадні Пэйсаху спадобілася прыехаць у Ерусалім? Ці яшчэ: каб адмежавацца ад выраку над Хрыстом, Пілат, які заўсёды пагарджаў намі, яўрэямі, раптам мые рукі. Ды гэта ж наш, чыста іудзейскі звычай! А як згадваецца пра сам суд? Быццам бы ён адбыўся ў доме першасвятара ды яшчэ ноччу. Ты ж сам выдатна ведаеш, што сінедрыёну катэгарычна забаронена выносіць выракі напярэдадні ці ў час святаў, тым болей Пэйсаху. Зрэшты, не будзем шукаць пылінку ў чужым воку… Вы лічыце, што менавіта вышэйшыя рабіны наканавалі смерць Хрысту. Лічыце — і няхай… Але ж першасвятары — гэта не ўвесь народ. Чаму ж у смерці свайго бога-чалавека вы, хрысціяне, паппракаеце ўсіх яўрэяў агулам?

— Таму што вырак выносіўся з маўклівае згоды шараговых іудзеяў. Вось скажы мне: хіба вы не папракалі нас за адступніцтва, не падвяргалі сапраўднаму пераследу? Хіба вы не забівалі каменнем жанчын-хрысціянак? Усё гэта было і ёсць… І таму кожны іудзей, калі б яму выпала такая магчымасць, з асалодаю паслаў бы Хрыста на крыж…

Рашбі не запярэчыў. Зноў усталявалася зацятае маўчанне. Нарэшце Рашбі без асаблівай надзеі ў голасе запытаўся:

— Дык, значыць, ты не лічыш Сімона Бар Кохбу Месіяй?

— Ён проста самазванец… Хрыстос папярэджваў, што пасля Яго з'явіцца шмат ілжэ-прарокаў, якія будуць упадабляцца Месіі і спрабаваць весці рэй ад імя Бога. Але не верце ім, казаў Хрыстос…

— А можа, ваш Хрыстос акурат і быў лжэ-Месіяй? — раздражнёна перабіў епіскапа Рашбі. — Ды і ці быў ён увогуле? Сто гадоў мінула з тае пары. Хто сёння можа пацвердзіць ягонае існаванне? Хто ўвачавідкі назіраў ягонае ўваскрашэнне? Магчыма, гэта проста легенда, міф — не болей.

Нягледзячы на цяжкую абразу, Іуда захаваў спакой і нават не павысіў голасу:

— Легенда, кажаш? А чаму ж тады пра Хрыста напісаў Іосіф Флавій? Ён жа летапісец ваш, іудзейскі. А хіба ў Талмудзе не згадваецца імя Іісуса?

— Ды там многа Іісусаў згадваецца! — не здаваўся Рашбі. — Быў Іісус Ганоцры-Назарэй, які пакланяўся чарапіцы, быў Іісус бэн-Стада, варажбіт, які «вывез магію з Егіпта», быў і Іісус бэн-Пандыра — байструк, якога легкадумная гулёна прыдбала ад рымскага легіянера… Дык які з гэтых Іісусаў ваш?

— Тваё блюзнерства зусім не да месца, — не страціў раўнавагу Іуда. — Ты выдатна ведаеш, што Хрыстос — не міф, не легенда. Яшчэ жывыя вучні апосталаў, якія бачылі Госпада на свае вочы і слухалі Ягоныя пропаведзі. А тое, што вы, іудзеі, чапляецеся за дробязі, «хапаеце за язык», каб збагніць іншаверцаў, дык гэта ўсім вядома. Такая ўжо вашая існасць… А ў сваім «балоце» гэтых дробязяў чамусьці не заўважаеце. Ну вось, напрыклад, вы лічыце, што Бог — адзін. Ці не так? А ў Быцці Бог кажа: «Створым чалавека па вобразу нашаму…». Калі Бог дыктаваў Пяцікніжжа Маісею і дайшоў да гэтых слоў, Маісей, як ты ведаеш, здзівіўся і адмовіўся запісваць. Маўляў, ты ж, Бог, адзіны ў сваёй існасці, а тут гэтае «створым». Людзі зняверацца. Што адказаў Усявышні? «Няхай хто хоча памыліцца, памыляецца». Дык вось і я, трохі перайначваючы, адкажу на тваё блюзнерства словамі Бога: не верыш у існаванне Хрыста — дык гэта твая бяда…

Як ні хацелася Рашбі пазбегнуць слоўнага спабору на тэму веры, аднак жа, бач, не ўдалося. І ён дакараў сябе за гэта, бо можа стацца, што іхняя сустрэча ніякага жаданага плёну не прынясе, толькі і атрымаецца, што наплююць адзін аднаму ў душу. Але ж не для гэтага ён, Рашбі, выправіўся ў Ерусалім. Паспрачацца, «пагрызціся» можна будзе і потым, калі ў Ерусаліме не застанецца рымскае набрыдзі. Тады, магчыма, увогуле не будзе патрэбы весці нейкія дыскусіі з хрысціянамі, з гэтымі запраданцамі. Да пазногця іх — і капец…

Але ж цяпер, каб дагадзіць епіскапу, трэба, мусіць, трохі адступіць, скіраваць размову ў злагаднае рэчышча.

— Ты, Іуда, не злуй на мае кепікі наконт Хрыста, — прымірэнча мовіў Рашбі. — Я ж толькі выказаў тое, пра што гамоняць некаторыя сумніўцы, фарысеі, напрыклад. А мы, прававерныя іудзеі, існаванне Хрыста пад сумнеў не ставім. Вось толькі…

— Што толькі? — Іуда, які да гэтага часу трымаўся непарушна, нечакана ўзмыліўся. — У вас вечна гэтыя «але», «аднак», «толькі»… Няма ніводнае ісціны, ніводнае думкі, якую б вы ўспрынялі цалкам і без скажэння. Заўсёды знойдзеце якую-небудзь зачэпку, дробязь, каб зганьбіць, зняславіць, а затым перайначыць на свой капыл…

— Ты ж не даслухаў, Іуда... Мы таксама згодныя лічыць вашага Іісуса сынам Божым. Але ён — не роўны Богу. А роўны каму? Ну, скажам, нашаму Маісею. Што ж датычыць ахвяры Хрыстовай, якую вы падаеце як збавенне ад чалавечых грахоў, дык, бадай, гэта перабольшана… — Рашбі стараўся падбіраць словы, якія б не раз'ятрылі Іуду, і ў той жа час не хацеў саступаць у галоўным. — Мы прызнаём ахвяру Хрыстову. Але толькі як асабісты подзвіг — не болей.

— Ну і заставайцеся пры сваёй думцы, — абыякава сказаў епіскап. — Вы, іудзеі, заўсёды аддзялялі людзей ад Бога. Нават Месія вам сёння патрэбен не дзеля таго, каб выратаваць свае душы, а каб ён падсабіў вам вырашыць зямныя праблемы. Напрыклад, як цар Давыд. І ўвогуле: вы лічыце, што Месію Бог пашле толькі для яўрэйскага народа…

— А то як жа! Вунь нават ваш Хрыстос, калі аб'явіўся, выказаўся адпаведна: «Я пасланы толькі да блудных авечак дома Ізраілева», — Рашбі ў чарговы раз выявіў свой досвед у хрысціянскіх догмах.

— А гэта якраз яшчэ адзін прыклад таго, што ва ўсім вы спрабуеце атрымаць карысць для сябе — і толькі. Так, Іісус найперш прыйшоў да «авечак Ізраілевых». Але не дзеля таго, каб стварыць для іх рай на зямлі, а дзеля таго, каб мы, яўрэі, панеслі Слова Божае па ўсім свеце, да кожнага эліна, як спрадвек называюць язычнікаў. Не вылучаў Іісус ні народаў, ні асобных людзей. «Вось маці мая і браты мае. Бо хто выканае волю Бацькі майго, які на нябёсах, той брат мой, і сястра, і маці мне», — гэтак ён звярнуўся да сваіх вучняў. І не трэба выварочваць словы Іісуса назнайніцу.

Рашбі вырашыў, што працягваць размову няма сэнсу: епіскап упарта стаяцьме на сваім, пераканаць яго немагчыма, а значыць, узгодненых дзеянняў не атрымаецца. Ён з цяжкасцю падняў сваё цела з-за стала і моўчкі пасунуўся да дзвярэй. Ужо на парозе, нібы адумаўшыся, на ўсялякі выпадак запытаўся:

— Дык што, Іуда, ніякай помачы ад вас не будзе?

— А якую помач вы хацелі б мець? — у адказ запытаўся епіскап.

— Мы хацелі б, каб тут, у Ерусаліме, у належны час твае людзі выступілі супраць рымлян. Узгоднена з нашымі дзеяннямі…

— А вось гэта ні ў якім разе, — цвёрда мовіў Іуда. — У імя каго змагацца? У імя вашага самазванца, якога вы, мусібыць, самі ж і прыдумалі? Не дачакаецеся.

— Ну-ну… — злавесна выціснуў скрозь зубы іудзейскі святар, зыркнуў з-пад ілба і падаўся на вуліцу…



**Цалкам раман «Грэх» можна прачытаць у бліжэйшых нумарах часопіса «Дзеяслоў».**

ВЕРШЫ

# ЖЫЦЬ-ЛЮБІЦЬ...

Алесь МАСАРЭНКА

**12 красавіка пісьменнік, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь МАСАРЭНКА адзначыў свой 75 гадовы юбілей. Шчыра жадаем Алесю Герасімавічу і надалей «жыць-любіць» — у здароўі, радасці і рыфмах.**

## Дзве душы

*Адзінота — лайдакоў прыдумка,*
*бо душа не прызнае пакут.*
*Плодна нерастуе тая думка,*
*ад якой шырэе віракрут.*

*Сам-насам... Ці ж гэта адзінота,*
*калі б'е крыніцай пачуццё*
*і душу ўскалыхвае пяшчота,*
*яваю здаецца небыццё.*

*Мімаволі сцёрты код шукаеш*
*у спадзеве памяць аднавіць...*
*Верыш, спадзяешся і чакаеш*
*долю, па якой душа баліць.*

*Мо і праўда некалі ў суполе —*
*неразлучным звёнку-спарышы,*
*у адным біялагічным полі*
*месціліся райскіх дзве душы.*

*Ім жылося весела і крута —*
*хвалявацца не было прычын...*
*Сёння бездухоўнага манкурта*
*не ратуе і гарэм жанчын.*

* * *

*Як людзі, натоўпам,*
*дрэвы стаяць.*
*Над імі галопам*
*ветры ляцяць.*

*Наезнікі ў сёдлах,*
*клінкі нагала!..*
*Гісторыя шчодрай*
*на войны была.*

*Усё яшчэ ў лёце*
*шалёным страла.*
*У дум завароце*
*вояк галава.*

* * *

*Пагода, што і жанчына,*
*мае свае перамены.*
*Дождж — і сум аблачынай*
*сцякае цурком у вены.*

*Сонца — і соладзі рэшткі*
*з вуснаў каханай знікаюць.*
*Снег — і бровы, як стрэшкі,*
*холад вачэй хаваюць.*

*Адліга — украдмя слёзы*
*шукаюць на шчоках прытулак...*
*Вецер — адчай, пагрозы*
*й душа навырунак.*

* * *

*Нам суседзі ні ў чым не спрыялі...*
*До!.. Сышоў у нябыт скрухі час.*
*Мы палякамі так і не сталі,*
*і расейцаў не выкуюць з нас.*

*Як бы хто і з якое трыбуны*
*два народы ў адзін ні злучаў,*
*не прынялі мы глумнай камуны,*
*хоць яе шугавей і не ўчах.*



*Люд гвалтоўна парцейцы сагналі*
*ў паслухмяны савецкі натоўп,*
*а як страху загоны зламалі —*
*на яднанне спадобіўся поп.*

*Камуністаў змянілі царкоўнікі —*
*двоеўладдзе было і ёсць.*
*Ставяць свечкі ў храме чыноўнікі,*
*ладзіць шоу сінода госць.*

*Ён таксама ўсё тое ж плявузгае —*
*заклікае ў адзінстве жыць,*
*але мова была — каб руская*
*і Расеі аддана служыць.*

*У далоні прыязна плёскае*
*скасабочаны наш бамонд...*
*Меч Дамоклаў павіс над вёскамі,*
*дзе жыве беларускі народ.*

* * *

*Праўда гулагаў —*
*цяжэй за нямецкі фашызм.*
*Яе перавага —*
*крывавы патрыятызм.*

*Сталіна воі —*
*народаў скароных сыны.*
*Верныя зброі,*
*болю і крыўды — чыны.*

*Ім — абы толькі*
*саміх не пусцілі ў расход.*
*...Уласнае болькі*
*баяўся зляканы народ.*

## Адліга

*Плачуць стрэхі — адліга*
*правакуе на слёзы.*
*З дахаў снежная каша*
*шархотка паўзе.*
*Гэтым годам няпраўду*
*казалі прагнозы:*
*каб зманіць — не патрэбна*
*стаяць у чарзе.*

*Выйшаў з хаты стары —*
*уздыхае працяжна.*
*Перамены надвор'я —*
*настрою падрыў.*
*Ён уцяміў адно —*
*для яго гэта важна:*
*як бы там ні было —*
*сваім розумам жыў.*

*Не адрокся ад мовы,*
*у прочкі не з'ехаў —*
*каранямі, як дуб,*
*у зямны шар урос.*
*Па-ранейшаму гоніць —*
*замашна, з уцехай —*
*сваёй жыткі нялёгкай*
*шырокі пракос.*

*Як і маці, Айчыне*
*ніколі не здрадзіць.*
*Быў і будзе ёй сынам*
*і верным слугой.*
*А калі паміраць*
*яму раптам завадзіць —*
*сыйдзе ў свет небыцця*
*сакавітай вясной.*

*Нечаканая думка*
*знічкай падае долкі.*
*Смерці чорнай крыло*
*паліць сонца прамень.*
*«Жыць-любіць!» —*
*па-над жытам*
*пяе перапёлка.*
*Усміхаецца вабнай*
*усмешкаю дзень.*

САТЫРЫКОН

# СВАЯ ДУМКА

Міхась МІРАНОВІЧ

**Міхась МІРАНОВІЧ нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Старына на Ушаччыне. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Віцебску.**

**Шчыра віншуем нашага аўтара з 65-годдзем і жадаем яму і надалей «мецъ сваю думку» ды быць «здорава багатым»!**

## Суседзі і сабакі

*Павялося*
*Так спрадвеку,*
*Што адзін*
*Другога тоўк.*
*Цюцька —*
*Сябра чалавеку,*
*А сусед суседу —*
*Воўк.*

## Няма непрыгожых жанчын

*Сказаў неяк*
*Хтосьці з мужчын:*
*— Няма*
*Непрыгожых жанчын! —*
*І ён, сапраўды,*
*Меў рэзон —*
*Бо звалі яго*
*Рабінзон!..*

## Каб грошай хапала…

*Не прыпыняе*
*Думка церабіць,*



*Што маецца на свеце*
*Грошай мала.*
*Няўжо іх нельга*
*Столькі нарабіць,*
*Каб на усіх і кожнага*
*Хапала?..*

## Без кабеты

*Бывае*
*Тысяча прычын,*
*Каб ўзяць і плюнуць*
*На жанчын!..*
*А паспрабуеш*
*Без кабеты —*
*Дык варыянты —*
*Горш за гэты!..*

## Свая думка

*Папрокаў вашых*
*Не прымаю,*
*Што ўласнай думкі*
*Я не маю.*
*Ёсць думка*
*І ў мяне свая,*
*Хоць, праўда, з ёй*
*Не згодны я!..*

## Адам і Ева

*— А ці хадзіў*
*Адам налева?*
*— Была з жанчын*
*Адзінай Ева!..*
*— Адам мог Еву*
*Не любіць!..*
*— А што яму*
*Было рабіць?..*

## Здарова багаты

*Жыццё парою*
*Робіцца суровым,*
*І я хачу заўважыць вам,*
*Рабяты:*
*Някепска быць*
*Багатым і здаровым,*
*Ды толькі лепей —*
*Здарова багатым!*

## Жанкі-натхняльніцы

*Жанчыны нас*
*Заўсёды акрыляюць,*
*І нездарма ж*
*Асанну ім пяюць!..*
*Жанкі парой*
*На подзвігі натхняюць,*
*Якія самі ж*
*Здзейсніць не даюць!..*

## Хлапцоў так многа халастых

*Канечне,*
*Сярод хлопцаў тых —*
*Не ўсе Шварцнегеры*
*І Джагеры.*
*Затое —*
*Многа халастых*
*…У піянерскім*
*Лагеры!..*

## Кайф

*Жыў у дзеда кот,*
*Такі рахманы —*
*Ад хваста*
*Да кончыкаў вушэй.*
*Накапаў у лесе*
*Валяр'яну —*
*Зараз ловіць кайф,*
*А не мышэй.*

## П'яныя дзяўчаты

*Я люблю*
*І дзяўчат, і віно —*
*Іх пароўну люблю,*
*Акурат.*
*Каб меў выбраць з іх*
*Штосьці адно —*
*Дык я выбраў бы*
*П'яных дзяўчат.*

## Кузьма і Мікіта

*Аднавяскоўцаў нашых двух*
*Вазьмі —*
*Ні аднаму адмовіць*
*Нельга ў спрыце:*
*Кузьма Мікіту*
*Неяк падкузьміў,*
*А той Кузьму*
*За гэта адмікіціў.*

УГОДКІ

# ШЧАСЛІВАЯ ПОВЯЗЬ З «МАЛАДОСЦЮ»

Генрых ДАЛІДОВІЧ

**...Надзея перайсці на працу ў «Маладосць» заявілася ў 1977-м, калі там пасаду загадчыка аддзела прозы пакінуў Уладзімір Дамашэвіч (ён у чарговы раз на пісьменніцкім сходзе горача выступіў у абарону беларускай мовы, і яго трэба было «асудзіць» за «беспадстаўную крытыку справядліва, паленінску вырашанага ў СССР нацыянальнага пытання»).**



Рэдакцыя «Маладосці» ў адведках у Міколы Аўрамчыка, які працаваў у часопісе 27 гадоў. 1984 г.

Я тады пра нейкую большую пасаду нават і не думаў, хацелася папрацаваць з маладымі і ў больш дэмакратычнай атмасферы, але Генадзь Бураўкін і Алесь Жук — галоўны і намеснік — аддалі перавагу Алесю Масарэнку, дзеля чаго яго адклікалі з партыйнай школы. У 1978-м Бураўкіну даручылі ўзначаліць Дзяржтэлерадыё... «Маладосць» узначаліў Васіль Зуёнак. Намесніка, Жука, запрасілі на працу ў ЦК КПБ. І вось тады Дамашэвіч пачаў сватаць мяне. Зуёнак сабраў агульнарэдакцыйны сход. Мяне не забракавалі; а калі такі выбар адобрыў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Алесь Петрашкевіч, то «пытанне было вырашана».

Я не столькі ўзрадаваўся, колькі хваляваўся: як быць адным з начальнікаў над Міколам Аўрамчыкам, які старэйшы за майго бацьку і ў «Маладосці» з першага ж дня, над тым жа сватам Дамашэвічам (які вярнуўся ў рэдакцыю) ці загадчыкам аддзела крытыкі Сіпаковым? Ды яны сустрэлі прыязна, нідзе не падкрэслівалі сваю жыццёвую і творчую перавагу, неяк міжволі вучылі не ўхіляцца ад складанасцей, выразна праяўляць грамадзянскую пазіцыю і ўмець многае браць на сябе. Асабліва перад цэнзурай...

Вось пра галоўліт. А. Жук падае сваю аповесць «Чорны павой». Дэтэктыў — жанр, на той час яшчэ слаба развіты ў нас. Ды — нам «стоп»: раскрыццё метадаў вядзення вышуку і следства, дайце рэцэнзію з МУС. А хто там лёгка дасць ухвальны водгук? Усе перастрахоўваюцца. Мушу як куратар прозы дамагчыся сустрэчы з міністрам, У. Ягоравым, папрасіць яго прачытаць карэктуру. Атрымалі блаславенне. Смешна?

...Караткевіч. Ужо сам прыход яго ў рэдакцыю — падзея. З ім — заўсёды лавіна розных ведаў, непаўторны спосаб гаворкі і выразы яе. Ад Караткевіча чакалі заканчэння рамана «Каласы пад сярпом тваім». Унікальнага гістарычнага палатна ў нашай прозе. Ды — «Чорны замак Альшанскі». Дэтэктыў, але з якімі захапляльнымі калізіямі, энцыклапедычнымі экскурсамі ў гісторыю і з разняволенай стыхіяй мовы, стылю! Твор уважліва прачыталі Дамашэвіч і Міклашэўскі, зрабілі тактоўныя заўвагі. Мы з Зуёнкам тое-сёе дадалі, ведаючы, што асобныя выразы аніяк не прапусціць галоўліт, а то з-за іх і не прапусціць увесь твор (напрыклад пра тое, што ў Полацку п'яныя Пётр I і Меншыкаў абражалі, а потым шаблямі секлі ў храме уніяцкіх светароў). Заўвагі Уладзімір Сямёнавіч успрымаў вельмі балюча. Пры ўзгадненні правак гром грымеў, сцэны трэсліся ў рэдакцыі. Аўтар у гневе падхопліваўся і сыходзіў: «Нагі маёй больш не будзе ў гэтай... (пропуск ягонага азначэння) «Маладосці». Разважлівы Дамашэвіч супакойваў нас: «Астудзіцца. Вернецца». Вяртаўся. І ўжо спакойна мы падоўгу сядзелі гуртам, шукалі, каб знайсці самы падыходны для яго варыянт, а пасля ўсяк адстойвалі тое ў галоўліце. Пасля публікацыі рамана, які выклікаў цікавасць нават у непрыяцеляў беларускай літаратуры, задаволены аўтар прыходзіў з пакоўным партфелем ці клікаў дахаты...

Маладосцеўская атмасфера зусім не азмрочылася, калі на чале часопіса ў 1982-м стаў Анатоль Грачанікаў. Ён, як і Зуёнак, найбольш удзяляў увагі паэзіі і публіцыстыцы, а мне даручыў курыраваць прозу і крытыку...

Добра ведаючы, што ў той час найперш у «Маладосці» можна надрукаваць гістарычны твор, да мяне звярнуўся вядомы паэт і ўжо заяўлены празаік Леанід Дайнека: прачытай мой раман і спачатку толькі мне выкажы сваю думку. Прачытаў. У гаворцы сам-насам зазначыў яму: ты абраў для расказу вельмі цікавыя, але малавядомыя эпізоды з нашай гісторыі (я ўведаў пра іх ад Міколы Ермаловіча) — барацьбу Полацка і полацкага васала з Кукейноса князя Вячкі на пачатку XIII ст. супраць крыжакоў. Але чаму табе найперш спасылацца на «Хроніку» Генрыха Латвійскага, паслухай і іншага Генрыха: узбуйні паказ таго, што Полацкая зямля была не часткай Кіеўскай Русі, а многія стагоддзі самастойнай дзяржавай. «Дык ты гэта падтрымаеш?» — «Падтрымаю. Будзем націскаць на тое, што палачане і кукейносцы змагаліся супраць навалы з Захаду. Тым больш, што Вячка дзейнічаў у саюзе з Ноўгарадам»...

Леанід узяўся пераглядаць канцэпцыю твора, і трэба адзначыць: ён умее працаваць хутка, шмат і напружана. Праз некалькі месяцаў быў ужо ў многім новы раман «Меч князя Вячкі». Аўтар, як і Караткевіч, не пазбягаў паэтычнай рамантызацыі, але яна была на грунце моцнай дакументальнай асновы. Разам з пазнейшым раманам «След ваўкалака» гэты твор заняў пачэснае месца ў нашай літаратуры.

У аддзеле публіцыстыкі тады працаваў здольны паэт, грунтоўны знаўца розных летапісаў, хронік Алесь Гаўрон, дык вось ён настойліва параіў папрасіць Ермаловіча, каб ён для нас напісаў дакументальнае даследаванне пра полацкую гісторыю хоць бы часоў Рагвалода і Усяслава. Той з ахвотай згадзіўся. Ішла перабудова ўжо, галоўліт крыху прыціх, але асабліва не прыціхлі розныя асочнікі «крамолы», адзін з іх на Ермаловічаву публікацыю раз'юшыўся ў «Звяздзе»: маўляў, у гэтым матэрыяле — антымарксісцкая канцэпцыя ў ацэнцы гісторыі Кіеўскай Русі, вылучэнне нацыяналістычных поглядаў, услаўленне эксплуататарскага класа і г. д., і г. д., з усім наборам таго, што, здаецца, ужо гукнула ды ручкі згарнула. У гэты час Грачанікаў быў на вучобе ў Маскве, дык пачалі цягаць мяне ў аддзелы, на бюро ЦК ЛКСМБ: давай пісьмовае тлумачэнне, чаму той артыкул з'явіўся без абмеркавання на рэдкалегіі. Сазваніўся з галоўным. Ён: «Нічога не пішы. Скажы: я вярнуся — тады і будзем тлумачыцца. Няхай перагараць. Не той цяпер час, каб рабіць супраць нас аргвывады». Вярнуўшыся, Грачанікаў пабыў у першага камсамольскага сакратара, у загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ і здолеў пераканаць тых «не шумець, а спусціць усё на тармазах». І параіў Ермаловічу не ўдастойваць увагай пасквілянта, а адказаць яму ў «Маладосць» — іншым сваім творам. Мы ведалі: той мае вялікае гістарычнае даследаванне, але яго ўсюды адмаўляліся выдаць асобнай кнігаю. І пачулі: «Ёсць такое. Але вас за яго з работы здымуць, а то і пасадзяць». — «Калі паабяцаеце насіць нам сухары, то рызыкнем, — усміхнуўся Грачанікаў. Але потым мне: — Жарт жартам. Трэба падстрахавацца. Ты лепш ведаеш гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, пагавары з імі і папрасі напісаць прадмову. І каб у ёй была якая важкая марксісцка-ленінская цытата пра гісторыю Кіеўскай Русі, ВКЛ». Перагаварыў з 9-цю дактарамі гістарычных і філалагічных навук — адмовілі, спаслаўшыся на славуты недахоп часу (праўда, М. Сташкевіч паабяцаў падтрымаць па лініі Інстытута гісторыі партыі, паколькі галоўліт па-ранейшаму ўпотай дасылаў ім некаторыя творы на закрытую рэцэнзію). Нехта «прасігналіў», і нас з Грачанікавым выклікаў сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі, адкрыта страшыў за «прапаганду нацыяналізму». І зноў незабыўны Анатоль Сямёнавіч павёўся годна, нават задзірыста: хіба вам, хто займае такую адказную пасаду, не сорамна гаварыць пра нейкі беларускі нацыяналізм? У гэтым жа слове аснову складае лацінскае азначэнне «natio» — «народ», а паняцце «беларускі народ» ніхто яшчэ не адмяняў, як і не забараняў любіць народ!..

Карацей, з другой паловы 1988-га пачала друкавацца ў «Маладосці» даўно чаканая даследчая праца Ермаловіча з нацыянальнай канцэпцыяй «Старажытная Беларусь» (нямала ілюстрацый да яе перадаў Г. Штыхаў). Зноў жа, нехта можа пахмыльнуцца: вось дык ваш подзвіг! Падумаеш, праламалі берлінскую сцяну! Праца рана-позна была б надрукаваная. Была б. Але лепш — раней і пры жыцці аўтара. І для хутчэйшага пералому няведання, абыякавасці, грамадскай свядомасці. Для асэнсавання таго, што мелі, маем і што трэба шанаваць і несці далей.

Заслужана павысілі рэпутацыю аўтараў апублікаваныя аповесці «Мы — хлопцы жывучыя» Івана Сяркова і «Паляванне на апошняга жураўля» Алеся Жука. Падтрымалі першы празаічны твор — раман «У падзямеллі» Міколы Аўрамчыка, дзе, бадай, упершыню ў савецкай літаратуры быў праўдзіва адлюстраваны лёс салдата з арміі савецкага генерала Уласава і яго (салдата) у фашысцкім палоне. Надзвычай цёпла былі сустрэты публікацыі сумленнай, пранізанай болем і ў той жа час нязломнасцю кнігі былой (ды і да смерці) савецкай зняволенай Ларысы Геніюш «Споведзь» (выбачайце, гэту назву даў я). Многіх зацікавіў перадрук «Мужыцкай праўды» пад рэдакцыяй Кастуся Каліноўскага і многіх нумароў «Дзянніцы» на чале з Цішкам Гартным...

Грачанікаў яшчэ паспеў парадавацца за адну маладосцеўскую рэч. Перабудова нібы рухалася наперад, але ў нас вялася літаральна вайна супраць розных «нефармалаў» — асабліва тых, хто падаваў голас у Беларусі за... адраджэнне беларускай мовы і культуры. Нават у Маскве празвалі нашу рэспубліку Вандэяй. Найбольш свядомая наша інтэлігенцыя на чале з Васілём Быкавым мусіла звярнуцца да самога М. С. Гарбачова з просьбай дапамагчы прадухіліць знішчэнне беларускай нацыі і вызначыць захады на адраджэнне. Па былой савецкай завядзёнцы копію гэтага звароту пераслалі ў наш ЦК, а там ідэолаг-сталініст, празваны ў прастамоўі Саўкам, выклікаў амаль усіх падпісантаў у свой кабінет і літаральна душыў за горла: адмоўся ад свайго подпісу, а то!.. Ніхто не адрокся. У ЦК КПСС, на сакратарыяце на чале з Я. Лігачовым, абмеркавалі гэты зварот і з некалькіх дзясяткаў яго пунктаў з грыфам «Сакрэтна» прынялі адчэпнае: дазволілі пры «Маладосці» выдаваць штомесячна «Бібліятэку». Во была самастойнасць БССР: нават такое невялічкае выданне трэба было выпрошваць у цэнтры!

Маладым — радасць: па 5 кніжачак паэзіі і прозы, па адной публіцыстыкі і крытыкі штогод! З 1988 года справа пайшла ў ход. Першыя свае кнігі ў гэтай серыі выдалі А. Сыс, А. Федарэнка, А. Наварыч, А. Казлоў, Г. Багданава, М. Скобла і шмат іншых, адразу становячыся членамі Саюза пісьменнікаў.

Вясной 1991-га ў росквіце жыццёвых і творчых сіл Грачанікава трагічна не стала. На галоўнага калектыў пачаў заваражваць мяне. Я раіў Сіпакова. Той рашуча адмовіўся. Неўзабаве ў ЦК ЛКСМ пайшла «тэлега» супраць мяне за подпісам некалькіх маладых літаратараў (маўляў, я не спраўлюся «абнавіць» выданне). Усё гэта было абмеркавана на Пленуме Саюза пісьменнікаў з удзелам адказных з ЦК ЛКСМБ, дзе тайным галасаваннем (40 «за», 1 «супраць») было прынята рашэнне. «Гэта Генрых сам супраць сябе галасаваў», — пажартаваў Максім Танк.

Працяг на стар. 20 (12) ▸

▸ УГОДКІ

# ШЧАСЛІВАЯ ПОВЯЗЬ З «МАЛАДОСЦЮ»

◂ Працяг. Пачатак на стар. 19 (11).

Трэба было вучыцца яшчэ болей, без аглядкі, браць адказнасць на сябе, самому станавіцца «шэфам». Ды ў калектыве, што вылучыў. І падзеі ў СССР, у БССР абнадзейвалі на мажорны лад: жнівеньскі путч праваліўся, дзейнасць камандната ЦК КПБ прыпыненая ці забароненая, «маўклівa-агрэсіўная» большасць нашага Вярхоўнага Савета са сполаху прагаласавала за дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, старшынём новага ВС стаў вядомы вучоны, грамадскі дзеяч, сын пісьменніка С. С. Шушкевіч. Прынята новая, дэмакратычная канстытуцыя. Прыняты жыццёванеабходны, умацоўны для нацыянальнага грунту, паважлівы і не для беларусаў у нас «Закон аб мовах». Што яшчэ жадаць?

Ды неўзабаве сам Станіслаў Станіслававіч, можна сказаць, пахаваў нашыя надзеі: на напрошаную намі сустрэчы пачаў па-ментарску вучыць. Асабліва ў тым, каб не лезлі ў палітыку. Каб перасталі быць нахлебнікамі: па-ягонаму, цяпер, ва ўмовах хуткага рынку, трэба выжываць самім. Пісьменнікам, часопісам, выдавецтвам. «От сынок дык сынок!» — па выхадзе тужліва сказаў адзін народны пісьменнік…

І пачалося! Найперш для «Маладосці». Нас неўзабаве выкінуў са сваёй сістэмы камсамол — як з фінансавай, так і са свайго будынку. Жах браў новага галоўнага: гэтак можна і часопіс страціць...

Я — да міністра інфармацыі. Дзякаваць Богу, што тады ім быў Анатоль Бутэвіч. Ён у звыклай манеры падшуткаваў, падстрашыў, каб у мяне заявіўся сівы волас, а пасля прыладзіў нас да выдавецтва «Полымя», дзе мы апынуліся ў ролі няпрошаных жабракоў. І новае кіраўніцтва, і міністэрства, асабліва пасля Бутэвіча, увесь час нагнятала: няма на вас сродкаў, зарабляйце-зарабляйце, шукайце спонсараў. Міністэрства адлучыла ад літаратурных выданняў тагачасны безграшовы Саюз пісьменнікаў, а нас, галоўных рэдактараў, змусіла перайсці на кантрактную сістэму... Карацей, з самага рыначнага пачатку часопісы, выдавецтвы выжылі, як разумею, дзякуючы падтрымцы Савета міністраў і найперш яго старшыні В. Ф. Кебіча. Ён не зусім лічыў пісьменнікаў дармаедамі.

І пры такой нервовай напрузе выпадалі і радасці: ішлі і ішлі ў літаратуру маладыя таленты, амаль кожны нумар часопіса пачынаўся з рубрыкі «Упершыню ў «Маладосці», лік кніжачак «Бібліятэкі» пераваліў за 150. Творча ўзраслі, сталі паўкласікамі ўжо («класік», «паўкласік» — любімыя жарты ў пісьменніцкім асяроддзі) яе першыя аўтары: у паэзіі — А. Сыс, апавяданнямі і аповесцямі — А. Федарэнка, А. Наварыч, А. Казлоў, у крытыцы — І. Шаўлякова і інш. У часопісе па-ранейшаму жадалі надрукавацца, хоць апавяданнем, невялікай падборкай вершаў масціты — Я. Брыль, І. Шамякін, І. Навуменка, В. Адамчык, Я. Сіпакоў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Ю. Свірка, А. Жук, ужо сталыя пісьменнікі А. Клышка



Юбілейная вечарына ў Доме Літаратара. У цэнтры — Г. Далідовіч. 1993 г.

(вёў урокі культуры мовы), М. Маляўка, Я. Лецка, В. Гардзей, В. Гігевіч, Ул. Саламаха, В. Жуковіч, М. Мятліцкі, М. Карпечанка, А. Карлюкевіч (апошнія два грунтоўна заявілі пра сябе ў справе краязнаўства), — якія кожны ў сваім жанры закранулі важныя аспекты гісторыі і сучаснасці, памагалі падтрымліваць высокі ўзровень выдання. Лічыў і лічу выдатным дэбютам у жанры мастацка-дакументальнага рамана «Пляц волі» Алеся Пашкевіча (2000 г.), дзе ўпершыню на багатым матэрыяле і з глыбокім яго асэнсаваннем была раскрыта яшчэ адна малавядомая, трагічная, але бязлітасна абылганая старонка беларускіх пакут. Ужо ў перыяд савецка-польскага супрацьстаяння, у якое частка БНР (такой прызнаў Случчыну яе Першы беларускі з'езд у лістападзе 1920 г.) ахарактарызавала савецкую ўладу «чужацкай», выступіла супраць яе пабораў у харчразвёрстку, антынацыянальнай палітыкі і арганізавала паўстанне. Яго задушыла 27-я Омская дывізія Чырвонай арміі, а чэкісты ўчынілі жорсткую расправу і з тымі, хто не паўставаў, але мог быць у шэрагах паўстанцаў.

Адбылася змена ўлады, канстытуцыі… За няпоўныя 5 гадоў нават не адбылося жыццядайнага ўдыху на ўсе грудзі...

...Трымаю № 12 «Маладосці» за 2001. Гэта — фактычна апошні нумар часопіса, дзе быў я бальшменш паўнацэнны галоўны рэдактар. Пасля гэтага — мае боль, пакуты, бездапаможнасць. У 2002-м рыхтуем, самі набіраем, вярстаем нумар за нумарам (камп'ютарную тэхніку мы набылі самі), а яны... не выходзяць. З тагачасным старшынём Саюза пісьменнікаў В. Іпатавай неадноўчы хадзілі да міністра М. Падгайнага з просьбай, каб зрушыць справу. «Няма сродкаў. Нашу «Бібліятэку» згортваюць, не зважаючы на тое, што аўтары самі арганізоўвалі падпіску, знаходзілі сродкі на выданне. І яна знікла. Апошні ў ёй па ліку зборнік паэзіі — Тацяны Сівец (але без пазначэння серыі, толькі з захаваннем прозвішчаў тых, хто рыхтаваў яго да друку).

Далей — болей. Ні пры Машэраве і Кісялёве, ні пры іхніх безабліччых наступніках не допускалася тое, што пачало асоціць у гэты час. На ўсіх у грамадстве, хто жадаў рэформ у эканоміцы, змен у афіцыйнай нафталіннай ідэалогіі і вольных зносін з дэмакратычнай Еўропай, з самага верху абрынулася збэшчванне: «отморозки», «вшивые блохи», «козлы», «пятая колонна!». Адпаведна, хто гундосіў у такт — «чэсны». Хто заклікаў да развагі, сцверджання Беларусі як такой — «нячэсны». Сярод апошніх — найперш лепшыя журналісты, асноўныя пісьменніцкія сілы на чале з Васілём Быкавым, «дерьмократы». Пагучнелі прымітыўныя, але жорсткія нападкі на Саюз пісьменнікаў, розныя абвінавачванні галоўным літвыданням. Нельга было не адчуць: набіраюць моц у пэўных кабінетах захады па расколу творчага Саюза, па выдаленні нас з часопісаў.

Тое неўзабаве і адбылося. Што да падзелу нашага Саюза на два, то тут, можа, вялікай бяды і няма: справа творчых прыхільнасцей. Але зусім іншае, калі «нячэсных» выгналі з ягонага ж будынку, адабралі ад яго і зліквідавалі Літфонд — матэрыяльную падтрымку. А што да Сяргея Законнікава, Алеся Жука і мяне, то, сапраўды, не да скону нашага нам было быць на чале літчасопісаў, нас можна і трэба было замяніць на маладзейшых цывілізавана, а не ўводзіць замест нас іншых праз чорныя дзверы...

Дарэчы, паколькі ў апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця Іван Шамякін упадабаў друкавацца ў «Маладосці», то мы часта вялі з ім розныя доўгія бяседы. Аднойчы я запытаў, ці пяройдзе ён у новы Саюз? «Ні ў якім разе! — той замахаў рукамі. — Збегчы ад Купалы, Коласа, Броўкі, Куляшова, Мележа? І Скобелеў, і Чаргінец прасілі перайсці, але я сказаў: хлопцы, адумайцеся, не раз'ядноўвайце такую значную духоўную сілу, як пісьменніцкі Саюз, не шукайце герастратавай славы. Іван Навуменка ім сказаў яшчэ болей рэзка, аднаго дык проста выгнаў з кватэры. Але не паслухаюць. А там, — тыцнуў вялікім пальцам уверх, — на мае лісты не адказваюць... Відаць, іх спрытна апрацавалі...». Па просьбе сям'і Івана Пятровіча пазней і я напісаў успаміны пра яго для «Мастацкай літаратуры». Зусім спакойна, не называючы прозвішчаў, тое-сёе пераказаў з гутарак з ім па свядомым развале Саюза, утварэнні новага пад эгідай вернападданніцтва, па ахайванні непаребеглых і недапушчэнні некаторых з іх да грамадскасці, што з'яўляецца грубым парушэннем Канстытуцыі, але гэтую мясціну з майго матэрыяла ўпотай прыбралі. Дзеля гэтага і карэктуры не паказвалі. Больш — ужо даўно пачуў: цяпер галоўны літвыдання сам нічога важнага не вырашае, перад пасылкай у друк рукапісаў ці карэктур іх папярэдне агледжвае надзелены адпаведным правам функцыянер! Калі так, то, значыць, жыў Курылка, жыве новая тайная цэнзура!..

...Палкаводцам без арміі я болей паўгода знаходзіўся на сваёй пасадзе. Супрацоўнікі казалі: мо не будзем больш рыхтаваць нумароў, усё роўна яны не выходзяць. Думка мая была цвёрдая: працаваць. Пасля загулялі пагалоскі: будзе створаны нейкі холдынг, куды ўвойдуць усе літвыданні, але перад гэтым будзе ўсебаковая «чыстка» — найперш праверка дзейнасці рэдакцый, бо ў іх «працвітае карупцыя». Сапраўды, хутка пачаліся праверкі. У нас — спачатку з дзяржкантролю. Пагрукала яго супрацоўніца нашы паламаныя за пераезды, збітыя цвікамі сталы, шафы, крэслы — і не паверыла сваім вачам: я і падумаць не магла, што вы нібы ў пячэрным веку! Якая карупцыя?! Ды вам перасталі ўжо выдзяляць паперу, алоўкі, гумкі! Праўда, мне сказала, што ў акце яна запіша так: «Видимых нарушений не обнаружено». Затым — падатковая камісія. Зноў жа, не з міністэрства, а збоку. Яна запатрабавала 12 нумароў за 2001 год з рабочай разметкай ганарару. Што ж, такое трэба заўсёды правяраць…

«Полымя» правярала яшчэ і пракуратура. І там не знайшлі ніякай карупцыі. А да нас пад заслону завітала камісія на чале са старшынём Сяргеем Касцянам — дэпутатам, рашучым змагаром супраць прасоўвання НАТА на Усход, а цяпер накіраваным рашуча навесці парадак у літаратурных выданнях. Тое, што я на сустрэчы па яго прапанове гаварыў хвілін 10, ён слухаў няўважліва, позірк ягоны блукаў недзе ў прасторах Сусвету (прыглядаўся толькі тэлекаментатар Яўген Новікаў). Пасля хвілін 15 прамаўляў удастоены вышэйшага даверу старшыня камісіі. Гэта было з яго кліша па агульнаславянскай канцэпцыі. А закончыў тым, што наш калектыў будзе працаўладкаваны, асабіста супраць мяне ён нічога не мае, але на маім месцы хоча бачыць Раісу Баравікову.

За сябе я не стаў прасіць. Ні ў Касцяна, ні ў іншых. Палічыў: замнога для іх гонару... Сапраўды, хіба была б годнасць схіляць галаву перад тым жа Касцянам, ведаючы асобныя яго публічныя выступленні? Прыклад: Законнікаў і я часта грашылі артыкуламі ў друку, наш калега, галоўны «Нёмана» Алесь Жук, знаючы і могучы не менш за нас, абмяжоўваўся назіраннем. Але і да яго аднесліся звышжорстка: ён ляжаў у бальніцы, яму меліся рабіць складаную аперацыю на сэрцы, ды названая камісія падтрымала высокамаральна: замест яго ў «Нёман» была прапанавана выдомая толькі ў радыйным асяроддзі асоба. Але не столькі творчымі якасцямі, а зласлівасцю. Аказваецца, яна на радыё спрыяла Касцяну агучваць сугучныя ёй вышукі, кляймённе іншадумных. І яна зусім не збянтэжылася ад прапанаванай ёй адказнай пасады. Наадварот, у інтэрв'ю яшчэ зафанабэрылася: маўляў, а чаму галоўным літчасопіса абавязкова павінен быць менавіта пісьменнік? А чаму не чытач? І калі раней «Нёман» асвятляў жыццё нашай рэспублікі і друкаваў у перакладзе беларускую літаратуру для ўсяго СССР, то пры геніяльным чытачы-рэдактары ён стаўся амаль філіялам асобнай кагорты маскоўскіх псеўдаідэолагаў і літаратараў...

...Яшчэ з месяц я адзін, як той капітан апошнім на караблі, чакаючы разліку, час ад часу заяўляўся ў пустым кабінеце. Сейф з дакументамі, мэблю, бібліятэку Р. Баравікова ўжо вывезла на Захарава, 19. Пакінула толькі адпрацаваныя рукапісы за гадоў 5. Я пашкадаваў іх, на свае сродкі наняў грузавічок, сам перанёс у яго папкі, завёз у архіў і выгрузіў там усё на падлогу (дзякуй архівістам: яны ўсё дагледзелі). Перабраў пакінуты велізарны фотаархіў нядаўняга нябожчыка Валянціна Ждановіча. Тое-сёе (матэрыялы да кніг) забрала сям'я, я ўзяў сабе некалькі папак са здымкамі аўтараў ад «А» да «Я», плёнкі здымкаў пра некалькі пісьменніцкіх з'ездаў і інш. Усё браць не дазваляла мая не такая ўжо вялікая кватэра. Астатняе, дзе была ілюстрацыйная гісторыя за некалькі дзесяцігоддзяў з жыцця і дзейнасці моладзі рэспублікі, засталося, і неўзабаве новы гаспадар таго пакоя адправіў усё ў... знадворныя кантэйнеры. Нарэшце мяне паклікалі з бухгалтэрыі Дома прэсы і сказалі, што яго дырэктар звольніць мяне «по сокращению штатов» з пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Апынуўся вольным казаком за 4 гады да пенсіі...

…Нядаўна зусім суцішана запытаў у аднаго з кіраўнікоў новага творчага Саюза: ну, дзе ж за 10 з хвосцікам гадоў вашы звышталенавітыя творы, якімі вы абяцалі засыпаць чытача? Былі сам-насам, дык ён адказаў: «А самыя інтэлектуальныя сілы засталіся ў вас». Хоць тут той сказаў праўду. Гэта выдатна пацвярджаецца ў часопісе "Дзеяслоў", дзе вышэйназваныя знайшлі падтрымку і дзе працягваюць лепшыя традыцыі рэдактарства літвыданнямі. І менавіта, шчыра прызнаем, па-новаму!

...Якая цяпер, на 60-м годзе, дарагая сэрцу «Маладосць», якая яе будучыня, цяжка сказаць. Можа, і таму, што мне хораша ў памяці тое, ранейшае, што часта давалася з боем і ўзвышала як літаратуру, так і яе чытачоў. Хацелася б, каб у ёй і цяпер было чым найболей твораў, якія дасягалі б узроўню раней надрукаваных.

А ўсім нам, старэйшым і маладзейшым, неабходна помніць пра незабораны наказ класікаў многіх літаратур: чалавека робіць чалавекам, пісьменніка пісьменнікам не ўгодлівасць, не прыстасавальніцтва, а змаганне з несправядлівасцю!..

**АПАВЯДАННЕ**




Малюнак С. Белаяра

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

**Цэлы месяц мясцовы літаратар Алесь Клопаў развешваў на прыдарожных слупах, у пад'ездах, падвалах і аўтобусах аб'явы пра творчую вечарыну, прысвечаную выхаду яго пятнаццатай празаічнай кнігі «Думкі на скразняку», якая распавядала пра нялёгкія працоўныя будні гарадскіх камунальнікаў і жыццёвыя пуцявіны тутэйшых бамжоў. Сустрэча мелася адбыцца ў актавай зале цэнтральнай бібліятэкі імя вядомага пралетарскага пісьменніка.**

Зборнік, выдадзены агромністым накладам, разыходзіўся надта слаба, і Клопаў разлічваў «загнаць» хаця б палову кніг падчас прэзентацыі наіўным чытачам. А для таго, каб яны сабраліся, неабходна належная рэклама: у друку, на радыё, па тэлебачанні. І Клопаў яе наладзіў.

У «раёнцы» «Вясёлая зара» на першай паласе сярод важных палітычных падзей у свеце была змешчана кідкая аб'ява ў тлустай рамцы памерам 15 на 20 см. У «прапіхванні» рэкламнай абвесткі Клопаву дапамог намрэдактара газеты Вячаслаў Бурбалка, якому аўтар нанёс у знак падзякі мноства разнастайных прысмакаў.

Па радыё праз кожныя дзесяць хвілін, перарываючы прамы эфір і бясконцую поп-музыку, замагільна-басавіты голас нагадваў слухачам, каб тыя ні ў якім разе не забыліся наведаць бібліятэку і набыць у папулярнага ў раёне аўтара кнігу пра сацыяльныя праблемы сучаснасці. На тэлебачанні паведамленне аб вечарыне бесперапынна ішло бягучым радком, нават ноччу, на фоне пустога экрана.

Клопаў жыў прадчуваннем неверагоднага аншлагу, уяўляў, як пасля прэзентацыі давядзецца выпускаць дадатковы тыраж, тысяч пятнаццаць-дваццаць — на ўсю краіну.

Пісьменнік абзваніў кожнага паэта раёна, узяўшы цвёрдае абяцанне прыйсці на сустрэчу, апагеем якой з'яўляўся продаж самай цікавай кнігі года.

Перад вечарынай Клопаў не спаў цэлы тыдзень, круціўся ў ложку з боку на бок — пісьменніку мроілася вялізная зала ў палацы Шведскага камітэта па ўручэнні Нобелеўскіх прэмій, апладысменты прысутных, асляпляльныя ўспышкі фотакамер, узнёслыя словы ўдзячнасці за геніяльны твор усіх часоў і народаў, а больш за ўсё падабаўся залаты медаль з выявай самога Альфрэда Нобеля і чэк на мільён еўра. Прыходзілася піць заспакаяльнае, каб пазбыцца надакучлівых мар-трызненняў і суняць страшэнную тахікардыю.

І вось гэты знамянальны дзень надышоў. Зранку Клопаў у бары ля дома ўзяў два разы па «сто», у абед тры разы па «дзвесце» — і да вечара быў у поўнай баявой форме.

У актавай зале бібліятэкі разгарнулася выстава кніг і здымкаў аб жыццёвым і творчым лёсе знакамітага празаіка. Называлася яна словамі, узятымі з яго аўтабіяграфічнага рамана-хронікі на 3144 старонкі «Усе мы засланцы»: "Як стаць мэтрам — спытайце ў мяне». Уздоўж сцяны цягнуўся прывітальны зварот-транспарант супрацоўнікаў бібліятэкі.

Клопаў важна, з непадробнай скрупулёзнасцю сусветна прызнанага мэтра агледзеў падрыхтаваную выставу і задаволена чмыхнуў носам: «Класікі ў пралёце!». Зірнуў на стол з акуратна раскладзенымі паперамі, спыніў позірк на мінералцы і падумаў аб нечым асабліва дарагім. Каб не круціцца пад нагамі настырных прыхільнікаў, Клопаў прайшоў у кабінет дырэктаркі ўстановы, дзе, прыняўшы для адпаведнай кандыцыі яшчэ два разы па «сто», стаў даваць эксклюзіўнае інтэрв'ю мясцоваму тэлеканалу. Журналіст з вампірскай асалодай літаральна завальваў празаіка банальнымі пытаннямі: дзе нарадзіліся? калі пачалі пісаць? чаму проза, а не вершы? якія творчыя планы? і г.д.

Да пачатку вечарыны заставалася дзесяць хвілін, а народу сабралася — як на пальцах адной рукі. Ды і тыя сонна пазяхалі ва ўтульных крэслах.

Ля ўваходу ў залу разгарнуўся актыўны продаж бэстсэлера Клопава, ад падлогі да столі ўзвышаліся некалькі штабялёў кніжных упаковак, гатовыя ў любую секунду ад аднаго неасцярожнага штуршка заваліць прысутных арыгінальным чытвом.

За хвіліну да пачатку «відовішча» зала пачала напаўняцца больш актыўна. У першым радзе ўселіся сябры Клопава: афарміцель ягонай кнігі і паэт па сумяшчальніцтве Лявон Лысы, намрэдактара «Вясёлай зары» Вячаслаў Бурбалка, мясцовы літкрытык Сяргей Аглабельны, паэт-эстэт, аўтар 17 тысяч мацерных вершаў Уладзь Кірагазаў і рэдактар газеты «Калгасная песня» Кныраслаў Парсюкевіч. Крыху наводдаль прымасціліся паэт Шпак, пісьменніца Дубаломава з сяброўкай Караедавай, вядомай аўтаркай дзіцячых кніжак «Вожык-наркаман», «Калабок-забойца» і інш. У поўным зборы на вечарыну завіталі вучні суседняй школы на чале з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Яны раз-пораз зіркалі на гадзіннік і ўваход у залу, чакаючы моманту, калі Марыя Іванаўна аслабіць пільную ўвагу.

На «галёрцы» сядзелі некалькі студэнтак-першакурсніц з тутэйшага педкаледжа, смачна шчоўкалі семкі, хаваючы смецце ў набытай кніжцы прозы.

Колькі ні чакаў яшчэ Клопаў, народ упарта не ішоў на яго прэзентацыю. Правал! Гэтага слова празаік баяўся больш за ўсё. «Сволачы, падманулі... Абяцалі, а не прыйшлі... Званіў жа… А рэклама? Халера б яе ўзяла!» — мітусіліся ў галаве непрыемныя думкі. Трэба было пачынаць. На гадзінніку — 19:30. Замест 17:30.

У пацёртым джынсавым касцюме а-ля тэхаскі каўбой, з гітарай у руцэ а-ля Разэнбаўм, са змушанай усмешкай на кіслым твары Клопаў увайшоў у залу. Пісьменніка стрымана павіталі. І ён пачаў расказваць пра сябе і новую кнігу — пра тое, як «дакаціўся» да несумненных шэдэўраў сучаснасці.

А дзявятай гадзіне ў дзвярах паказалася прафесар з педкаледжа Зоя Пеўнікава, якой удалося сабраць для вечарыны неабходную колькасць «вушэй» — завочнікаў. Тыя пакорліва ўладкаваліся на месцах, пасля чаго ў зале не засталося ніводнага пустога крэсла.

«Гэта фурор, — думаў Клопаў, — якая падтрымка!». І жаданне бліснуць усімі гранямі свайго невычэрпнага таленту стала непераадольным.

Пісьменнік чытаў вершы «з ранняга», «з перадапошняга» і «са свежага», раздзелы з напісаных і ненапісаных раманаў, дзяліўся сакрэтамі ўласнай творчай лабараторыі, праводзіў паралелі з Маркесам, Талстым, Гамсунам і Муракамі — карацей кажучы, ствараў імідж першакласнага літаратара. І многія з прысутных, якія ніколі не чыталі ягоных «эпахальных палотнаў» (па выказванні Зоі Пеўнікавай), верылі ў гэта са святой наіўнасцю. А Клопаў у думках ужо падлічваў, колькі за сённяшні вечар ён «загоніць» сваёй літпрадукцыі. Перспектыва цешыла.

Паступова на стале сабраўся стос запісак, на якія Клопаў неўзабаве пачаў з гонарам адказваць.

– Мой арыенцір — гэта я!.. Мяне часта пытаюць, чаму я так нязвыкла назваў сваю кнігу — «Думкі на скразняку»? Таму што я люблю ўсё незвычайнае і малазразумелае, філасофскаглыбленае. Падчас працяглай працы на гарадской звалцы мне даводзілася бачыць рознае, у выніку — жыццёвы вопыт і ўнутраная няўседлівасць зрабілі сваё. Я пачаў пісаць. Даволі смела і арыгінальна. І гэта ў мяне, безумоўна, атрымліваецца. Новая кніга будзе называцца «Рэха ў дупле»...

Некалькі чалавек папрасілі праспяваць славутую «Марыю». Клопаў адмовіць не мог. З вокнаў ледзь не павылятала шкло, а лямпачкі ў зале перыядычна гаслі. Завочнікі неўпрыкмет зніклі за дзвярыма. Адміністрацыя бібліятэкі загадала зачыніць іх і нікога не выпускаць да самага фіналу мерапрыемства. Супрацоўнікі не маглі дапусціць зрыву насычанага плана па сустрэчах з мясцовымі славутасцямі, тым больш што ён быў зацверджаны «зверху».

Напрыканцы (а палове адзінаццатай) пасля чытання 40-старонкавай часткі пяцітомнага рамана «У пошуках перуанскіх дзятлаў» Клопаў даў слова калегам па літцэху. Першай ускочыла Дубаломава:

– Я наскрозь бачу здольнага літаратара. У мяне выпрацаваўся нават спецыфічны нюх на іх. Клопаў — гэта празаік вялікай сілы. Але мяне, як ні круці, ён яшчэ не пераўзышоў. Я пакуль на раённым літалімпе недасягальная. Няхай плявузгаюць розныя Аглабельныя, быццам я графаманка апошняя, час пакажа, хто я і мая творчасць насамрэч. Геніяльных творцаў, як вядома, сучаснікі не заўважаюць, а потым узносяць. Таму пажадаю Алесю далейшага плёну ў яго патрэбнай дзейнасці, і няхай ён не звяртае ўвагі на дзёркія кпіны нейкіх Аглабельных, з-за якіх я толькі пасадзіла сэрца... — і Дубаломава паклала ў рот валідол.

Следам выступіла прафесар Пеўнікава:

– У літаратуразнаўчым дыяпазоне маіх прафесійных зацікаўленняў творчая індывідуальнасць спадара Алеся займае першаснае месца. Гэта жывы класік! Як, дарэчы, і мая сяброўка Дубаломава. Пішыце, працуйце — за вамі будучыня, — і па раней агаворанай камандзе завочнікі, якія не паспелі яшчэ збегчы, заапладзіравалі Клопаву. Той не мог стрымаць слёз...

Адміністрацыя бібліятэкі зачытала ўрачыстае віншаванне загадчыка аддзела культуры райвыканкама Рыгора Свінюка, які перадаваў пісьменніку самыя цёплыя пажаданні і зычыў поспехаў у творчасці. Больш за тое, там гаварылася, што за вялікі ўнёсак у развіццё раённай культуры Савет дэпутатаў на пазачарговай сесіі вырашыў адзначыць падзвіжніцкую місію Алеся Клопава, прысвоіўшы яму званне «Ганаровы дзеяч правінцыйнай літаратуры». Пісьменнік пачаў дзякаваць усім за аказаны давер, якога ён, канечне, дастойны і які апраўдае новымі незлічонашматстаронкавымі раманамі.

Пасля такой усеагульнай пашаны і ўганаравання Клопаў не мог проста так развітацца з удзячнымі чытачамі. (Была б яго воля, ён пратрымаў бы іх да ранку). Пісьменнік хацеў спярша прачытаць 70-старонкавы пачатак новай батальнай аповесці «Горад паўлінаў» і 30-старонкавую канцоўку са свежай эпапеі «Я — не плакса», але потым падумаў, што творчыя вечарыны варта завяршаць на ўзвышанай ноце.

– Я ведаю: вы слухалі б мяне бясконца, але час няўмольны. Таму не крыўдуйце, што ўжо падводжу рысу нашай сустрэчы (у зале пачуліся ўздыхі аблягчэння). Зараз я выканаю самую свежую і аглушальную сваю песню «Я паеду ў Афрыку, там мяне чакаюць...».

Што гэта быў за тэкст! Якія словы! А музыка! Са сцен пасыпалася тынкоўка. У акне, побач з бардам, вылецела шкло.

Народ ірвануў хто куды: у выбітае акно (добра, што першы паверх), у зачыненыя дзверы, якія з трэскам выскачылі разам з каробкай.

Клопаў, заплюшчыўшы вочы і не зважаючы на суцэльны хаос, цягнуў безупынку...

Набліжаўся апафеоз.

Не вытрымаўшы гукавых ваганняў шалёных дэцыбелаў, пачалі падаць незлічоныя ўпакоўкі кніг, нібы жалезабетонныя блокі, — на старэнькі паркет. Падлога не стрывала такога катастрафічнага катаклізму і абвалілася разам з бардам у падвал.

Вечарына скончылася сапраўдным правалам. Такога ў спакойным літаратурным жыцці раёна яшчэ не было.

Праз дзень у «раёнцы» «Вясёлая зара» за подпісам Вячаслава Бурбалкі з'явіліся дзве нататкі. У адной пад назвай «Пра сябе любімага» гаварылася аб неверагодным поспеху вечарыны Алеся Клопава. У другой, «Тэракт у кніжным храме», адзначалася: «... страты, нанесеныя цэнтральнай бібліятэцы самадзейнымі тэрарыстамі-антыкніжнікамі, яшчэ падлічваюцца. Відавочна адно: будынак аднаўленню не падлягае».

Тым часам самазвалы, гружаныя ўпакоўкамі кніг Алеся Клопава, трымалі курс на абласны цэнтр.

ІНТЭРВ'Ю

# Дзмітрый Плакс: «УПЕРШЫНЮ ЗА МНОГІЯ ГАДЫ Ў БЕЛАРУСЬ НЕ ПРЫЕДУЦЬ ШВЕДСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ…»

**Працяг. Пачатак на стар. 9 (1).**

***В.К.: — Прысутнічаў на цырымоніі ўручэння?***

**Дз.П.:** — Прэмію атрымаў, грошы спраўна пералічылі. На цырымоніі не быў.

***В.К.: — Чула, што цырымонія тая прыходзіць з шыкам… Ці ў чым саступае, ці чымсьці падобная да ўручэння Нобеля?***

**Дз.П.:** — Гэта ўрачыстае паседжанне, выніковае, за год. Яно адбываецца ў прысутнасці каралеўскай сям'і, транслюецца ў жывым эфіры па тэлебачанні — так вось і пабачыў, як там усё ўладкавана. Што да Нобелеўскай цырымоніі… Ну, паседжанне праходзіць у той самай залі, дзе лаўрэаты літаратурнай прэміі нобелеўскія лекцыі чытаюць... Мужчыны апранутыя ў фракі, жанчыны ў вечаровых строях...

***В.К.: — Можа, там і чырвоная сцежка ёсць?***

**Дз.П.:** — Такіх дэталей я не ведаю, я ж не хадзіў.

***В.К.: — Чаму не пайшоў? Беларуская сціпласць?***

**Дз.П.:** — Ты можаш сабе ўявіць мяне ў фраку? І я не магу. А там ёсць правілы — ці ты іх прымаеш, ці сядзіш дома. Усё проста.

***В.К.: — А сур'ёзна: чаму ты не пайшоў? Ці толькі праз фрак?***

**Дз.П.:** — Не, не толькі, прастуджаны быў моцна, хварэў. Дый не запрашаў ніхто, каб уж надта настойліва, а я не люблю навязвацца.

***В.К.: — А як запрашалі? Па тэлефоне, святочнай паштоўкай?***

**Дз.П.:** — Ліст даслалі.

***В.К.: — Нейкі ты не дужа радасны для лаўрэата… Што не так? Мала грошай ці задужа афіцыйна для цябе як для творцы?***

**Дз.П.:** — Ага, грошай малавата. Вось каб 400 000, ці чатыры мільёны, а так...

***В.К.: — А так — колькі? Многія дзеля гэтага і чытаюць… Толькі ў зразумелай валюце адказы.***

**Дз.П.:** — Недзе каля чатырох с паловай тысячаў еўра.

***В.К.: — Вечна табе чагосьці для шчасця не стае…***

**Дз.П.:** — Я жартую, трохі стомлены проста — год быў цяжкі.

***В.К.: — Год твой ці шведска-беларускі?***

**Дз.П.:** — І той і той, відаць. Але пра мой, пэўна, менш вядома :). А ў ім шмат было працы, вельмі шмат… Плюс восень нейкая не вельмі ўдалая: зваліўся з ровара, тое-сёе паламаў, потым «паляцеў» жорсткі дыск на кампе, пазнікалі файлы, некаторыя з іх для мяне важныя, над чым доўга працаваў... Ну, не катастрофа, але і не так, каб вельмі весела.

***В.К.: — Спачуваю. Але хіба часам такія моманты — штуршкі космасу. Аднойчы, памятаю, Някляеў расказваў, як у Фінляндыі нейкую філасофскую паэму пісаў — а яна ўзяла і ўся «навярнулася» ў кампутары. Дык ён сеў і на адным дыханні «лёгкі» раманчык накатаў…***

**Дз.П.:** — Я пішу павольна і цяжка, накатаць раманчык, ды яшчэ на адным дыханні — гэта не пра мяне. Але я не стаўлюся да сябе надта сур'ёзна, дыстанцыя да сябе самога, самаіронія — важныя для мяне рэчы. Маючы прэтэнзію на нейкі, скажам так, інтэлектуальны лад жыцця, я мушу заўжды падазраваць сябе ў тупасці, невуцтве, ляноце, весці сталы допыт сябе самога. А ў размове з сабой ты заўжды церпіш паразу, гэта як спрэчка з «падкаваным» дэмагогам, які «ведае» пра цябе «ўсё» і любыя твае аргументы сустракае прыкладамі, лічбамі, скептычным тонам і агульнай канстатацыяй тваёй па вызначэнні вінаватасці. Таму я радка што публікую і мне часта бывае лягчэй аддаць у друк тое, да чаго я сам не стаўлюся сур'ёзна, чым вырашыць, ці варта паказваць нешта, над чым я працаваў пяць гадоў. Гэта я да таго, што моцна не перажываю з-за страты тэкстаў і разумею, што людзям будзе што пачытаць і без тых опусаў, якія зніклі з жорсткага дыску майго кампутара…

***В.К.: — На што патраціш прэмію? Мы доўга не маглі дамовіцца на гутарку, бо ў мяне ўзламалі скайп, а ў цябе зламаўся кампутар… Купіш новы?***

**Дз.П.:** — Спачатку так і збіраўся зрабіць, але вось здолеў адрамантаваць стары, нават нешта са зніклых дакументаў выратаваць. Грошы там не вельмі вялікія, нешта разышлося на зімовыя святы, астатняе — так, на бягучыя выдаткі...

***В.К.: — Ты заўжды спрабуеш рабіць праекты (твае кнігі сапраўды можна назваць арт-праектамі), адрозныя адзін ад аднаго, але ў плакс-стылістыцы… Над чым цяпер працуеш, пра што можна расказаць?***

**Дз.П.:** — Так, я звычайна кажу, што не лічу кніжку пакетам са змесцівам з тэкстаў, мяне цікавіць сувязь вербальнага з візуальным, розных «агрэгатных станаў» слова: гукавога, знакавага, вобразатворнага…

Я не вельмі люблю распавядаць пра тое, над чым працую «для сябе», бо ніколі не ведаю, ці будуць у гэтай працы нейкія публічныя вынікі. А публічная мая праца ў апошнія гады складаецца амаль цалкам з напісання драматургічных твораў — я працую кімсьці кшталту «хатняга драматурга» ў Радыётэатры Шведскага радыё і, як гэта ні дзіўна гучыць, за літаратурную працу мне плацяць грошы. Што само па сабе прыемна :)…

ПАРТРЭТ

# СПАТАЛІЦЦА — НЕСПАКОЕМ

## ПАЭЗІЯ АЛЕСЯ ПАПЛАЎСКАГА

**Алесь КАСКО**

**Стала аксіёмай: паэзія ў сваёй сутнасці ёсць дзённік паэтавай душы. І ўсё ж казаць так слушна ў тым выпадку, калі яны, паэт і ягоная душа, вычарпальна шчырыя, не адчуваюць над сабою ні чытача, ні тым болей цэнзара, чаго вымагае ўласна дзённік — імгненныя або разгорнутыя занатоўкі для сябе.**

Творчасць Алеся Паплаўскага — акурат той выпадак. Яна адлюстраванне душы самотнай, часам збалелай, аднак не застылай — дзейнай у намаганнях пярэчыць і супрацьстаяць «аб'ектыўнай абсурднасці» свету і чалавека ў ім (А. Камю).

Паміж таямніцамі нараджэння і смерці, колькі б мы ні казалі пра міг, сон жыцця, не такая ўжо кароткая адлегласць, каб сядзець недзе на ўзбочыне і чакаць непазбежнага зыходу. Яе трэба прайсці, пражыць, і не аднаму, а ў купе з такімі ж, як сам. Ці знаходзіш падтрымку ў іх ты і ці знаходзяць яны ў цябе, інакш — ці напраўду «абсурд» аб'ектыўны, незалежны ад нас? Гэтае пытанне для А. Паплаўскага вельмі істотнае, ён з верша ў верш, па крупіцы-здагадцы, фармуе адказ на яго.

У няўцешным плачы дзіцяці ў калысцы ёсць водгук той складанасці і няўтульнасці, з якімі яно сутыкнецца ў будучыні, — прадбачыць паэт і спачувае немаўляці: «Я адчуваў між намі блізкасць» (верш «Адсутнасць сэнсу — сэнс жыцця?..»). Як працяг — вобраз ужо больш дарослага хлапчука-бяздомніка з верша «Ля кавярні», чые «вочы сочаць за бруднай сметніцай, за пустым карабком з-пад пернікаў». Яшчэ болей жахае сузіральнасць людскога асяродку: іншай, апрача паэтавай, спагады малы бяздомнік не выклікае, яго ўспрымаюць позіркам швейцара «з усмешкаю жоўтай, гіпсавай, нерухомаю». Так што пачуццё адзінотнасці ў гэтым свеце сыходзіць хутчэй за ўсё не з унутранага быцця чалавека (экзістэнцыі), а са стану грамадства, бяздушнага і бездухоўнага, у якім ён жыве. Толькі вось спадзяванняў на падвышэнне гуманізму або на, паводле Льва Талстога, нарастанне-накапленне любові не болей сёння, чым і дзвццаць, і дзвесце гадоў назад. Праблема «ачалавечвання чалавека» скразная для творцаў розных часоў, яна цяжкавырашальная, а з таго і вечная. «Як часта ў палацы новым замок на дзвярах іржавы!» — сумна канстатуе А. Паплаўскі. Так у палацах, так нярэдка і ў храмах, на жаль:

*Абязлюднее храм. Змоўкне шумны натоўп.*
*Прарасце цішыня, не азваца.*
*За сляпой мітуснёй не заўважыць ніхто*
*Абяздоленай постаці старца.*

Вось і дарасло тое немаўля ў калысцы да глыбокай старасці, а ўсё немы крык, цяпер усвядомлены і зацісуты ў кулак сэрца, чуецца па-ранейшаму! Адсюль мройная паэтава думка пра неабходнасць пераменаў, прыходу новага месіі, аднак жа «гэта будзе потым — ніхто не ведае калі».

Увогуле, мажорнага гучання ў вершах А. Паплаўскага надзвычай мала. Вобразы, фарбы, інтанацыі адпаведныя: «зноў падзёртыя стрэлкі зайшліся крывёю», «выратавальных дзён масты — даўно, па сутнасці, лафеты», «дзён маіх рвеціца повязь» і г.д. Светлых малюнкаў прыроды, паўсядзённых клопатаў і хвілін адхлання-адпачынку таксама трэба пашукаць: наваколле ў паэта «прапахла дымам», лісце пераважна бурае, прэлае, вечар «ветраны і бясконцы», а світальны промень «распусны»… Дык што, А.Паплаўскі — закончаны песіміст? Па-першае, падкупляе бескампрамісная перад уласным сумленнем і даверлівая перад чытачом (як жа ўсё-такі без яго!) паэтава спавядальнасць. Па-другое, у вершах праяўляюцца мудрая дыялектыка жыцця і ахоўная функцыя людской псіхалогіі. Чым больш навятла і нялітасціва ставіцца да цябе свет, тым з большай надзеяй і трываласцю ты шукаеш у ім выратавальных кропак. Гэтыя кропкі-астраўкі ў Паплаўскага-паэта, у яго датклівага лірычнага героя ёсць! Радзінны кут. Айчына з вялікай літары. Каханне. Сяброўства. Проста добрыя людзі, якіх на зямлі, што ні кажы, болей, чым ліхіх і абыякавых, інача жыццё абарвалася б зусім. Тых, на кім трымаецца белы свет і за каго чапляецца твая безабаронная душа, трэба цаніць і паважаць, а найперш даражыць чалавекам блізкім, якога так неспадзеўна лёгка можна страціць:

*Лішні крок — размінемся, збочым.*
*Будзе ў весніцы вецер ляскаць.*
*— Ну куды ж Вы насупраць ночы?*
*Заставайцеся, калі ласка.*

Нарэшце, сродак паратунку для паэта — ягоная творчасць, якой бы пакуты і самааддачы ні вымагала. Яна дае магчымасць выказаць самае набалелае, пераадолець псіхалагічную раздвоенасць (эгаізм і любоў да іншага — даволі часты матыў у А. Паплаўскага), запоўніць пустку адзіноты, самарэалізавацца ў веры, што «неспатольнае спатоліць прыгажосць». Мастацкая прыгажосць. Яна ў А. Паплаўскага своеасаблівая, адпаведная, зноў жа, ягонаму светаўспрыманню, жыццёваму і творчаму вопыту, таму ці іншаму настрою. Бывае жорсткаю, нават не падобнаю на прыгажосць, але прымальнаю тады, калі апраўдана глыбінёю ўзрушэння і не выходзіць за межы мастацкасці. Вось цалкам верш:

*Адбіткам на шкле ліхтар —*
*Васковыя згусткі мары.*
*Нібыта забойцы твар*
*У зрэнках сваёй ахвяры.*

Забойцу мары, хай гэта будзе нехта ці нешта або ты сам, адлюстроўваць так не грэх… Здараюцца і празмернасці, напрыклад, у такім малюнку: «Слізяю жоўтай, застылай па халоднай вяроўцы споўз засілены месяц у вакно, нібы ў яму». Груваства і — бр-р — не па сабе. Здаецца, сам Сальвадор Далі «пазайздросціў» бы такой прахве сюррэалізму. Між тым пра страту, што і ў прыведзеных радках, аўтар здольны сказаць куды танчэй, усхваляваней, паэтычней: «Там і не жыць без цябе мне. Там жа мне жыць…».

Спалучэнне супрацьлегласцей, або антанімія, пранізвае і звязвае ў напружаныя вобразы амаль усю паэтычную творчасць А. Паплаўскага з ягонай сумятлівай, непрыкаянай душою: «неспакой ад весялосці, мітусня — ад цішыні», «незавершанасць смерці», «цяжар святла», «спадзявацца на адчай» — гэтую неадназначную лінію можна доўжыць і доўжыць. Скажам, парадаксальным «боль — як паратунак»; сутнасць выслоўя палягае ў кантэксце і пэўнага верша, і паэзіі А. Паплаўскага ў цэлым, у якой асуджаецца не толькі жорсткасць і чэрствасць, а і заспакоенасць, непакаянасць, спроба самаапраўдацца зазіраннем у крывыя люстэркі сумлення, што «дагаджаюць нам заўсёды магчымасцю скажаць і спакушаць».

А побач з антытэзамі, аксюмаранамі і парадоксамі не-не, ды і сустракаюцца празрыстыя, трапяткія і цёплыя метафары: «ля печы ноч сушыла змрок», «ціхі ранак п'е расу з тваёй далоні», «вечнасць счытвае час з ліста — кожны міг, кожны дзень з абзаца».

Не, не пакідаюць паэта ў хвіліны смутку-горычы надзея на лепшае, адчуванне красы зямлі, разуменне самакаштоўнасці жыцця:

*І ў гэтай змрочнасці адценняў,*
*Сярод ахвярнасці пакутнай,*
*Часцінка светлага імгнення —*
*Жыцця вялікая прысутнасць.*

Шкада, пасля зборнікаў «Спынены ліс-тапад» (1997) і «Незваротнасць» (2001) Алесь Паплаўскі рэдка звяртаецца да паэзіі: яе, як і аўтарскую песню, усё часцей аддае ў ахвяру ненажэрнай прозе, — зрэшты, калі не роднай, дык стрыечнай сястры сваёй вершатворчасці; і тут і там абвостраны псіхалагізм, сутычкі з рэчаіснасцю, парою надрыўнасць: «вар'яцей, мой хцівы век, ад суднай немачы маўчання!».

Чытаць і пранікаць у неардынарную творчасць Алеся Паплаўскага няпроста, але цікава і небескарысна: на многае душа ваша адгукнецца і калі-нікалі спатоліцца, мо найперш — калі растрывожыцца…

АГЛЯД

# «ДОБРА БЫЦЬ АНАТОЛЕМ БРУСЕВІЧАМ»

**Анатоль Брусевіч. Апошні дзень: вершы. — «Кнігазбор», 2013 / Серыя Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»**

Гэта чарговы — трэці — зборнік вершаў Анатоля Брусевіча. Выкананы ў класічнай традыцыі, «Апошні дзень» па задуме аўтара відавочна не быў разлічаны на распальванне палымяных дэбатаў і ад пачатку не планаваўся як выклік ці правакацыя. Зборнік, мяркую, наўмысна створаны больш падобным на прыватныя дзённікавыя запісы, чымсьці на «публічны» твор. Але гэтая прыватнасць і шчырасць аўтара якраз і заахвочваюць чытаць далей і далей, перагортваючы старонку за старонкаю…

Пераходзячы ад агульнага да прыватнага, скарыстаюся сучаснай інтэрнэтнаю тэрміналогіяй і прапаную тэгі, якія могуць лапідарна, але і дакладна, пералічыць тыя катэгорыі, якія найчасцей сустракаюцца ў вершах зборніка: восень, ноч, дождж, паэт, смерць, Бог, нож, кроў, адзінота, поўня, віно. Прыведзены шэраг мог бы спалохаць зараджанага танным пазітыўчыкам аматара рыфмаў, але палохацца не варта: творца сам пазіцыянуе сябе як неадэкадэнт і праз гэта такія гатычненькія вобразы падабраныя адмыслова і наўмысна. Чаго вартая сама назва кнігі! — «Апошні дзень»! Магчыма, сп. Анатоль рыхтаваўся да абяцанага майя канца сусвету і свае творы першапачаткова выдаваць не планаваў, а пасля, расчараваўшыся ў прадказаннях недакладных індзейцаў, вырашыў нам адкрыцца? З пэўнасцю сказаць цяжка. Верагодна, гэта так і застанецца таямніцай, але не пераходзячы ў няўдзячную сферу гаданняў і спакуслівую плашчыню псіхааналізу ўсё ж адзначу некаторыя, як падалося, «вузлавыя моманты», якія неаднаразова сустракаюцца на старонках «Апошняга дня».

Першае і бадай самае заўважнае: аўтар, як праўдзівы брутальны дэкадэнт, глыбока занураны ў свае перажыванні, з вышыні і трохі паблажліва паглядае на верагоднага чытача ды і на астатніх двуногіх, якім не дадзена перажываць згрызоты творчасці. Асноўныя субяседнікі дыялогаў і развагаў аўтара — якімі па форме з'яўляюцца многія вершы — гэта Бог ці сам Анатоль Брусевіч.

Чытаючы іх, адчуваеш сябе лішнім прысутным пры такой гутарцы, але закрыць зборнік не можаш — цікава даведацца, да чаго дойдзе шукальнік ісціны?

Пра што ж гутаркі? Найперш, гэта класічныя пакуты самаідэнтыфікацыі, улацівыя ці ледзь не кожнаму творцу: «я — не я», «хто я?», «што пасля мяне?». Гэтыя пытанні, часам рытарычныя, падобныя на бяседу самога з сабой, сустракаюцца літаральна з першых старонак кнігі (вершы «***Нашто чакаць?», «***Я — труп былога — там мяне няма», «Адбітак»,«***У самога сябе спытаю»). Але не трэба думаць, што вершы мізантрапічныя ці злыя, не — яны яркія, проста падаюцца чытачу не ў рэальных колерах, а ў негатыве, як здымкі на стужцы.

Разглядаючы карціну сусвету вачыма паэта, міжволі паддаешся і пачынаеш атрымліваць асалоду ад змрочных краявідаў, як, напрыклад, у вершы «Вёска»:

*І зноў я тут, дзе сумна без віна,*
*Дзе дрэвы ў хату просяцца пагрэцца,*
*Дзе дождж не ў шыбы стукае, а ў сэрца,*
*І Бога бачна з кожнага акна.*

Асноўнае ўражанне, якое застаецца па прачытанні зборніка: сп. Брусевіч напружана шукае важныя для сябе адказы, не знаходзіць іх, але не вельмі гэтым пераймаецца, адчуваючы мазахісцкую асалоду ад болю і трывогі, якія становяцца і вынікам і, адначасова, глебаю для працягу творчасці. Можа ўсё менавіта так і ёсць — але хто ж забароніць? Паэт сам сабе і дабрадзей і кат. Ды і валадар сваёй творчасці.

Наконт апошняй, то сп. Брусевіч у збоніку прапануе цэлы шэраг вершаў, прысвечаных уласна ім самім: ***Вось і верш. Ты так яго чакаў», «Старыя вершы», «Белыя вершы», ***Паэзія, вяртаюся з табой». Прычым вершы выконваюць ролю сяброў аўтара і жывуць асобным жыццём, якое далёка не заўсёды задавальняе іх стваральніка.

Наогул, падалося, што аўтар наўмысна і даволі праўдападобна на працягу ўсёй кнігі спрабуе пераканаць нас у сваёй татальнай самотнасці ды апрычонасці на пакуты і сум. Яму амаль гэта ўдаецца, але — раз-пораз пракідваюцца іншыя, нібы схаваныя сярод беспрасветнай скрухі праменьчыкі весялосці і светлай лірыкі: як у вершах «Жыццё ідзе», «***Усміхаецца брат лістапад», «Лістапад» і, асабліва, у вершы «Добра зноў»:

*Добра быць Анатолем Брусевічам,*
*Добра жыць не штодзённым жыццём,*




*Піць віно і глядзець праз акно,*
*Захапляцца натхненнем і вечарам,*
*Разглядаць за празрыстай сінечаю*
*Жоўтай поўні засохлае дно,*
*Да высновы прыходзіць адной,*
*Што ад Бога ўсё — нават не вечнае.*
*Добра быць Анатолем Брусевічам,*
*Добра быць, добра жыць, добра зноў.*

І вось менавіта такія творы мяне асабіста прымушаюць не паверыць у тое, што гэты «Апошні дзень» для паважанага спадара Анатоля насамрэч апошні! Напэрадзе будзе шмат дзён і нямала добрых вершаў.

**Усевалад СЦЕБУРАКА**

# АПОКРЫФЫ АД БАЛАХОНАВА

**Сяргей Балахонаў. Зямля пад крыламі Фенікса: нарысы з паралельнай гісторыі Беларусі / — Мінск: І. П. Логвінаў, 2012. / Серыя «Галерэя «Б»**

Пачаць хацелася б з асаблівасцяў. Першая з іх — стварэнне ўласнай (прыдуманай) гістарычнай прасторы. Пры тым, што сусветная літаратура ведае даволі вялікую колькасць містыфікатараў, наша родная па пальцах можа іх пералічыць. Да іх ліку можна аднесці і класіка Караткевіча, які, пішучы свае геніяльныя творы, часам не асабліва пераймаўся адпаведнасцю рэаліям і дадаваў неабходныя акалічнасці на ўласную рызыку і густ, ствараючы ілюзію цалкавітай праўдзівасці і натуральнасці падзей. Я далёкі ад параўнання творчасці Караткевіча і Балахонава, але падабенства відавочнае не толькі ў назове кнігі, але і ў смелым падыходзе да вядомых і не вельмі фактаў нашага мінулага.

Апроч такой «караткевічаўскай» традыцыі, апаведы спадара Балахонава працягваюць і вядомую нашаніўскую традыцыю, што ўвасобілася ў нізцы ерэтычных баек «Дзесяць мяхоў беларускай гісторыі», якія друкаваліся на старонках газеты ў пачатку 2000-х гадоў. Уважлівы чытач памятае, што менавіта цыкл «Дзесяць мяхоў» стаўся тым калектыўным творам, які парушыў недатыкальную кананічнасць гісторыі Беларусі, сакралізаваную строгім адраджэнскім рухам канца 80-х — пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.

Другая заўважаная адметнасць — вялікая колькасць адсылак да розных, твораў прыгожага пісьменства і мастацтва ў цэлым. Прычым палітра проста ўражвае. Тут і пераствароная шыльтавая песня УПА «Гэй гу, гэй га!» ў выкананні ваяроў Рэчы Паспалітай:

*З пчалінымі раямі і зброяй у руках*
*Батура павядзе нас, зарэе горда сцяг.*




**Сяргей Балахонаў за вонкава жартоўнымі пасажамі хавае брутальную шавіністычную дактрыну: «Гомель — чацверты Рым» (ці «Гомель — пуп зямлі», калі заўгодна)**

*Усыплем мы гарачых у сраку баўдыру —*
*Зласліваму сабаку — маскоўскаму цару.*

І перыфразы цытатаў з гайдаеўскіх камедыяў, і песні Касі Камоцкай, і Броўкаўскі «Пахне чабор»… Але без адпаведнай аўтару шырокай абазнанасці ў гісторыі і зайздроснай эрудыцыі ў агульных пытаннях няма нават мізэрнага сэнсу спрабаваць знайсці нешта смешнае ў грувасткіх тэкстах і спасылках да іх. Хіба сп. Балахонаў выдасць хрэстаматыю з тэкстамі яго крыніцаў і ў дадатак яшчэ ўласную энцыклапедыю… Ды і з імі наўрад ці стане лягчэй прадзіраццa праз гушчар моцна сплеценых ведаў пісьменніка.

Наступная акалічнасць кнігі — краёвы сепаратызм гамельчукоў. Сяргей Балахонаў за вонкава жартоўнымі пасажамі хавае брутальную шавіністычную дактрыну: «Гомель — чацверты Рым» (ці «Гомель — пуп зямлі», калі заўгодна). Патлумачу. Хто б што ні казаў пра адметнасці рэгіёнаў Беларусі — чым болей жыву, тым болей упэўніваюся, што так асобна, як стаяць землі Пасожжа і частка Падняпроў'я, ніхто і блізка не адасобіўся. Калі чарговы патоп знішчыць усё і застанецца толькі Гомельшчына — тамтэйшае людства будзе жыць як і раней — і нават не заўважыць знікнення свету. Найбольш самадастатковыя беларусы — гэта жыхары Гомельшчыны.

Аўтар «Зямлі пад крыламі Фенікса» ненавязліва, але цвёрда даводзіць гэта ці не на кожнай старонцы сваёй кнігі: што ні рака ў летапісах — то Дняпро, што ні вёска — то на ўсходнім Палессі, і Скарына быў у Гомелі, і Амерыку адкрылі банцараўцы — таксама прадстаўнікі даўнейшага насельніцтва любімага (роднага) рэгіёна аўтара, і так далей і болей. Карацей, не верыце, што ўся наша (ды што наша — еўрапейская!) гісторыя круцілася вакол горада над Сажом? Чытайце, пераконвайцеся.

Адно дадам — калі вы нечага не зразумелі, чытаючы тэкст — не дай вам Божа паддацца спакусе і зірнуць на спасылкі ўнізе стронак! Там някемлівых і даверлівых чакае проста феерверк тонкіх жартаў і кепікаў, якія часам нават патлумачыць нельга, а можна проста адчуць скураю — гульню словаў, дасканалую іронію, майстэрскае ўменне абыграць штампы.

І бадай яшчэ адно важнае і адметнае: кніга Сяргея Балахонава цалкам пазітыўная. Не мажорная, але менавіта па-добраму пазітыўная. На яе старонках няма плачу і галасу, хіба лёгкі сум аб мінулых гераічных днях нашае Бацькаўшчыны. Калі вы агораеце амаль 250 старонак, вы неадкладна атрымаеце добры настрой і прышчэпку беларускасці ад шчырага і вясёлага спадара Балахонава.

Застаецца згодна старадаўняга рэцэпта, запісанага ў Хойніцкім раёне ў вёсцы Малыя Псуцічы, дадаць лыжку дзёгцю ў мядок. З відавочных мінусаў — перанасычанасць тэкста размаітымі фактамі, датамі і падзеямі. Непадрыхтаванаму чытачу цяжка (калі, наогул, магчыма) разабрацца — дзе рэаліі, а дзе выдумка аўтара, а менавіта ў гэтым раздзяленні і палягае сэнс твораў і задумы аўтара.

Акрамя таго, кідаецца ў вочы залішні аб'ём простай мовы. Нават філолагам і гісторыкам, звыклым да чытання старажытных тэкстаў, цяжка канцэнтраваць увагу на вялікіх кавалках «першакрыніцаў». На трэцім-пятым аповедзе гэтыя ўстаўкі проста хочацца прапускаць, не ўчытваючыся. Мажліва, іх скарачэнне ці вынясенне ў дадаткі магло б паспрыяць больш цэльнаму ўспрыняццю тэкста.

У фінале дазволю сабе падазрэнне, што пры вышэй пададзеных уводных чытач можа ўявіць сабе, што пад вокладкай яго чакае чарговы клон Насоўскага-Фаменкі з адкрыццямі кшталту таго, што Чынгісхан — ён жа Буда, ён жа Ленін, ён жа Ленан. Але запэўню: нічога і блізка падобнага! Пад крыламі Фенікса ўсё «правільна» і зменена роўна настолькі, наколькі трэба, каб запрасіўшы вас у падарожжа на першых старонках, правесці да канца пакручастымі сцежкамі нашае таямнічае Беларусі.

**Усевалад СЦЕБУРАКА**

## ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

### ЗАБАРОНА МАРКІЗА ДЭ САДА

Даследчыкі даказалі, што знойдзены ў канцы 2011 года трактат пад назвай «Дзіцячыя гульні маркізы Н.» сапраўды належыць пяру маркіза дэ Сада.

Рукапіс прайшоў усе патрэбныя працэдуры, аўтарства пацвердзіў галоўны знаўца творчасці дэ Сада прафесар Сарбонскага ўніверсітэта Эмілія Турвіль, якая надрукавала абгрунтаванне ў парыжскім часопісе «L'Homme et la société».

Трактат мусіў неўзабаве выйсці асобным выданнем пад рэдакцыяй усё той жа Эміліі Турвіль, аднак супраць гэтага паўстала не толькі большая частка прафесуры філалагічнай кафедры Сарбонскага ўніверсітэта, але і грамадзянская супольнасць... На сённяшні момант падрыхтоўка кнігі спыненая і адкладзеная на нявызначаны тэрмін. На афіцыйным сайце выдавецтва такая затрымка каментуецца наступным чынам: «У новым трактаце маркіза дэ Сада грамадства бачыць небяспеку для маралі і лічыць, што паспешлівае выданне твора можа прывесці да фатальных наступстваў».

«Суполка жанчын Францыі» патрабуе знішчэння рукапісу: яе кіраўнікі лічаць, што нявінны на першы погляд характар твора можа сведчыць пра яго глыбінную разбэшчанасць і безліч схаваных непрыстойных сэнсаў…

Дакладна вядома, што пачытаць знойдзены нядаўна трактат аматары творчасці маркіза дэ Сада да канца 2013 года не змогуць. Далейшы лёс твора пакуль невядомы. Найбліжэйшым часам Эмілія Турвіль плануе звярнуцца да Міжнароднай асацыяцыі філолагаў і збіраць подпісы за адмену забароны друкаваць рукапіс.

### АЎКЦЫЁН ПА ФОЛКНЭРУ

На аўкцыёне «Sotheby's» упершыню ў гісторыі будуць выстаўлены лісты, замалёўкі і накіды лаўрэата Нобелеўскай прэміі, амерыканскага пісьменніка Уільяма Фолкнэра.

Меркаваная экспертная ацэнка пісьменніцкай калекцыі складае больш за 2 млн. даляраў ЗША. Адмысловую цікавасць уяўляе квітанцыя пра атрыманне пісьменнікам Нобелеўскай прэміі і сам Нобелеўскі медаль Фолкнэра, а прыемнай нечаканасцю для літаратуразнаўцаў стане раней неапублікаванае 15-старонкавае апавяданне Фолкнэра, хутчэй за ўсё напісанае ім яшчэ ў гады студэнцтва. Сярод дакументаў — лісты Фолкнэра да жонкі, датаваныя 1935 годам: з тых часоў, калі пісьменнік працаваў у Галівудзе над кінасцэнарамі.

Падборка гэтых унікальных дакументаў, якія лічыліся беззваротна згубленымі, нядаўна была выпадкова выяўлена спадчыннікамі Фолкнэра ў адрыне на яго ферме ў штаце Вірджынія.

Па словах віцэ-прэзідэнта аўкцыённага дома «Sotheby's» Джасціна Кэдуілла, гэтыя дакументы могуць прыадчыніць не надта вядомыя бакі жыцця вялікага амерыканскага пісьменніка.

Творчасць Уільяма Фолкнэра назаўжды злучана з амерыканскім Поўднем. Прыдуманая ім акруга Ёкнапатафа — гэта сама сутнасць амерыканскай нацыі, прадстаўленая ў скандэнсаваным выглядзе. Нобелеўская прэмія была прысуджана У. Фолкнэру ў 1949 годзе.

### ПАРЫЖСКІ САЛОН

У сталіцы Францыі прайшоў Парыжскі кніжны салон. У секцыі дэтэктыўных раманаў амаль сапраўдныя паліцыянты праводзілі амаль сапраўдны агляд месца злачынства: агароджвалі пляцоўку, здымалі адбіткі пальцаў і абводзілі крэйдай сілуэт на падлозе. Менавіта так кампанія «SNCF» (Французскія чыгункі) абставіла ўручэнне прэміі за лепшую дэтэктыўную кнігу.

Прыкметным госцем на Парыжскім кніжным салоне-2013 стала літаратура Румыніі: у Францыі цяпер перакладаюць шмат румынскіх пісьменнікаў, іх кнігі незвычайна папулярныя; шмат у чым дзякуючы такім імёнам, як Эжэн Іянэска і Мірча Эліадэ. Але і да сучаснай румынскай літаратуры цікавасць у французскіх чытачоў высокая. Французы наогул шмат чытаюць аўтараў з краін былога сацлагера: у кнігарнях Парыжа поўна кніг аўтараў з былой ГДР.

Яшчэ адным фаварытам Парыжскага салона была сталіца Каталоніі Барселона, якая сёлета абвешчана горадам-госцем, — і тое вылілася ў візіт на кірмаш-выставу больш за восемдзесят каталонскіх аўтараў.

Хоць кнігі ў Францыі выходзяць ва ўсіх трох фарматах: папяровым, электронным і аўдыё, французы не вельмі любяць чытаць з букрыдэраў і планшэтаў, е-кнігі займаюць пакуль толькі два адсоткі французскага кніжнага рынку.

І нельга не адзначыць французскую падтрымку «дзіцячага чытання»: школьнікі, якія цэлымі класамі наведвалі выставу, атрымлівалі ад уладаў рэгіёна Ці-дэ-Франс сертыфікат на дваццаць еўра, які на выставе можна было абмяняць на ўпадабаныя кнігі.

### ШАЎЧЭНКА Ў БУДАПЕШЦЕ

У Будапешце непадалёк ад Дуная, дзе ўсталяваны помнік Тарасу Шаўчэнку, афіцыйна адкрылася плошча імя ўкраінскага паэта.

У цырымоніі адкрыцця ўдзельнічалі прадстаўнікі вугорскага ўрада, мэры Будапешта, а таксама ўкраінскай дыяспары і пасольства Украіны.

«Назваўшы безыменны майдан імем Тараса Шаўчэнкі вугорцы аддаюць даніну павагі і пашаны вялікаму сыну і прароку ўкраінскага народа», — сказаў украінскі пасол ва Угоршчыне Юрый Мушка.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў gazeta.ua, lenta.ru, Газета.Ru, prajdzisvet.org і litakcent.com**

ПРЭМІІ

# ПРЭМІЯ АСТРЫД ЛІНДГРЭН

**Чарговым лаўрэатам прэміі памяці Астрыд Ліндгрэн (Astrid Lindgren Memorial Award) стала аргенцінскі ілюстратар і аўтарка кніг з малюнкамі Марысоль Місента, таксама вядомая як Ісоль. Пра гэта паведамляецца на афіцыйнай старонцы ўзнагароды.**



Спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду за 2012 год быў апублікаваны ў кастрычніку. У яго ўвайшлі 207 аўтараў і ілюстратараў з 67 краін. Журы палічыла, што менавіта Місента заслугоўвае ўзнагароды, паколькі «яе працы поўныя энергіі і яркіх эмоцый», акрамя таго, «нават цёмныя бакі жыцця яна асвятляе з гумарам і лёгкасцю».

Марысоль Місента нарадзілася ў 1972 годзе ў Буэнас-Айрэсе. Яе першая кніга выйшла ў 1997-м: кранальны аповед пра хлопчыка (які выявіў нямала падобных рыс у сябе і свайго сабакі) завабаваў сэрцы чытачоў у многіх краінах свету. Выступаючы і ў ролі аўтара, і ў якасці ілюстратара сваіх твораў, Ісоль апублікавала больш дзесяці кніг.

Урачыстая цырымонія ўручэння прэміі Ліндгрэн адбудзецца ў Стакгольме 27 траўня 2013 года.

Прэміяй Астрыд Ліндгрэн узнагароджваюцца за заслугі ў галіне дзіцячай літаратуры. Яна была заснавана ў Швецыі ў 2002 годзе (у год смерці пісьменніцы). За час існавання прэміі яе лаўрэатамі сталі Морыс Сендак, Філіп Пулман і Шон Тан.

Астрыд Ліндгрэн — выдатная шведская пісьменніца, аўтар прыгодаў пра Малога і Карлсана і іншых дзіцячых кніг, якія сёння перакладзены на больш чым 90 моў. У 2002 годзе, пасля смерці Ліндгрэн, урад Швецыі заснаваў міжнародную прэмію яе памяці. Узнагарода лічыцца адной з найбольш аўтарытэтных у свеце. Лаўрэат прэміі Астрыд Ліндгрэн атрымлівае матэрыяльную ўзнагароду ў памеры пяці мільёнаў шведскіх крон (каля 770 тысячаў даляраў ЗША). Гэта адзін з самых буйных прызавых фондаў літпрэмій.

# «АЗІЯЦКІ БУКЕР»

**Тан Тван Энг стаў першым малайзійскім пісьменнікам, які атрымаў узнагароду The Man Asian Literary Prize, «азіяцкага Букера». Як паведаміла «Agence France-Presse», Тан Тван Энг атрымаў літаратурную прэмію і 30 тысячаў даляраў ЗША за раман «Сад вечаровых туманаў».**

Журы прэміі адзначыла стылістычныя вартасці кнігі, якая расказвае пра Малайзію падчас японскай акупацыі. Раман Тан Тван Энга ў 2012 годзе таксама ўвайшоў у шорт-ліст брытанскага Букера, аднак узнагароду ў выніку атрымала пісьменніца Хілары Мэнтэл.

Акрамя Тан Тван Энга на «азіяцкага Букера» прэтэндавалі яшчэ чатыры пісьменнікі, у тым ліку Архан Памук з раманам «Дом цішыні» (які на ангельскую быў перакладзены ўпершыню ў мінулым годзе, хоць быў напісаны яшчэ ў 1983-м).

The Man Asian Literary Prize уручаецца пісьменнікам з краін Азіі, чые творы былі перакладзеныя на ангельскую або напісаныя на ёй цягам папярэдняга каляндарнага года.

Прэмія ўпершыню была ўручаная ў 2007-м, яе першым уладальнікам стаў кітайскі пісьменнік Цзян Ронг за раман «Ваўчыны татэм».

У 2013 годзе прэмія зменіць назву і будзе называцца Asian Literary Prize, бо група кампаній Man яе больш не спансуе.

# ПРЭМІЯ «ТРЫУМФ»

**Пасля двухгадовага перапынку аднаўляецца расійская прэмія «Трыумф», якая ўручаецца «за выдатны ўнёсак у айчынную культуру». Пра гэта газеце «Известия» распавялі мастацкі кіраўнік прэміі Зоя Багуслаўская, удава паэта Андрэя Вазнясенскага, і прэзідэнт фонда «Трыумф» Рафаэль Філінаў.**

У 2013 годзе прэмія «Трыумф» адсвяткуе свой 20-гадовы юбілей. Упершыню яна была ўручана ў 1993-м, з моманту свайго заснавання 18 гадоў фінансавалася Барысам Беразоўскім, пасля чаго фінансавыя абавязкі ўзяў на сябе Р. Філінаў.

У 2011-м фундатары адмовіліся падтрымліваць «Трыумф» з-за сувязі прэміі з імем алігарха. З-за гэтага прэмія не ўручалася два гады.

Цяпер арганізатары прэміі таксама шукаюць фундатараў. Як распавяла Зоя Багуслаўская, некалькі чалавек «вельмі паважаных, цалкам квітнеючых», ужо прапанавалі фінансаваць прэмію, аднак пры ўмове прыбраць прозвішча Беразоўскага, заснавальніка фонда «Трыумф». Багуслаўская адмовілася.

У тым выпадку, калі фундатары не знойдуцца, прэмія ўсё адно будзе ўручана. Па словах Багуслаўскай, члены журы вырашылі скласціся на правядзенне цырымоніі, а самі прэміі выдаць без узнагароды: толькі дыплом і статуэтку. Такую ідэю падтрымала журы «Трыумфа»: сатырык Міхаіл Жванецкі, дырэктар ДМІІ імя А. Пушкіна Ірына Антонава, рэжысёр Вадзім Абдрашытаў і іншыя.

Ранейшы памер грашовай узнагароды прэміі — каля 50 тысячаў даляраў ЗША. Усе пераможцы таксама атрымліваюць статуэтку «Залатога эльфа», выкананую па эскізе Эрнста Неізвеснага.

# ГОРКАЎСКАЯ ПРЭМІЯ

**Названыя ўладальнікі Горкаўскай літаратурнай прэміі, ганаровым старшынёй журы якой з'яўляецца Мікіта Міхалкоў. Узнагароды ўручылі ў пяці намінацыях.**

Юры Пяткевіч з Беларусі быў ганараваны прэміяй у празаічнай намінацыі за расійскамоўную кнігу «З птушкай на галаве». Лаўрэатам у паэтычнай намінацыі стаў Анатоль Багатых.

Сёлета ў склад журы ўвайшлі пісьменнікі і літаратуразнаўцы Аляксей Варламаў, Павел Басінскі, Дмітрый Шэвараў, Аляксандр Якаўлеў, Генадзь Краснікаў. Прэмія была заснавана ў 2005 годзе Расійскім фондам культуры і выдавецкім домам «Литературная учёба». У 2008 годзе ў склад заснавальнікаў прэміі ўвайшоў Міжрэгіянальны грамадскі фонд.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 мая, пятніца

**Беларусь 1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00, 12.10** Камедыйная меладрама «Каханне і галубы» (СССР).
**13.20** Сфера інтарэсаў.
**13.40** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна).
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 22.40** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлестужка АТН «Сімвал Перамогі».
**22.05** Дыялогі пра цывілізацыю.
**23.25** Дзень спорту.
**23.40** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

**ОНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Міміно».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Урачыстае адкрыццё новай сцэны Марыінскага тэатра.
**23.00** Прэм'ера. «Марыінскі тэатр і Валер Гергіеў».
**00.45** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Адмысловы праект з М. Задорнавым».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Выкрадальнікі кніг». Расія, 2003 г.



**15.35** «Хораша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Ракавая красуня». Францыя, 2006 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**23.55** «Баец». Серыял.
**00.45** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.35** Фільм «Каханне жыве тры гады». Францыя - Бельгія, 2012 г.

**Беларусь 2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Міф пра ідэальнага мужчыну» (Расія). 2-я серыя.



**10.20** Час футболу.
**11.10** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 3-я серыя.
**13.00** Меладраматычны серыял «Двайняты» (Расія).
**15.00** Мазгавы штурм.
**15.35** Беларуская кухня.
**16.10** Рэгіянальная праграма.
**17.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Чэхія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.35** Спартовая камедыя «Неваляшка» (Расія).
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Псіхалагічная драма «Белы алеандр» (ЗША).
**23.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.30** Арэна.
**01.05** Фактар сілы.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Гараджане».
**08.40** Фільм «Пернікі з бульбачкі» (2011 г.).
**10.40** Тэлесерыял «Ісаеў».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.20** «Рамантычнае вандраванне. Шэдэўры сусветнай класікі». Юбілейны канцэрт.
**15.55** «Крывое люстэрка».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** «Крывое люстэрка». Працяг.
**18.00** Святочны канцэрт.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.35** Фільм «Маша і Мядзведзь» (2013 г.).
**22.25** Навіны - Беларусь.
**22.35** Фільм «Будзе светлым дзень» (2012 г.).

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.15** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Вострасюжэтны серыял «Бомж».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Бомж» (Працяг).
**14.20** «Справа густу».
**14.45** Дэтэктыўны серыял «Бігль».
**19.00** Сёння.
**19.20** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Працяг).
**21.55** Дэтэктыў «За межамі закона».
**23.40** Вострасюжэтны фільм «Хованкі».

**МИР**

**05.00** Дак. фільм «Скарбы Эрмітажа».
**05.30** Мультфільмы.
**07.40** Маст. фільм «Падкідыш».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Зроблена ў СССР».
**09.35** Маст. фільм «Матрос з «Каметы».
**11.15** Праграма «Зроблена ў СССР».
**11.45** Тэлесерыял «Сінія ночы».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.15** Тэлесерыял «Сінія ночы».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.15** Тэлесерыял «Бухта страху».
**21.50** Маст. фільм «Ток-Радыё».
**23.50** Маст. фільм «Матрос з «Каметы».
**01.30** Тэлесерыял «Рака-мора».
**03.10** Маст. фільм «Падкідыш».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 1 серыя.
**10.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.20** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 1 серыя.
**15.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.15** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**16.50** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**17.05** «Царква на мяжы», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**17.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**17.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**22.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.05** Студыя «Белсат».
**00.35** ПраСвет.
**01.00** Аб'ектыў.
**01.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.45** «Містэрыя Божае пакуты на Познанскай цытадэлі», 2007 г., Польшча.

## 4 мая, субота

**Беларусь 1**

**05.45** Трагікамедыя «Пра беднага гусара замоўце слова» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**14.00** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Гумарыстычная праграма «Трыццаць гадоў лёгказасваяльнага гумару» (Расія).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Народная камедыя «Белыя Росы» (СССР).
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Слухаючы цішыню» (Расія).
**23.40** «Не толькі зброяй». Дакументальны фільм (Беларусь).
**23.55** Святочнае набажэнства. Прамая трансляцыя.
**02.25** Дзень спорту.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Прэм'ера. «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Мультфільмы.
**13.20** Камедыя «Дзяўчына без адрасу».
**15.00** Прэм'ера. «Цудатворцы ХХ стагоддзя».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік».
**17.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**17.50** «Куб».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** «Вялікдзень».
**01.00** «Святыя ХХ стагоддзя».

**СТВ**

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.00** «Анфас».
**07.15** Фільм «Ракавая красуня». Францыя, 2006 г.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.50** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Вышыня». СССР, 1957 г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Летні дождж». Расія, 2002 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Прэм'ера. Фільм «Тры метры над узроўнем неба. Я цябе хачу». Іспанія, 2012 г.



**22.30** «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.45** Фільм «Маё апошняе танга». Іспанія - Аргентына, 1960 г.

**Беларусь 2**

**07.20** Мультфільмы.
**08.00** Фільм-дзецям. «Ціхія троечнікі» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**09.10** Пазакласная гадзіна.
**09.30** Тэлебарометр.
**09.35** Спартовая камедыя «Неваляшка» (Расія).



**11.30** Наперад у мінулае.
**12.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.40** Беларуская кухня.
**13.15** Мазгавы штурм.
**13.50** Трагікамедыя «Простыя рэчы» (Расія).
**16.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Расія - Латвія. Прамая трансляцыя.
**18.30** Фактар сілы.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Імперыя песні.
**22.15** Трагікамедыя «Простыя рэчы» (Расія).
**00.20** Драма «Цуд» (Расія).

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Будзе светлым дзень» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.05** Тэлесерыял «Ісаеў».
**14.00** Весткі.
**14.15** Тэлесерыял «Ісаеў». Працяг.
**14.35** «Пояс Багародзіцы. Пасляслоўе».
**15.30** Фільм «Падаруй мне нядзелю» (2012 г.).
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.35** Фільм «Падаруй мне нядзелю» (2012 г.). Працяг.
**23.30** Трансляцыя Велікоднага набажэнства.

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Жывуць жа людзі!».
**14.00** Прамая трансляцыя з Ерусаліма.
**15.00** «Вочная стаўка».
**15.55** Вострасюжэтны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Працяг).
**01.10** Фільм «Адкупленне».

**МИР**

**05.00** Дак. фільм «Скарбы Эрмітажа».
**05.30** Мультфільмы.
**07.35** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял Смешарыкі».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «На шашлыкі».
**09.40** Праграма «Усюды жыццё».
**10.10** Тэлесерыял «Спас пад бярозамі».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Тэлесерыял.
**22.30** Вялікдзень Хрыстовы. Прамая трансляцыя».
**01.00** Тэлесерыял «Спас пад бярозамі».
**04.20** Праграма «Ўсюды жыццё».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах.
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** Маю правы (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.50** Казкі для дзетак: «Падарожжа Цюхці, поўнае прыгодаў», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры Яблыкі», «Пацюкі».
**12.20** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 1 серыя.
**13.10** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**13.55** «Навенькая», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**14.45** «Сенсацыі ХХ стагоддзя».
**15.35** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1, 2.
**16.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.55** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**17.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 18 серыя.
**18.10** Еўропа сёння.
**18.35** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 29.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Дарога Статкевіча», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**21.45** Суботні сеанс: «Дама з камеліямі», меладрама, 1995 г., Польшча.
**23.35** ПраСвет.
**00.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.15** «Баравічок», дак. фільм. 2007 г., Беларусь.

## 5 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.15** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Філарэта на Вялікдзень.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Трагікамедыя «Пра беднага гусара замоўце слова» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Дакументальны фільм «Акадэмія поспеху» (Беларусь).
**15.50** Анімацыйны фільм « Ілля Мурамец і Салавей-Разбойнік « (Расія).
**17.20** Заўтра - гэта мы!
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.00** Камедыя «На мора!» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальная камедыя «Пасля прачытання спаліць» (ЗША-Францыя-Вялікабрытанія).
**00.15** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Фільм «Калі можаш, прабач…».
**14.00** «Муслім Магамаеў. Сэрца на снезе».
**15.00** Асяроддзе пасялення.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Фільм «Жаніх па аб'яве».
**18.20** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Валерыі.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца ТБ».
**22.55** Прэм'ера. Камедыя «Таткі 2».
**00.45** Фільм «Рыта».

### СТВ

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Тры метры над узроўнем неба. Я цябе хачу». Іспанія, 2012 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Мачаха». СССР, 1973 г.
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Далёка па суседстве». Бельгія - Люксембург - Францыя - Германія, 2010 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Серафіна». Францыя - Бельгія, 2008 г.

### Беларусь 2

**07.25** Мультфільмы.
**08.05** Фільм-дзецям. «Ціхія троечнікі» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**09.15** Пазакласная гадзіна.
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Эксцэнтрычная камедыя «Дванаццаць крэслаў» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**12.35** Пра мастацтва.
**13.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь - Славенія. Прамая трансляцыя.
**15.35** «Першы». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Шахцёр - Белшына. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36,.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Манчэстар Юнайтэд - Чэлсі.
**23.50** Рамантычная меладрама «Каханне і піца» (ЗША).

### РОССИЯ

**07.00** Лірычная камедыя «Моцны шлюб». 2012 г.
**08.40** Фільм «Маша і Мядзведзь» (2013 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанорама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Мой тата - ідэаліст».
**14.00** Весткі.
**14.15** Велікоднае інтэрв'ю Патрыярха Кірыла.
**14.45** «Адысея адной сям'і. Няма нічога ў жыцці выпадковага».
**15.45** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**16.35** Фільм «Мама напракат» (2010 г.).
**18.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі.
**20.35** Фільм «Кожны за сябе» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.30** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Мой грэх».
**15.10** «Вочная стаўка».
**16.05** Вострасюжэтны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Працяг).
**01.05** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Дак. фільм «Скарбы Эрмітажа».
**05.30** Мультфільмы».
**07.35** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Тэлесерыял «Смешарыкі».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Даведнік».
**09.40** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**10.10** Тэлесерыял «Спас пад бярозамі».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Развітальнае рэха».
**20.00** Спецпраект «Разам».
**20.30** Тэлесерыял «Развітальнае рэха».
**21.20** Маст. фільм «Чалавек у фотэлі».
**23.20** Тэлесерыял «Спас пад бярозамі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 18 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.55** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.20** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 18 серыя.
**12.50** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**13.35** «Ночы і дні», серыял: 11 серыя.
**14.30** «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**15.30** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**15.45** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Dali».
**16.00** «Дама з камеліямі», меладрама, 1995 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Дарога Статкевіча», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца тэлеграмы Цымэрмана».
**19.30** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Прачытаўшы, спаліць!», камедыя, 2009 г., ЗША.
**00.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 29.
**00.50** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Сімфанічны канцэрт: ч. 1.
**01.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

СЕПАРАТЫЗМ

# ЦІ РАЗВАЛІЦЦА АЎСТРАЛІЯ?

Алег НОВІКАЎ

**Штат Куінслэнд адмаўляецца падпісваць закон, як таго патрабуе Камбера, пра новыя правілы для ўладальнікаў англійскага трону.**

Нагадаем, што англійская Палата лордаў у хуткім часе павінна прагаласаваць за папраўкі ў закон, адпаведна якому будучая дачка прынца Уільяма і Кэйт Мідлтан можа быць каралевай. Калі пасля ў сям'і народзіцца хлопчык, старэйшая сястра ўсё роўна захавае прыярытэтныя правы на трон.




Як вядома, англійскі кароль (каралева) фармальна з'яўляецца галавою не толькі Вялікабрытаніі, але і суб'ектаў, якія ўваходзяць у склад так званай Брытанскай садружнасці.

Большасць з грамадзян краін Брытанскай садружнасці, калі меркаваць па прэсе, абыякаваназіраюць за працэсамі ў Лондане. Брытанскі кароль (каралева), як вядома, — сімвалічны інстытут, які не ўплывае на адміністратыўныя рашэнні. Аднак у Аўстраліі, дзе моцны рэспубліканскі рух, дэбаты ў Лондане сталі нагодай для новых заклікаў да выхаду з-пад дыктату Вялікабрытаніі. У якасці адказу на актыўнасць рэспубліканцаў урад Куінслэнда заявіў, што прыме асобны біль аб правах, як дазволіць штату заставацца манархіяй нават у выпадку пераходу Аўстраліі на рэспубліканскі лад. Такая мера, па словах кіраўнікоў Куінслэнда, падкрэсліць сувязь народу штату з каралеўскім домам Віндзараў.

Між тым, федэральны ўрад не верыць у прыліў манархісцкіх настрояў у Брысбене (сталіца Куінслэнда). На думку каментатараў, гаворка ідзе пра спробу адрадзіць у штаце сепаратысцкі рух, які назіраўся тут у 1970-я гады. Тады Куінслэнд спрабаваў дабіцца большага суверэнітэту, аднак вышэйшы суд заблакаваў такія праекты.

Так ці інакш, прывід сепаратызму, які з пачаткам крызісу гуляе па Еўропе, ціпер, здаецца, дабраўся да Аўстраліі, якая, як вядома, з 1900 года з'яўляецца федэрацыяй шасці штатаў. У прынцыпе, Аўстралія сутыкалася з феноменам сепаратызму і раней. Напрыклад, на пачатку мінула стагоддзя жыхары залатых руднікоў на захадзе краіны патрабавалі ў Лондана стварэння свайго штату. Аднак найбольшы ўздым руху прыйшоўся на часы Вялікай дэпрэсіі 1920-х гадоў. Тады ў штаце Заходняя Аўстралія ўзнік рух, які патрабаваў выхаду тэрыторыі са складу федэрацыі і стварэння брытанскага дамініёну Заходняя Аўстралія.

На думку аўтараў праекту, для гэтага былі аб'ектыўныя прычыны. Па сутнасці, Заходняя Аўстралія была ізаляванай ад цэнтру камунай. У тутэйшых не было сродкаў, каб падарожнічаць, што рабіла іх «заложнікамі тыраніі прасторы». Нават спартовае жыццё мела выключна лакальны характар. Акрамя таго, Лондан праводзіў тут актыўныя праграмы па перасяленні. У выніку кожны пяты жыхар рэгіёну напрыканцы 1920-х быў народжаны за мяжой Аўстраліі і па сутнасці не разумеў, што такое быць аўстралійцам. Стварэнне асабістай ідэнтычнасці паўплывала на палітыкум, які бачыў перспектывы для краю ў развіцці прамых кантактаў з метраполіяй.

Прымітыўная канцэпцыя паляпшэння дабрабыту жыхароў Вестраліі (так часта называўся штат) за кошт большай дыстанцыі ад Канберы ўзнікла яшчэ ў пачатку 1920-х гадоў. Аднак зеніту папулярнасці ідэя дасягнула з пачаткам крызісу, які моцна ўдарыў па лакальнай эканоміцы: беспрацоўе ў Пертэ, сталіцы штату, на той час складала каля 30 працэнтаў.

У 1930 годзе адбыліся ўстаноўчыя зборы Лігі за дамініён. Цікава, што Ліга за дамініён не была палітычнай арганізацыяй. Хутчэй, гэта быў шырокі грамадскі рух, які выкарыстоўвалі кансерватыўныя колы ў барацьбе з лейбарыстамі. На думку гісторыкаў, па сутнасці Ліга за дамініён аказалася лакальным аналагам такіх тагачасных радыкальных палітычных рухаў, як фашысты або камуністы, якія ў той час актывізаваліся ў іншых аўстралійскіх штатах.

У адказ на буйную дзейнасць Лігі за дамініён палітыкі ў Канберы і прафсаюзы заснавалі рух федэралістаў, які намагаўся давесці, што ў часы крызісу ўсім жыхарам Аўстраліі трэба трымацца разам.

8 красавіка 1933 года ў штаце адбыўся рэферэндум аб выхадзе са складу Аўстраліі. 68 працэнтаў падтрымалі гэту прапанову. Дэлегацыя мясцовага ўраду адразу пасля абвяшчэння вынікаў галасавання адправілася ў Лондан, каб уладзіць фармальнасці наконт абвяшчэння краю дамініёнам. Па іх прыбыцці на берага Тэмзы пры брытанскім урадзе была заснавана спецыяльная камісія, якая 18 месяцаў радзілася, і ў выніку вырашыла пакінуць усё так, як было. Дэлегацыя сепаратыстаў вярнулася на радзіму з пустымі рукамі. Цяжка сказаць, чым усё гэта скончылася б, аднак менавіта ў гэты час эканоміка пачала выходзіць з крызісу. Сепаратысцкія забабоны былі імкліва забытыя, а ў 1936 годзе сама Ліга за дамініён прыпыніла існаванне.

Аднак фронда перыферыйных штатаў мела месца і пазней. Звычайна, цэнтр крытыкавалі за тое, што ўнёсак штатаў у нацыянальную эканоміку ніяк не ўплывае на іх ролю ў працэсе прыняцця палітычных рашэнняў. Узнік нават тэрмін «Штат Папялушкі» — так называюць рэгіёны, якія скардзяцца на тое, што іх абірае цэнтр. Праўда, комплексы Папялушкі часта набываюць папулярны характар. Так, у 1970-я гады ў тым жа Куінслэндзе ўзніклі забабоны супраць працоўных эміґрантаў з поўдня, якіх называлі ледзь не «мексіканцамі». У сваю чаргу, жыхары поўдня пачалі ўжываць у дачыненні да Куінслэнда ксенафобскі тэрмін «глыбокая поўнач», разумеючы пад гэтым нешта вельмі правінцыйнае.

У Заходняй Аўстраліі ў 1974 годзе незадаволеныя тарыфнай палітыкай ураду мясцовыя прадпрымальнікі заснавалі рух сепаратыстаў, які да таго, як яго ахапіла стагнацыя, быў нават прадстаўлены ў сенаце. Апошні раз сепаратысцкія настроі праявіліся ў чэрвені 2011 года, калі Норман Мур, чыноўнік з Заходняй Аўстраліі, заклікаў да выхаду штату з федэрацыі і стварэння саюзу з Кітаем і ЗША.

Адной са сталых крыніц сепаратызму ў Аўстраліі таксама з'яўляецца вечны рух за стварэнне новых штатаў, што, дарэчы, дазволена 4-м параграфам Канстытуцыі. У тым жа штаце Куінслэнд існуе рух за стварэнне штату Паўночны Куінслэнд. Патрабуюць утварэння свайго штату і абарыгены, якія нават стварылі ў 1990 годзе часовы ўрад. Праўда, межы гэтага штату не зразумелыя, паколькі некаторыя актывісты руху абарыгенаў баяцца, што вызначэнне межаў штату будзе значыць адмову ад іншых тэрыторый, якія ў свой час захапілі белыя. Дасюль не зніклі аматары зрабіць штатам Аўстраліі Новую Зеландыю. Нейкі час лічылася, што так і павінна быць. Напрыклад, у 1908 і 1912 гадах новазеландцы выступалі на Алімпійскіх гульнях у складзе каманды Аўстраліі.

Для поўнага ўяўлення пра аўстралійскі сепаратызм трэба ўзгадаць Княства Хат-Рывер. Хат-Рывер было створана ў 1970 годзе, калі фермер Леанард Джордж Кэслі фармальна аддзяліўся ад Садружнасці Аўстраліі з прычыны спрэчкі пра квоты на пшаніцу. Пасля правінцыя была абвешчана княствам, якое зараз направа і налева раздае пашпарты і нават друкуе грошы. МЗС Аўстраліі некалькі разоў папярэджвала іншаземцаў, што княства і яго князь — гэта чыстая афера, аднак ніхто не замінае князю і далей займацца падробкамі. Хутчэй за ўсё, у Канберы лічаць, што сепаратысцкія настроі — элемент аўстралійскай палітычнай культуры.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяжка зразумець, на які тэхналагічны ўклад выйшла беларуская мадэрнізацыя, якая, як адзначыў Лукашэнка, ужо завяршаецца. На шосты, дзе ключавым фактарам з'яўляюцца нанатэхналогіі, біятэхналогіі, клеткавыя тэхналогіі? Не падобна. Можа, Беларусь прарвалася да пятага ўкладу, сімвалам якога з'яўляецца мікраэлектроніка, а таксама развітая электронная прамысловасць, праграмнае забеспячэнне, робатабудаванне і г.д.? Пакуль мы можам казаць пра тое, што ў выніку «беспрапыннай мадэрнізацыі» Лукашэнкі беларуская эканоміка ўпэўнена дэградуе да ўзроўню чацвёртага тэхналагічнага ўкладу — аўтамабілебудаванне, перапрацоўка нафты, трактарабудаванне, вытворчасць тавараў прыцягляга карыстання, арганічная хімія. Канструяванне ўсё больш магутных рухавікоў унутранага згарання — вяршыня дадзенага ўкладу.

**«Politobzor» (Расія)**

Бягучы ўзровень фінансавых рэзерваў не гарантуе Мінску абароны ад верагодных знешніх і ўнутраных крызісаў. Беларусь знаходзіцца ў цяжкай сітуацыі. Краіна дасягнула піка выплат замежнага дзяржаўнага доўгу і мае патрэбу ў 3,1 мільярда долараў, каб пагасіць свае ранейшыя пазыкі і дзяржаўныя еўрабонды. Па меры таго, як перспектывы новай пазыкі МВФ застаюцца змрочнымі, беларускі ўрад робіць стаўку на свайго старога выратавальніка — Расію.

**«Financial Times» (Вялікабрытанія)**

Аналітыкі ў Мінску называюць абвінавачанне чыноўнікаў у дрэнным стане спраў у краіне і кампанію па выяўленні карупцыянераў у асяроддзі высокіх кіраўнікоў «унутраным піярам», разлічаным на папярэджанне сацыяльнай незадаволенасці. Аляксандр Лукашэнка неаднаразова скарыстаўся гэтым ходам і ў гэтым выступе (штогадовае пасланне).

**BBC (Вялікабрытанія)**

Інвестыцыі Беларусі ў развіццё порта ў Клайпедзе нельга ацэньваць як звыклы «маятнікавы рух» Мінска ад Масквы да Брусэля. Гэта яснае сведчанне таго, што беларускае кіраўніцтва разлічвае на паляпшэнне адносін з ЕС, зняцце кропкавых візавых і эканамічных санкцый з боку Захаду і на дапамогу Літвы, якая будзе старшынстваваць у ЕС у другой палове гэтага года. Вільня актыўна ўзялася за нармалізацыю кантактаў Мінска і Брусэля. Літва знайшла спосаб, чым прыцягнуць Мінск да супрацоўніцтва. Беларускім суб'ектам гаспадарання на бізнэс-форуме ў Клайпедзе былі прапанаваны выгадныя двухбаковыя здзелкі, так што і бізнэсмэны засталіся ў прыбытку, і беларускія інвестыцыі прыйшлі ў Літву. У той жа час літоўскія палітыкі не адступілі ад галоўнай умовы ЕС: дыялог Беларусі з ЕС магчымы толькі пасля таго, як палітвязні выйдуць на свабоду.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Нафтавае перамір'е паміж Расіяй і Беларуссю падыходзіць да канца. Нягледзячы на тое, што Аляксандр Лукашэнка і прэм'ер Міхаіл Мяснікоў настойваюць на павелічэнні паставак расійскай нафты на беларускія НПЗ да 23 мільёнаў тон, дамагчыся гэтага будзе вельмі складана. Канфлікт вакол паставак нафты і нафтапрадуктаў — не адзіны момант, які паўплываў на рашэнне Расіі паставіць Беларусі «нафтавы ультыматум». Як распавяла крыніца ў кабінеце міністраў, Беларусь усімі магчымымі шляхамі імкнецца да зацягвання працэсу рэалізацыі сумесных праектаў, высоўваючы новыя і змяняючы ўмовы ранейшых дамоўленасцяў.

**«Известия» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. РАСІЯ ПАВІННА АДКАЗАЦЬ ЗА ЗАБОЙСТВА

Малдаўскія праваабаронцы пачалі кампанію за тое, каб Масква ўзяла адказнасць за масавае забойства румын, якія спрабавалі перайсці савецка-румынскую мяжу ў красавіку 1941 года. Праз Фентына Албэ (цяпер украінская вёска Белыя Крыніцы) намагаліся збегчы румыны Паўночнай Букавіны, якая, як і Бесарабія, стала часткай СССР у чэрвені 1940 года. Галоўнай прычынай масавага сыходу сталі першыя выпадкі дэпартацыі румын як патэнцыйна палітычна нелаяльных элементаў у Сібір. Усяго да пачатку вайны СССР і Германіі было дэпартавана каля 28 тысяч румын. Каб спыніць рух бежанцаў, у красавіку 1941-га савецкія вайскоўцы ўжылі зброю. Па розных дадзеных, у выніку расправы было забіта каля 3 тысяч чалавек. Два гады таму румынскі парламент прызнаў дзень 1 красавіка Днём памяці рэпрэсаваных румынаў у СССР. Пакуль МЗС Расіі ігнаруе патрабаванні Кішынёва і Бухарэста. У сваю чаргу, расійскія гісторыкі звяртаюць увагу на тое, што Румынія таксама не выпускала ў анексаваную СССР Малдову і Букавіну выхадцаў з гэтых рэгіёнаў. Так, 30 чэрвеня 1940 года ў горадзе Галац румынскімі памежнікамі было паранена каля 600 малдаван, якія намагаліся вярнуцца на радзіму.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ЕЎРАКРЫТЫКІ МОГУЦЬ ПРАЙСЦІ Ў БУНДЭСТАГ

У ФРГ праведзены першыя замеры папулярнасці заснаванай 14 красавіка партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая выступае за выхад краіны з зоны еўра. Вынікі не абяцаюць нічога добрага для партыі Меркель, што манапольна выказвае погляды правага электарату, на які перш за ўсё і арыентуецца «Альтэрнатыва для Германіі». На цяперашні дзень за AfD збіраюцца галасаваць тры працэнты выбаршчыкаў. Лічба невялікая і не дае еўракрытыкам пропуску ў Бундэстаг (прахадны бар'ер — 5 працэнтаў), аднак можа паўплываць на шансы Меркель мець у будучым парламенце большасць. У сваю чаргу, палітолагі прагназуюць узгдым рэйтынгу AfD за кошт пратэстнага электарату. Некаторыя нават лічаць, што «Альтэрнатыва для Германіі» можа разлічваць на 8–10 працэнтаў, што, натуральна, будзе значыць канец палітычнай кар'еры цяперашняга канцлера. Цікава, што перспектыва з'яўлення ў парламенце «Альтэрнатывы для Германіі» турбуе таксама левыя партыі, якія баяцца, што AfD стане полюсам для аб'яднання правых экстрэмістаў. Партыя «Левыя» абвінавеціла еўракрытыкаў у «шавінізме на глебе дабрабыту». Падзея амаль гістарычная. Напэўна, упершыню ў гісторыі «Левыя», які былі створаныя на базе партыі камуністаў Усходняй Германіі, гатовыя пагадзіцца з тым, каб ФРГ заставалася ў Еўразоне.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ПРЫХІЛЬНІКАМ БАНДЭРЫ ЗАБАРОНЯЦЬ УЕЗД

Упастанове, праект якой быў прадстаўлены яшчэ 11 красавіка, Польскі сейм прапануе прызнаць Арганізацыю ўкраінскіх нацыяналістаў, Украінскую паўстанцкую армію, СС-Галічына і ўкраінскую паліцыю на нямецкай службе злачыннымі арганізацыямі, адзначае сайт podrobnosti.ua. Аўтары пастановы кажуць, што гэтыя арганізацыі ўчынілі генацыд супраць польскага насельніцтва Усходніх крэсаў у 1939–1947 гадах. Варта адзначыць, што ў генацыдзе вінавацяца не ўвесь украінскі народ, а толькі згаданыя палітычныя і ўзброеныя фармаванні.

Між тым, месяц таму Львоўскі гарсавет падвоіў даплату да пенсій ветэранам УПА. Губернатар Харкаўскай вобласці Дзмітрый Добкін не толькі падтрымаў ідэю, аднак прапанаваў палякам увогуле скласці нешта накшталт чорнага спісу для прыхільнікаў Бандэры і не даваць ім польскія візы. Ён дадаў, што адпаведны ліст з яго прапановай будзе хутка накіраваны ў сейм Польскай Рэспублікі. Украінскія нацыяналісты ў сваю чаргу лічаць, што не яны, а Добкін можа стаць фігурантам таго чорнага спісу. Губернатар Харкаўшчыны вядомы як абаронца спадчыны СССР, які нясе адказнасць за большасць актаў рэпрэсій супраць этнічных палякаў на тэрыторыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. РАБІЦЕ СТАЎКІ НА ТЭТЧЭР!

Брытанскія букмекерскія канторы пачалі прымаць стаўкі на тое, якія аб'екты або населены пункты могуць быць перайменаваныя ў гонар Маргарэт Тэтчэр. Зараз прапануецца перайменаваць некалькі аб'ектаў, у тым ліку славуты галоўны лонданскі аэрапорт «Хітроў». Эксперты кажуць, што лепш за ўсё рабіць стаўку на тое, што зменіць назву Порт-Стэнлі, сталіца Фальклендаў. Порт-Стэнлі могуць перайменаваць у Порт-Маргарэт. З такой ініцыятывай ужо выступіў шэраг кансерватараў, якіх да таго ж падтрымалі жыхары выспаў, удзячныя Жалезай Лэдзі за вызваленне ад аргенцінскай акупацыі ў 1982 годзе. Калі паставіць фунт, то ў выпадку перайменавання можна атрымаць на 20 працэнтаў больш. Хутчэй за ўсё, адміністрацыя архіпелагу сапраўды прагаласуе за змену. Галоўная перашкода на шляху тапаграфічнай рэформы — урад Аргенціны. Аргенцінскі прэзідэнт Крысціна Кіршнер ужо заявіла, што назва Порт-Маргарэт супярэчыць дакументам і рэзалюцыям ААН. Праўда, самі аргенцінцы таксама прыдумалі галоўнаму гораду Фальклендаў сваю назву, якая таксама супярэчыць дакументам Асамблеі. На аргенцінскіх картах Порт-Стэнлі мае назву Порт-Аргенціна.

**Паводле аргенцінскай і брытанскай прэсы**

ЗАКОНАПРАЕКТ

# МАЛДОВА ЗАБАРАНЯЕ РУСКУЮ МОВУ

*Алег НОВІКАЎ*




**Малдаўскія лібералы прапанавалі законапраект, у якім фактычна прапануецца забараніць выкарыстанне рускай мовы ў краіне і ўвесці пакаранне за адмову ад румынскай мовы.**

Прапанаваны праект закона зарэгістраваны ў парламенце дэпутатам Ліберальнай партыі Ганнай Гуцу. Асноўная ідэя прапановы — румынская (малдаўская) мова павінна функцыянаваць ва ўсіх сацыяльных сферах: палітыцы, эканоміцы, культуры, юрыспрудэнцыі і г.д.

На практыцы гэта будзе значыць шэраг глабальных перамен. Напрыклад, назваў населеных пунктаў, у якіх будзе «адзіная афіцыйная назва на румынскай, а пры транслітарацыі з іншых моваў будзе выкарыстоўвацца румынская арфаграфія». Імёны грамадзян Малдовы, па закону, не павінны скланяцца. Іншымі словамі, трэба будзе казаць: «даць Іваноў», а не «даць Іванову».

Паводле праекту, устанаўліваецца 80-працэнтны аб'ём перадач на румынскай мове ў сферы радыёвяшчання, у тым ліку для замежных дыстрыб'ютараў. Пісьмовыя СМІ таксама на 80 працэнтаў павінны ўтрымліваць матэрыялы на румынскай мове. Інтэрнэт-сайты пад даменам *.md абавязаныя размяшчаць версію кантэнту на румынскай мове, у адваротным выпадку іх пазбавяць ліцэнзіі на дзейнасць. Гэтак жа ў дадзеным законе рэгламентуецца, што грамадзяне ў кантактах з органамі ўлады, публічнай адміністрацыяй і некамерцыйнымі арганізацыямі абавязаны выкарыстоўваць выключна румынскую мову. Без ведання румынскай мовы нельга будзе працаваць як у дзяржаўных установах, так і ў прыватных кампаніях.

Паводле законапраекту, вышэйшую адукацыю ў Малдове можна будзе атрымаць выключна на румынскай мове. Гэтак жа на румынскай мове павінны быць напісаныя ўсе навуковыя працы або весціся канферэнцыі ў сферы адукацыі. Уся навуковая літаратура можа выдавацца толькі на румынскай мове.

Праўда, ліберал-дэмакраты прызнаюць, што ёсць некаторыя цяжкасці. Паводле апошняга перапісу, каля мільёна малдаван не размаўляюць на мове тытульнай нацыі або надаюць перавагу іншай падчас камунікацыі. Таму лагічна выглядае патрэба мовы міжнацыянальных зносін. І яна знойдзеная. «Ва ўсіх краінах Еўрапейскага саюза моваў міжнацыянальных зносін з'яўляецца англійская. У бліжэйшы ж час мы далучымся да вялікай еўрапейскай сям'і, і павінны адпавядаць яе стандартам. Таму нашым грамадзянам надышоў час пачынаць вывучаць англійскую мову, бо гэта неабходная ўмова для сацыяльнай і прафесійнай інтэграцыі грамадзян РМ у ЕС», — падкрэсліваюць дэпутаты-лібералы.

Не паспела Ганна Гуцу зарэгістраваць у канцылярыі парламенту свой законапраект, як ён стаў любімай фішкай камуністаў. Старшыня Партыі камуністаў Уладзімір Варонін заявіў, што будзе размаўляць толькі па-руску да таго часу, пакуль лібералы не адклічуць з парламента дыскрымінацыйны законапраект «аб лінгвістычнай палітыцы». Дарэчы, на малдаўскай мове ён і так практычна не размаўляе.

«Законапраект лібералаў па ступені нялюдскасці мяжуе з фашызмам», — такое меркаванне выказаў лідар партыі «Адраджэнне», якая арыентуецца на рускамоўных малдаван, Вадзім Мішын. Паводле яго слоў, менавіта з-за падобных ініцыятыў успыхнуў узброены канфлікт на Днястры ў пачатку 1990-х гадоў.

Сацыялісты (што адкалоліся ад Кампартыі) ужо высунулі альтэрнатыўны законапраект аб забароне т.зв. «уніянісцкіх» партый (накшталт ліберальнай), якія прапагандуюць уваходжанне Малдовы ў склад Румыніі. Іх падтрымалі некаторыя арганізацыі Гагаузіі, дзе імплементацыя закону пра мовы здольная выклікаць калапс у працы адміністрацыі. Насельніцтва краю слаба ведае як малдаўскую (румынскую мову), так родную гагаузскую, надаючы перавагу рускай мове.

З улікам рэакцыі на законапраект, якая, дарэчы, была прадказальнай, варта задаць пытанне — навошта лібералам уся гэта катавасія? Самі яны тлумачаць актуальнасць новага кодэксу патрэбай культурнай інтэграцыі ўсіх малдаван.

Аднак экспертнае грамадства мяркуе інакш. На думку большасці аналітыкаў, ініцыятыва лібералаў звязаная з хуткімі выбарамі ў парламент. Тэма выбараў зноў загучала пасля нядаўняга развалу кааліцыі «Альянс за еўрапейскую інтэграцыю», якую фармавалі лібералы, ліберал-дэмакраты і дэмакраты. Эксперты пагаджаюцца з тым, што праект носіць перадвыбарчы характар і мае на мэце ўмацаванне пазіцыі лібералаў сярод прарумынскай часткі насельніцтва, давер якой яны часткова страцілі пасля карупцыйных скандалаў з удзелам шэрагу чыноўнікаў-лібералаў.

Пра тое, што законапраект падобны да чыстага піяру, сведчаць некаторыя дэталі. Па-першае, у лібералаў не хапае парламенцкіх мандатаў, каб прасунуць законапраект, а былыя калегі па «Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю» ўпершыню пра яго пачулі. Так, лідар ліберал-дэмакратаў у парламенце Валерый Стралец адмовіўся каментаваць «моўны праект» лібералаў да таго часу, пакуль ён не будзе абмеркаваны на фракцыі. Але калі гэта адбудзецца, спадар Стралец сказаць не змог. У сваю чаргу, дэмакраты ўжо канчаткова заявілі, што будуць галасаваць супраць прапановы моўнай рэформы.

Акрамя таго, у Канстытуцыі напісана, што дзяржаўнай моваў у краіне ёсць фармальна малдаўская, а не румынская мова. Такім чынам, закон у варыянце Гуцу не будзе прыняты. Трэба, каб спачатку змянілі тэкст Асноўнага закону. Аўтары ўжо звярнуліся ў Канстытуцыйны суд з прапановай «словазлучэнне «малдаўская мова», якая функцыянуе на аснове лацінскай графікі» семантычна прыраўняць да словазлучэння «румынская мова». Аднак колькі часу будзе патрэбна суддзям на разгляд справы, ніхто не ведае. Увогуле, вялікае пытанне — ці ў кампетэнцыі сяброў КС змяненне канстытуцыі?

Яшчэ адна перашкода для новага закону — закон аб забеспячэнні роўнасці, што забараняе любую дыскрымінацыі па моўнай і нацыянальнай прыкмеце, які ўступіў у дзеянне з 1 студзеня. Праціўнікі лібералаў дакладна заявяць пра супярэчнасць праекту Гуцу згаданаму закону. Прычым самае смешнае, што антыдыскрымінацыйны закон быў пралабіраваны партыямі «Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю», якія бачылі ў ім крок на шляху інтэграцыі Малдовы ў ЕС.

Сыходзячы з усяго сказанага вышэй, можна лічыць, што пакуль «вялікаму і магутнаму» на берагах Днястра нічога не пагражае. Застаецца расслабіцца і атрымаць асалоду ад спектакля пад умоўнай назвай «Абарона рускай мовы», галоўныя персанажы якога — камуністы, сацыялісты, гагаузскія і прарускія партыі — будуць спрабаваць абскакаць адзін аднаго па гэтай праблематыцы. Відовішча абяцае быць захапляльным. Адзін з лідараў сацыялістаў прапанаваў даследаваць аўтараў законапраекта наконт псіхічнага здароўя.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# «МЫ НЕ ТЭРАРЫСТЫ. МЫ П’ЕМ ПІВА»

Алег НОВІКАЎ

**Наступствы бостанскай трагедыі прымусілі чэхаў даказваць амерыканцам, што яны не чачэнцы.**




Як вядома, пасля тэракту на фінішы бостанскага марафона грамадства гублялася ў здагадках, хто арганізатар. Як толькі стала вядома, што гэта нейкія хлопцы з Чачні, усе паспяшаліся падзяліцца навінoй у сетках. З-за таго, што словы «чачэнцы» і «чэхі» гучаць у англійскай падобна, шмат хто з амерыканцаў у сваім Twitter запісалі бостанскіх тэрарыстаў у земляні Гавела і Кафкі. Можна было пачытаць наступныя перлы: «Нарэшце ўсё стала вядома. Яны (тэрарысты) з Чэшская Рэспублікі, аднак нарадзіліся ў Штатах», «Чаму мы яшчэ не бамбім Чэхію?» «Чэшскі ўрад павінен узяць адказнасць за тэракт», «І што цяпер — будзе вайна з Чэхіяй?».

Парадаксальна, аднак татальнае няведанне геаграфіі і гісторыі аказалася ўласціва нават супрацоўнікам салідных выданняў. Так, адзін з журналістаў «New York Post» напісаў пра тое, што браты паходзяць з Чачні, якая з’яўляецца прыгарадам Чэхаславакіі. Увогуле, лічыцца, што блытаніна пачалася пасля сюжэта на канале CNN, куды запрасілі нейкага эксперта з ЦРУ, які назваў Чэхію «мусульманскай краінай».

Зачын падтрымалі палітыкі. Ультракансерватар Сара Пэйлін заявіла: «Мы ўпэўненыя ў тым, што яны (браты Царнаевы) — мусульмане з Чэшскай Рэспублікі. Я, як і простыя амерыканцы, заўсёды гатова пайсці туды, адкуль прыйшлі гэтыя людзі, і даць ім урок. І давайце не будзем спыняцца на Чэшскай Рэспубліцы, пойдзем ва ўсе арабскія краіны. Давайце адправім некалькі ядзерных ракет у Ісламабад, няхай згарыць Прага і гарыць у пекле Тэгеран. Мы павінны паказаць ім, як умеем весці справы».

Ультракансерватар Сара Пэйлін заявіла: «Мы ўпэўненыя ў тым, што яны (браты Царнаевы) — мусульмане з Чэшскай Рэспублікі

Нягледзячы на ўсю камічнасць сітуацыі, яна яўна насцярожыла афіцыйную Прагу. Хутка адпаведную заяву зрабіў Петр Гандалавіч, пасол Чэхіі ў Вашынгтоне. «Паколькі ўсё больш інфармацыі аб паходжанні меркаваных злачынцаў выходзяць на свет, я з заклапочанасцю адзначаю, што ў сацыяльных медыях назіраецца найбольш прыкрае непаразуменне на гэты конт», — сказаў пасол. Ён дадаў: «Чэхія і Чачня — два зусім розныя краі: Чэшская Рэспубліка знаходзіцца ў Цэнтральнай Еўропе, Чачня з’яўляецца часткай Расіі». Каб супакоіць асабліва тупых, дыпламат акцэнтаваў увагу на тым, што Чэхія — краіна-сябра NATO і таксама прымае ўдзел у антытэрарыстычных аперацыях.

Рэакцыя на такога кшталту заявы чэшскага боку была самай непрадказальнай. Чуючы праўду пра Чэхію і Чачню, амерыканцы рабілі яшчэ больш маштабныя памылкі. Так, некаторыя амерыканскія блогеры пагадзіліся, што Чэхія — гэта не Чачэнія. Чэхія, на іх думку, гэта Чэхаславакія.

Дадатковым фактарам хаосу ў мазгах янкі стаў не зразумелы заходняму чалавеку прававы статус Чачэнскай Рэспублікі ў складзе Расіі. «Чачня і Чэхія — дзве розныя краіны. Чачня ўвогуле не дзяржава», — пісаў нехта на інтэрнэт-форумах. Аднак тут жа знаходзіліся такія, якія лічылі, што Чачня дасюль кантралюецца дудаеўскімі партызанамі і таму мае права называцца незалежнай. Сваю ролю згулялі і пасты рускіх, якія згадалі, што падчас чачэнскіх войнаў расійскія жаўнеры сапраўды далі чачэнцам мянушку «чэхі».

Некаторыя янкі настолькі заблыталіся ў геаграфічных матэрыях, што заклікалі Белы дом атакаваць як Расію, так і Чэхію, каб дакладна патрапіць у Чачню, дзе жывуць саюзнікі братоў Царнаевых.

Каментуючы абывацельскую рэфлексію, сатырычны часопіс «The Onion» прапанаваў амерыканскай адміністрацыі правесці адукацыйную праграму насаджэння стэрэатыпаў наконт чачэнцаў у амерыканскім грамадстве, каб у будучым усім ксенафобам было прасцей выказваць сваю нянавісць да чачэнцаў. Жарты жартамі, аднак сайт Huffington Post змясціў ролік з мапай Усходняй Еўропы, на якой тлустымі стрэламі было ўказана — дзе знаходзіцца Чачня, а дзе Чэхія.

На дапамогу чэшскім чыноўнікам прыйшлі простыя грамадзяне Чэхіі. Яны пачалі кампанію за праўду аб сваёй радзіме ў сацсетках. Доказаў у апраўданне чэхаў прыводзілася шмат. «Мы не тэрарысты, мы п’ем піва», — пісаў адзін з юзераў. Праўда, часам нават у саміх у чэхаў не хапала нерваў тлумачыць заакіянскім візаві элементарныя рэчы. Нейкі Петр Манда ў сваім Twitter даў волю пачуццям: «Дарагія ідыёты з ЗША, Чэхія і Чачня знаходзіцца на адлегласці 2 500 кіламетраў».

Увогуле, па чэшскіх інтэрнэт-форумах пракацілася хваля амерыканафобіі. Юзеры ахвотна ўзгадвалі пра тое, што 40 працэнтаў амерыканцаў не ў стане паказаць на карце, дзе знаходзіцца Канада, пра тое, што трацiна амерыканцаў лічыць сталіцай сваёй дзяржавы Нью-Ёрк.

Творча праявілі сябе мясцовыя гумарысты. Яны згадалі, што ў сталіцы Аўстрыі, якую блытаюць з Аўстраліяй, прадаюцца майкі з выявай кенгуру і надпісам: «У Аўстрыі няма кенгуру». На думку чэшскіх гумарыстаў, час наладзіць у Празе продаж турыстам маек з лога: «У Празе няма чачэнцаў». Шмат хто прапануе перайменаваць краіну, каб амерыканцы больш не памыляліся. Сярод прапаноў — ідэя змяніць абрэвіятуру краіны з CR на SER. Абрэвіятура SER, на думку ініцыятараў, лепш адлюстроўвае сітуацыю з чэшскай эканомікай.

Хаця былі і такія чэхі, хто віталі ўсплёск чэхафобіі ў Штатах. Гэта людзі левых поглядаў, якія маюць надзею на тое, што цяпер чэхі зразумеюць, што значыць быць гастарбайтэрам або эмігрантам. На сваёй скуры адчуюць, як жыць, будучы завочна падазроным ва ўсіх злачынствах. Чэшскія левыя таксама сцвярджаюць, што IQ сярэдняга чэха ў кантэксце скарачэння фінансавання сістэмы адукацыі хутка дагоніць узровень ведаў амерыканца. Прынамсі, ужо зараз некаторыя чэхі сапраўды лічаць, што Тэхас — гэта не назва штату, а назва супермаркета Tesco.

Асобная частка чэхаў лічыць увогуле ненармальнай сітуацыю, калі адказнасць за злачынствы двух хлопцаў перакладаецца на ўвесь народ.

У прынцыпе, у выніку праўда пра тое, што Чэхія — гэта не Чачня, перамагла. Пастутова амерыканцы кампенсавалі прабелы ў геаграфіі. «Вельмі добра, што мы за адзін тыдзень даведаліся так шмат з савецкая гісторыі. Кепска толькі тое, што для гэтага нам спатрэбілiся тэрарысты», — прызналася адна з амерыканскіх карыстальнікаў інтэрнэту. Нельга не падпісацца пад гэтымі словамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЭНРЫКА ЛЕТА



Прэзідэнт Італіі Джорджа Напалітана даручыў сфармаваць новы кабінет міністраў Энрыка Лета, аднаму з лідараў левацэнтрысцкай Дэмакратычнай партыі. Лета мае нядрэнныя сувязі і з правацэнтрыстамі — яго дзядзька Джані Лета доўгія гады працаваў кіраўніком адміністрацыі ў Сільвіа Берлусконі.

«Я прыняў гэту адказнасць з усімі абмежаваннямі, якія яна накладае на палітыка. Мы ўсе ведаем сітуацыю і разумеем, што яна не можа заставацца без змен. Італія павінна знайсці іншыя метады барацьбы з крызісам, чым проста палітыка эканоміі», — заявіў Энрыка Лета.

Па словах прэзідэнта Італіі, перш, чым даручыць Лета сфармаваць урад, ён правёў кансультацыі з лідарамі ўсіх парламенцкіх партый. Тыя паабяцалі прэзідэнту падтрымаць рашэнне пра кандыдатуру прэм’ера. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Напалітана давялося звярнуцца да ўльтыматуму: ён паабяцаў, што сыдзе ў адстаўку, калі правыя і левыя зноў захочуць папатапіць працэс фармавання ўрада ў бясконцых дэбатах.

### НАЙДЖЭЛ ФАРАЖ



Лідар Партыі незалежнасці Аб’яднанага Каралеўства (UKIP), якая выступае за выхад Вялікабрытаніі са складу Еўрасаюза, пачаў вайну за спадчыну Маргарэт Тэтчэр з кансерватарамі, частка электарату якіх усё больш сімпатызуе незалежнікам. Па словах Найджэла, калі б Маргарэт Тэтчэр сёння думала пра палітычную кар’еру, яна абавязкова падалася ў незалежнікі. Такое нахабства выклікала адмоўную рэакцыю з боку торы. Адзін з аргументаў кансерватараў — Тэтчэр як абаронца сямейных каштоўнасцяў ніколі б не падтрымала партыю, у якой чамусьці шмат уладальнікаў стрыптыз-клубаў. Такая гарачая перапалка абяцае барацьбу ў Портсмуце, дзе ўлетку адбудуцца дадатковыя выбары дэпутата парламента. Па меркаванні аналітыкаў, Партыя незалежнасці можа сапраўды атрымаць свайго першага дэпутата. Гэта можа стаць пралогам з’яўлення ў парламенце цэлай фракцыі незалежнікаў пасля выбараў 2015 года. Цікава, што спекуляцыі наконт таго, у якой партыі была б сёння Тэтчэр, характэрныя не толькі для незалежнікаў. Так, Эд Мілібэнд, лідар лейбарыстаў, лічыць, што Жалезная Лэдзі сёння была б сябрам сепаратысцкай Шатландскай нацыянальнай партыі. На думку Мілібэнда, рыторыка нацыяналістаў падобная на рыторыку рынкавага індывідуалізму.

### ОСКАР ЮХАШ



Лідар венгерскай камуны Gyöngyöspata, якую кантралююць сябры радыкальнай нацыяналістычнай партыі «Йобік», вырашыў стварыць дзяржаву ў дзяржаве. На працягу апошняга месяца ён і яго аднадумцы прынялі пакет законаў, які па сутнасці рэалізуе выбарчую праграму нацыянал-радыкалаў. Прыняты альтэрнатыўны гімн, дазволена весці перапіску з афіцыйнымі органамі, выкарыстоўваючы старадаўні рунічны правапіс (венгры пісалі рунамі да таго часу, пакуль не прынялі хрысціянства і не перайшлі на лацінку). Нарэшце, уся камунальная зямля абвешчаная каралеўскай зямлёй. Ідэя Венгерскага каралеўства, якое ўключала землі харватаў, славакаў, румынаў, — яўны намёк на тое, што Венгрыя жыве імперскімі міфам. Пакуль юрысты думаюць, як ставіцца да такіх эксперыментаў, апазіцыя перакладае ўсю адказнасць за сепаратызм на кансерватыўнага прэм’ера Віктара Орбана. Менавіта Орбан быў аўтарам новай вельмі клерыкальнай і нацыяналістычнай Канстытуцыі, якая стала прычынай канфлікту з Еўропай. Юхаш сапраўды спасылаецца на пункт новай Канстытуцыі, які патрабуе, каб у аснове заканадаўчай дзейнасці ляжала «ідэя вечнай спадчыны венгерскай дзяржаўнасці».

▸ КІНО

# БОМБА ЖЫВОЙ БЕЛАРУСІ

Валерыя КУСТАВА

**«Жыве Беларусь!» — фільм спрэчны і даўно чаканы, фільм, пра які трэба казаць… Аўтары плануюць правезці фільм па еўрапейскіх фестывалях, а ўлетку запусціць у сеціва, каб і самі беларусы змаглі ўбачыць першы мастацкі беларускамоўны — няхай і з польскім акцэнтам — фільм пра сучасную Беларусь.**

## Тэма паўнагадовая, як рэжым

«Жыве Беларусь!» — вядомы лозунг нязгодных беларусаў. Ад таго сама назва абавязвае. Яна належыць многім, бо папросту прыляклася як мінімум да неабыякавай часткі беларускага грамадства. І намуляла вуха — абыякавай. Але гэта першы фільм у сваім родзе — і ад таго рэжысёр меў права на гэтакую назву (першапачатковая назва — «Мірон»).

Ужо цяпер зразумела, што фільм выкліча шквал крытыкі. Фільм будуць ахайваць і хваліць. Хваліць, бо гэтая жывая Беларусь — вярэдзіць, баліць. Ахайваць — з той самай прычыны.

Тэма яшчэ жывой, але ўжо ўшчэнт запалоханай краіны прыелася, бы манка ў яслях, прычым як ахвярам, так і катам, і ратаўнікам. Тэма жывой знявечанай краіны — паўнагадовая, як і яе рэжым. Але ўпершыню агучаная ў дадзеным фармаце і ракурсе. Гэты фільм мусіў з'явіцца раней. Мусіў — і не мог. І ад таго на яго ўскладзена столькі чаканняў.

## Учынак у мастацтве

Фільм №1 — шматкроць. Ад таго і мае права быць перадусім эксперыментам і правакацыяй. І гэта трэба ўлічваць. І гэтым усцешыцца: цяпер мы ўрэшце маем з чаго пачаць. Першы фільм пра найноўшую гісторыю Беларусі, зняты замежным рэжысёрам. Першы палітычны ігравы фільм пра цяперашніх нас. Ужо само яго з'яўленне — добры сімптом для беларускай рэчаіснасці.

Па сутнасці, на сёння «Жыве Беларусь!» — больш чым фільм, гэта ўчынак у мастацтве, у культуры. Учынак, што пакуль, на жаль, не мае сабе альтэрнатывы. Але і паўстаў — дзеля яе з'яўлення.

## Беларуская місія

Фільм скрозь палітызаваны. Зрэшты, як і нашае жыццё. У яго, апроч мастацкай, ёсць яшчэ і беларуская місія. І выглядае на тое, што ўсе беларусы, якія працавалі над фільмам — сам Франак Вячорка (другі рэжысёр, сцэнарыст), Антось Цялежнікаў (асістэнт рэжысёра), Лявон Вольскі (кампазітар), нашы акторы, — сваю беларускую місію выканалі.

І з агучанай стваральнікамі карціны задачай — паставіць Беларусь на парадак дня ў свеце, даць дарогу беларускім гісторыям у Еўропу — аўтары кінастужкі справіліся. Іншая справа — сітуацыя досыць сумнеўная, калі мастацтва ад пачатку вымушана ставіць за мэту перадусім сацыяльныя ці палітычныя вынікі.

## Беларусь як зона

У фільме ментальна захварэлая Беларусь паўстае ў выглядзе Зоны (трох яе колаў), метафарычнага таталітарнага Чыстца. Першае, самае вялікае кола — сама краіна, дзе «нацыянальны Чарнобыль» адчуваецца лакальна — месцамі, воспінамі па целе краіны. І акурат з такіх воспінаў і сканцэнтраванае першае кола. Другое — больш вузкае кола — зона Чарнобыльская (фізічна Чарнобыль); і трэцяе кола — апошняе, цэнтральнае, дзе мы назіраем «духоўны Чарнобыль», канцэнтруецца на тэрыторыі адной узятай вайсковай часці.

Страх раскіданы па краіне лакальнымі болямі, прыватнымі страшнымі гісторыямі з прыніжэннямі, калецтвамі, фізічным і маральным гвалтам. У фільме ён засяроджаны ў зоне з лысымі дзецьмі, разбуранымі каруселямі, з маўклівымі акцыямі апладысментаў. Сюррэалістычная, страшная зона, у якой баль правяць невукі і нелюдзі — такія, як сяржант Руслан (Павел Крыксуноў), якія ламаюць існа годных, вартых маладзёнаў. Такія, як жаўнер Шэры (Максім Каржыцкі), які і ёсць тым ментальным зрухаром, што робіць крок насустрач Мірону (Зміцер «Вінсэнт» Папко), што паказвае прыклад прысяганню праўды, рызыкуючы самім сабой. А Мірон — робіць крок насустрач яму, крок да сябе неабыякавага. Менавіта з вуснаў Шэрага чуем галоўны мэсідж: «Будзеш баяцца — будзеш заўсёды па срацы атрымліваць…» — гэтыя словы адрасаваныя Мірону.

Жыццё жаўнераў напоўненае ў зоне брудам — тварамі ў клазеты, абражанья, прыніжаньня, з дулам у роце, збітыя да паўсмерці, яны ўсё ж устаюць і ідуць да сваёй мэты. І дзякуючы гэткім сталкерам на зоне, як Шчука (Дзяніс Тарасенка), — у іх ёсць шанец выйсці жывымі.

Галоўны герой — Мірон Захарка, саліст моладзевага гурта «Форца» — напачатку фільма стараецца не заўважаць праблемы навокал, спрабуючы рабіць сваю свабодную музыку па-за палітыкай. Але пазней, дзякуючы аднавайскоўцу Шэраму і сваёй дзяўчыне Веры ГенІюш (польская акторка Катарына Грушка), змяняецца, прымае адказнасць павесці за сабой людзей, якія гатовыя за ім ісці, і робіць выбар, — тым самым падпісваючы сабе прысуд.

І ў выніку страчвае ўсё: і каханне, і музыку, і свабоду. Страчвае каханую — яна ў жаночай калоніі і, верагодна, здрадзіла з яго ж сябрам-музыкам гурта Змітром (Раман Падаляка). Страчвае кар'еру (гурт пад забаронай), страчвае сябра (ён завербаваны



адпаведнымі органамі), здароўе (скалечаны фізічна і псіхалагічна). Выкінуты, нікому не патрэбны, хіба апрача таких самых, як ён, — трапляе на Плошчу (якая, да слова, праходзіць зусім не галоўнай тэмай, хутчэй фонам), а з ім — у аўтазак, дзверы якога замыкаюцца перад яго тварам.

І менавіта такое цяжкое, беспрасветнае, здавалася б, кіно дае магчымасць прыйсці часу зняць фільм пра тое, якія мы адважныя і пераможныя. Пазней.

## Пра маўчанне Вінсэнта

Зміцер Папко ў пачатку, на ўздыху фільма, нібыта толькі прымяраецца да ролі. Актор Вінсэнт — прыгожы, па-добраму мачо-фарматны. Але найбольш пранікнёна і таленавіта, скажам шчыра, у яго атрымліваюцца сцэны, дзе ён папросту маўчыць.

## Пацалункі Грушкі

Вельмі бянтэжыць акцэнт Катарыны Грушкі. Але спрацоўвае кан'юнктура: фільм трэба прадаваць Польшчы — мусіць быць хаця б адзін пазнавальны і вядомы для замежнага гледача твар. Да таго ж беларускія акторкі адмовіліся ад удзелу ў кастынгу праз рызыку кар'ерай.

З іншага боку, Грушка, бачна, вельмі дапамагае Вінсэнту на здымачнай пляцоўцы (у тым ліку і ў інтымных сцэнах), як бы наігрывае яго на сябе, разняволвае. Тут бачыцца знак для прымхлівага мастацтвазнаўцы: Грушка грае Веру — беларуску з польскім акцэнтам і маці-полькай, якая спрабуе скіраваць Мірона на шлях змагання за сваё, за нацыянальную годнасць. Так і Польшча, што дапамагае ў стварэнні фільма «Жыве Беларусь!», спрабуе натхніць свет паглядзець на праблемы ўнутры нашай краіны. Да слова, гэта першы фільм з аголенай Катарынай Грушкай, які пабачыць як палякі, так і еўрапейскі глядач. Дарэчы, як і з аголеным Вінсэнтам — таксама.

## З польскім акцэнтам

Пра мову фільма варта казаць асобна. З аднаго боку, вельмі выбівае з мастацкай рэчаіснасці польскі акцэнт, які сустракаецца практычна ва ўсіх польскіх акторах. У тым ліку месцамі — у Грушкі. Хаця аўтары перaконваюць, што гэта ўвогуле цуд, што акторка, якая ўвогуле ніколі не чула беларускую мову, навучылася размаўляць па-беларуску. Да слова, адноічы яна пераходзіць і на рускую — пры размове з супрацоўнікамі адпаведных органаў. Зрэшты, гэты падзел акурат можна высакародна патлумачыць: з чужымі — па чужому, каб мовы сваёй аб іх не пэцкаць.

А напраўду, чым, уласна кажучы, акцэнт польскі горшы, прыкладам, за расійскі, якім папросту перапоўненае беларускае дый і беларускамоўнае кіно? Папросту да другога мы больш звыклыя.

Дадае каларыту фільму і трасянка. Праўда, часам ёй робіцца празмерныя смайлікавыя акцэнты, што таксама выклікае сумневы і крыху выкідвае па-за экран. Часам іронія, гумар даходзяць да фарсу — як здарылася са сцэнай рэканструкцыі падліку галасоў — гэта хутчэй цягне на асобны мініфільм унутры самога фільму.

## Для каго фільм?

Першы глядач — унутраны беларус, які сам прайшоў праз Плошчу. Гэта, бадай, самы крытычны глядач. Яму будзе рэзаць вочы наравісты перагруз ідэалагічнай атрыбутыкай, серпамі-молатамі, помнікамі важдзям і вяшчаючымі галовамі ў тэлескрынях. Для яго гэта — у лоб.

Другі глядач — вонкавы беларус, які жыве паводле показкі: «Я б хацеў жыць у Беларусі, якую паказваюць па тэлевізары», для яго фільм станецца адкрыццём, той самай нечаканай праўдай, калі той, вядома, здолее расплюшчыць на яе вочы.

Трэці глядач — замежнік, патэнцыйны суперажывальнік беларускага. Для яго падзеі фільма — ці чыстай вады экзотыка (далёкія еўрапейцы), яны асабліва нічога і не ведаюць пра Беларусь, ці наша гісторыя для іх — адна з непажаданых перспектыў развіцця іх краіны, якой не палёсіла спраўдзіцца (так, прыкладам, будуць глядзець фільм палякі, чэхі — глядзець з паразуменнем і ўсцешанасцю ўздыхаць, што іх, дзякуй Богу, гэткі лёс мінуў). Шкада і сумна — фільм зняты для кінатэатраў, у якіх яго не пакажуць. Для беларускіх кінатэатраў.

## Беларусь як перабольшванне

Увага да дэталяў і іх колькасці можа падацца празмернай, зачастая фіксацыя камеры на гратэскных плакатах, дэталях вопраткі, перабольшана савецкіх дэкарацыях. Перанасычанасць атрыбутыкай: плакаты, помнікі, бюсты правадыроў, што адсылаюць нас да савецкіх часоў. Гэткі канцэнтраваны СССР у межах адной зоны, гэткі музей савецкага перыяду. Гіпербала, месцамі даведзеная да абсурду. Зрэшты, гэта і ёсць мастацкі прыём, які спрацоўвае. І перагібы здольны пабачыць хіба што ўнутраны беларус.

Што ж да гледача вонкавага, замежнага, ён папросту мусіць мець арыенціры грамадства і краіны. Каб не зблытаць яе з сучасным Кіевам, Масквой ці Варшавай. Цяпер дакладна не зблытае. І фільм — гэта не жарт! ужо ёсць дамоўленасць — будзе паказвацца польскім школьнікам у якасці прыкладу функцыянавання мадэлі камунізму.

## Перспектывы

Бадай, не выпадае казаць пра камерцыйны поспех стужкі. Але можам — пра поспех фільму як справы, як учынку. У яго ўкладаліся грошы, каб не атрымаць іх назад.

Беларусы рабілі ўсё, што маглі для гэтага фільма, у большыні сваёй на валанцёрскіх пачатках. Рэжысёр Кшыштаф Лукашэвіч — хоць і паляк, беларус з паходжання і ў душы, мае польскі пашпарт, як, зрэшты, і польскае бачанне беларускай гісторыі. Трошкі зверху, крыху паблажліве, але ў шчырым жаданні дапамагчы — зноў жа як старэйшы брат брату малодшаму. А пры тым яшчэ ёсць магчымасць прагучаць у культурніцкай і палітычнай еўрапейскай прасторы — новым экзатычным і першым.

Паглядзеўшы гэты фільм, прыемна ўсвядоміць, што мы сапраўды маем акцёраў еўрапейскага класу: Анатоль Кот, Алесь Малчанаў, Дзяніс Тарасенка, Раман Падаляка. Хлопцы рызыкавалі — і дзякуй ім за гэта.

Таксама немагчыма не адзначыць унёсак сцэнографа Анджэя Галінскага і аператара Вітальда Стока — іх праца зроблена настолькі прафесійна, што застаецца папросту незаўважнай. Кампазіцыі Лявона Вольскага вельмі дапамаглі ў разуменні персанажаў дый асноўнай тэмы.

«Жыве Беларусь!» — моладзевы палітычны трылер для неабыякавых. Фільм цяжкі і гарачы, які абяцае працяг. Невядома, што будзе далей з той моладдзю, што вырвецца з клеткі на свабоду.

«Жыве Беларусь!» — фільм вельмі патрэбны для Беларусі. І дакладна — ён выкліча скандал, бо гэта кіно ўрэшце пра нас, бо гэта — бомба жывой Беларусі.

Канчатковы рахунак — Мірон-Сістэма — 1:0. Але працяг будзе. Сустрэнемся — на закрытых праглядах.

**Пашыраны варыянт рэцэнзіі можна пачытаць на нашым сайце**

ПАМЯЦЬ

# СТАНІСЛАВУ НАРБУТУ — 160. ЛЕКАРУ АД ЛЕКАРА

Генадзь ШЭРШАНЬ

**Пры канцы 1980-х гадоў, калі турыстам наведваў Браслаўшчыну, я выпадкова даведаўся, што ў Браславе знаходзіцца магіла лекара, які пабудаваў бальніцу, доўга лячыў насельнікаў, а калі памёр, яго «хаваў увесь Браслаў і ўсё наваколле». Потым на яго магіле за народныя сродкі ўзвялі абеліск. Мяне зацікавіла гэта гісторыя яшчэ і таму, што я сам лекар-пульманолаг.**



Станіслаў Нарбут



Стэла-помнік на магіле Станіслава Нарбута, што на Замкавай гары ў Браславе. Узведзена жыхарамі горада

Раней я чуў, што ля Гомельскага тубдыспансера за кошт былых калег і супрацоўнікаў устаноўлены бюст аднаго з пачынальнікаў лёгачнай хірургіі ў Беларусі. А тут — за народныя сродкі. Натуральна, захацеў убачыць гэты абеліск. Напэўна, адзіны ў Беларусі помнік лекару, які паставіў народ. Мясцовыя хлапчукі ахвотна згадзіліся правесці мяне да абеліска.

Аднак, калі мы падышлі да невялікага ўзвышша, на якім стаяў светлы абеліск, мяне чакала расчараванне. Бо на абеліску значылася, што ён прысвечаны ахвярам нядаўняй вайны. Але хлапчукі заўзята запэўнівалі мяне, што гэта менавіта той, «доктараўскі», абеліск. Хлапчукам я не паверыў. Між тым, пра былога браслаўскага лекара ўжо не забываў.

Чым больш сведчанняў пра жыццё і дзейнасць гэтага лекара знаходзіў, тым больш упэўніваўся, што ўсё сваё жыццё, з дзіцячых гадоў, і нават пасля смерці, для розных уладаў (царскіх, савецкіх, польскіх і зноў савецкіх) ён заставаўся нязручным толькі за тое, што хацеў жыць свабодным, незалежным чалавекам і сумлення, як належыць інтэлігенту, дапамагаць людзям, годна выконваць свае прафесійныя функцыі.

Дык што ж гэта за лекар? Гэта — Станіслаў Нарбут, які быў трэцім, самым малодшым сынам Тэадора Нарбута — нашчадка старажытнага шляхецкага роду герба «Трубы», ваеннага інжынера, гісторыка і археолага. Станіслаў нарадзіўся ў радавым маёнтку Шаўры на Гродзеншчыне 4 траўня 1853 года. Калі ўспыхнула паўстанне 1863 года, усе старэйшыя сямейнікі не засталіся ў баку ад падзей. Яго старэйшы брат Людвік, паплечнік Каліноўскага, загінуў у баі. Уладальнікаў маёнтка Шаўры абвясцілі небяспечнымі «дзяржаўнымі злачынцамі». Бацьку перасялілі пад нагляд паліцыі ў Вільню, дзе ён хутка памёр. Маці адправілі ў Пензенскую губерню, другога брата, Баляслава, — яшчэ далей, у Краснаярск. Маёнтак разам з багацейшай гістарычна-археалагічнай калекцыяй і бібліятэкай канфіскавалі. Род Нарбутаў пазбавілі шляхецкай годнасці. Выключэнне зрабілі толькі для маленькіх Станіслава і яго сястры, якія засталіся без бацькоў і без роднай хаты.

11-гадоваму Станіславу далі прытулак у Вільні сваякі і сястра бацькі. З іхняй падтрымкай і дапамогай ён закончыў вучобу ў першай Віленскай гімназіі ў 1871 годзе. Але набыццё спецыяльнасці для яго ператварылася ў велізарную праблему. Бо ён — сын і брат «дзяржаўных злачынцаў» — не меў права паступаць ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы Расійскай імперыі. Але, дзякуючы дапамозе сястры, іншых сваякоў, сяброў і знаёмых, у 1872 годзе Нарбут паступіў на лячэбны факультэт Баварскага каралеўскага ўніверсітэта ў Мюнхене. Праз 7 гадоў, у 1879 годзе, атрымаў не толькі дыплом лекара, але і ступень доктара медыцыны. Тут, за мяжой, і пачалася яго лекарская практыка.

Станіслава Нарбута цягнула на радзіму. Але, каб мець права там лячыць людзей, патрэбен быў дыплом лекара, выдадзены ў Расіі. Таму ён быў вымушаны паступіць у Дэрпцкі ўніверсітэт і закончыць у ім два курсы, каб атрымаць другі дыплом лекара.

Чаму для далейшага жыцця ён выбраў Браслаўшчыну? У лісце да сястры Станіслаў пісаў: «Я ў 1882 годзе прыбыў у Браслаў як першабытны медыцынскі Адам, бо ніколі раней тут лекара не было. Адразу ж улез на браслаўскую гару і ўбачыў у наваколлі 11 азёраў, і ўрачыстасць наваколля глыбока запала мне ў сэрца».

Спачатку ён меў прыватную практыку ў Друі і Браславе. А калі з'явілася вакансія ўрача другога ўчастка Нова-Аляксандраўскага павета, Станіслаў 29 красавіка 1904 года падаў прашэнне на імя ковенскага губернатара. Губернатар 6 (шэсць!) разоў адмаўляў. Пасля ўсіх праверак асобы прасіцеля на лаяльнасць, калі ўлады канчаткова пераканаліся, што праваслаўнага кандыдата на гэтую пасаду не будзе, яны задаволілі просьбу каталіка Станіслава Нарбута. І той 4 жніўня 1904 года пачаў афіцыйна працаваць. Гэта, бадай, адзіны выпадак у Беларусі, калі доктар медыцыны працаваў у павятовым мястэчку.

У першую чаргу Нарбуту трэба было пабудаваць бальніцу. Менш чым за два гады цагляная бальніца была ўзведзена. Па тых часах для Браслава, у якім было 2,5 тысячы жыхароў, гэта была выдатная, першакласная лячэбніца. У час майго знаходжання ў Браславе ў ёй яшчэ размяшчалася дзіцячае аддзяленне раённай бальніцы. Цяпер там скіт Полацкага Свята-Панцелеймонаўскага манастыра.

Разам з тым Нарбут набываў велізарны аўтарытэт лекара ў жыхароў Браслаўшчыны. Людзей прываблівалі ягоныя жыццялюбства, няўрымслівасць, жартаўлівасць, бескарыслівасць, надзейнасць, гатоўнасць у любы момант аказаць дапамогу, прынцыповасць, талерантнасць да людзей розных нацыянальнасцяў, веравызнання і маёмаснага становішча. Яго шанавалі за патрыятызм, за любоў да роднага краю. Ён валодаў пяцю мовамі. Нарбуту даводзілася лячыць усе хваробы: унутраныя, жаночыя, вачэй, вуха, горла і носа, а таксама інфекцыйныя і дзіцячыя. Сам ён аддаваў перавагу хірургіі і акушэрскай дапамозе.

Доктар Нарбут не абмяжоўваўся лекарскімі клопатамі. Вялікія беды і страты драўлянаму мястэчку і вёскам Браслаўшчыны прыносілі частыя пажары. У 1895 годзе ён становіцца адным з заснавальнікаў Браслаўскай пажарнай дружыны, якую ўзначальваў да Першай сусветнай вайны. Праца страхавой касы мястэчка таксама праходзіла з яго ўдзелам. Вельмі негатыўна і непрымірыма доктар ставіўся да п'янства і, як сябар павятовай камісіі, рашуча перашкаджаў распаўсюджванню гэтай звычкі сярод местачкоўцаў. У 1907 годзе ён заснаваў таварыства народнай цвярозасці. Станіслаў Нарбут захапляўся тэатрам, таму ўдзельнічаў у аматарскіх пастаноўках як актор і рэжысёр. Выдаваў газету «Дух Браслава».

Калі пачалася вайна, яму давялося пакінуць Браслаў і ўдзельнічаць у баявых дзеяннях на Паўночна-Заходнім фронце загадчыкам вайсковага лазарэта. У час аднаго з баёў яго цяжка паранілі, з-за чаго яму ампутавалі нагу. Толькі ў пачатку 1919 года Нарбут вярнуўся ў Браслаў і працягнуў лекарскую практыку.

Калі Браслаў занялі часткі Чырвонай Арміі, Станіслаў не стаў хаваць свайго крытычнага стаўлення да бальшавікоў, але застаўся верным свайму прызначэнню: аказваў лекарскую дапамогу ўсім хворым і параненым людзям.

За польскім часам ён заняў пасаду павятовага лекара. Новыя ўлады падазрона паставіліся да яго як да «рускага чыноўніка», які лячыў чырвонаармейцаў. Нават распачалі следства. У бальніцы яны размясцілі староства і паліцыю. Натуральна, гэта вельмі абурала Нарбута. За лекара заступіліся мясцовыя каталіцкія святары. Аднак нацягнутыя адносіны з польскімі чыноўнікамі ў Нарбута так і засталіся да канца яго дзён. «Тут, у Браславе, я дажыў да старых гадоў і як адданы сабака сыду са свайго паста...» — запэўніў лекар сястру ў лісце ў 1924 годзе. Браслаўчане ж не толькі абралі Станіслава Нарбута ганаровым старшынёй пажарнай аховы мястэчка, але і адну з вуліц Браслава назвалі Нарбутаўскай.

У студзені 1925 года Нарбут пакінуў дзяржаўную службу, але працягваў лекаваць людзей. У пачатку сакавіка 1926 года ён выехаў на вазку да хворага. Па дарозе моцна прастудзіўся, але даехаў, дапамог хвораму, а ўжо потым паклапаціўся пра сябе. Аднак хвароба прагрэсіравала, і 11 сакавіка Нарбут памёр ад запалення лёгкіх. У адной з віленскіх газет у некралогу нябожчыка назвалі Нестарам зямлі Браслаўскай.

Удава і чацвёра асірацелых дзяцей Станіслава Нарбута засталіся без сродкаў на існаванне і без прытулку. Жыхары Браслаўшчыны вырашылі паставіць на магіле свайго лекара помнік. За кароткі час сабралі больш чым дастаткова грошай. Тады частку з іх накіравалі на пабудову дома для яго сям'і. Адзін з жыхароў Браслава ахвяраваў свой кавалак зямлі на Замкавай гары на ўзвядзенне помніка лекару. Адносна хутка абеліск быў пабудаваны, і ля яго засвяцілі вялізарны ліхтар.

Калі адбылося ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі, новыя ўлады вуліцу Нарбутаўскую перайменавалі ў вуліцу Кірава. Нават збіраліся знесці помнік Нарбуту. Аднак, як кажуць, рукі не дайшлі, дакладней — не паспелі. Затое паспелі пашчыраваць вандалы. У выніку памятная дошка «ад жыхароў Браслаўскага павета» знікла, знік і ліхтар. Так стаяў гэты абеліск некалькі дзесяцігоддзяў знявечаны. Потым, у пасляваенны час, на ім умацавалі дошку, якая сведчыла, што гэта помнік ахвярам апошняй вайны (менавіта яе і давялося мне бачыць). Але знікла і яна. І зноў з дзясятак гадоў помнік лекару заставаўся ў непрыстойным стане.

Надышлі бурныя 1990-я гады. Народ пачаў праяўляць цікавасць да сваёй гісторыі. Намаганнямі грамадскіх дзеячаў, краязнаўцаў, гісторыкаў, інтэлігенцыі Браслава, Віцебска, Літвы напаўзабытае імя Станіслава Нарбута пачало вяртацца людзям. Але ўжо нікога з яго нашчадкаў не засталося на радзіме: усе знайшлі прытулак у Польшчы і Даніі.

Асабліва парупіліся браслаўчане на ўзнаўленні памяці аб сваім лекары ў 2003 годзе, калі яму спаўнялася 150 гадоў. У мясцовым краязнаўчым музеі пашырылася экспазіцыя матэрыялаў пра яго жыццё і дзейнасць. На абеліску з'явілася драўляная дошка, прызначаная «таленавітаму ўрачу-гуманісту ад удзячных жыхароў Браслаўшчыны», і зноў засвяцілі ліхтар у вышыні. Праз нейкі час драўляную дошку змянілі на бронзавую з надпісам на беларускай лацінцы: Stanisłaŭ Oscik Narbut. 1853–1926. Lekaru ŭdziačnaja Brasłaŭščyna». У двары Браслаўскай ЦРБ устанавілі бронзавы бюст Нарбута, які адліты за сродкі, заробленыя браслаўчанамі на суботніку.

Здавалася б, усё добра: памяць і свядомасць людзей узноўленыя, праўда і справядлівасць перамаглі. Але не-не ды ўзнікае нейкая трывога, пачынаючы гнясці сумненні: ці не паўторацца акты вандалізму?



Сельская бальніца, пабудаваная Станіславам Нарбутам

ФЭСТ

# AD.NAK! УКЛЮЧАЕ ВЫКЛЮЧНАСЦЬ

Сяргей ПУЛЬША

**У Беларусі ў чацвёрты раз пройдзе Фестываль беларускай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!**

Пэўна, на першым фэсце нават самі арганізатары не думалі пра тое, што ён будзе працягвацца так доўга.

Варта нагадаць, што нязменнымі арганізатарамі фэсту з'яўляюцца кампанія «Будзьма беларусамі!» і інтэрнэт-рэсурс Marketing.by. Кіраўнік праекту Marketing.by Сяргей Скараход адзначыў, што фэст дасягнуў пэўнай вядомасці і папулярнасці. Прынамсі, адзначыў ён, на найбуйнейшым беларускім фестывалі рэкламы «Белы квадрат» сёлета было прадстаўлена каля паўтары тысяч прац, з іх прыблізна 300 — беларускамоўныя. Гэта супастаўляльна з мінулагоднім фестывалем, дзе ўдзельнічала больш за 300 прац. Пэўна, сёлета AD.NAK! плануе перавысіць «Квадрат».

Фэст увесь час змяняецца. Як паведаміла каардынатарка кампаніі «Будзьма беларусамі!» Ніна Шыдлоўская, рэклама зараз — гэта не толькі сродак камерцыі. Гэта яшчэ і сродак камунікацыі са спажыўцом. «Сёння кампаніі вымушаныя ствараць цікавы для людзей кантэнт, які забірае іх увагу і прымушае дзейнічаць. Рэкламу не глядзяць, з ёй кантактуюць і ўзаемадзейнічаюць», — адзначыла яна. І на якой мове вытворца прадукту кантактуе з людзьмі, ёсць немалаважным фактарам.

Таму не выпадкова асноўны слоган сёлетняга фэсту: «Трэнд BY AD.NAK — уключы выключнасць!». На думку Шыдлоўскай, тыя, хто рэкламуюць сябе па-беларуску, аўтаматычна становяцца ў адзін шэраг і адзін трэнд з паспяховымі і найбуйнейшымі сусветнымі кампаніямі, якія ўсе рэкламы робяць на нацыянальнай мове краіны. Рэклама на беларускай мове больш заўважная і запамінальная. І фестываль мае на мэце звярнуць увагу прафесійнай супольнасці на гэтую невідавочную, але аксіёму. Арганізатары мяркуюць заахвоціць найперш маладую плынь адмыслоўцаў і энтузіястаў да пошукаў сваёй прафесійнай выключнасці менавіта ў беларусацэнтрычным сегменце.

Дзякуючы студыі Zнята, упершыню і ў намінацыях, і ў конкурсах прысутнічае блок «Рэкламная фатаграфія». У асобную плынь арганізатары вынеслі раздзел «Афіша». У конкурснай праграме — канцэпцыя прасоўвання праекта ZABOR ад групы кампаній «ZUBR-капітал» і рэклама дабрачыннай крамы «Kalilaska». Карацей, рэкламістам будзе дзе разгарнуцца.

Фішкай фэсту стануць майстар-класы ад выбітных вытворцаў рэкламы. Пры падтрымцы італьянскай амбасады да нас прыедзе двойчы бронзавы прызёр «Канскіх ільвоў» Алесандра Сабіні і ўладальнік 9 залатых «ільвоў» Куанта Шымізу з Японіі.

Фестывальны дзень AD.NAK! адбудзецца 27 чэрвеня. Але прыём прац на фэст ужо пачаўся і працягнецца да 3 чэрвеня, пасля чаго запрацуе журы фестывалю.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ЭТНАФАНТАЗІЯ ІРЭНЫ КАТВІЦКАЙ

Аксана КОЛБ

**23 красавіка ў «Камяніцы» адбылася прэс-канферэнцыя этнаспявачкі Ірэны Катвіцкай з нагоды выхаду сольнага альбому.**



Альбом называецца «Этнафантазія». Ён, па словах самой спявачкі, «шчырае выказванне, накшталт прыватнага творчага дзённіка». «У альбоме я маю магчымасць паказаць уласную прастору, месца, дзе адначасова жывуць традыцыі продкаў і мае каханыя людзі… Я працягваю маляваць сакральнае месца перакрыжавання магіі, малітвы і дзіцячай калыханкі. Жадаю маім слухачам цікавай вандроўкі ў сусвет асабістай гармоніі на мяжы інтуітыўнага і рацыянальнага», — сказала Ірэна Катвіцкая.

Ірэна даўно вядомая публіцы па сваім ethna-jazz праекце «Akana-NHS», аранжыроўшчык і вакалістка інтэр-праекта «Kazalpin». Але сольная кар'ера спявачкі толькі пачынаецца. Дарэчы, музычная прэзентацыя альбома адбылася 20 красавіка ў Гродна на эксперыментальнай пляцоўцы «ОфицерOFF».

Сольная праграма Ірэны сумяшчала беларускія і польскія спевы, этнічны вакал ды імправізацыю на раялі. У выкананні спявачкі прагучалі хрэсьбінныя ды вясельныя песні Віцебшчыны, фальклорныя песні Гарадзеншчыны, «Масленка», «Калыханка» ды іншыя. Што тычыцца «Калыханкі», дык яна ў альбоме гучыць у выкананні маладшай дачкі спявачкі — Веры.

Альбом з'явіўся на свет не толькі дзякуючы творчым намаганням спявачкі і яе каманды, але і фінансавай падтрымцы бюро перакладаў «PrimeVeda».

## ТБМ ЗАПРАШАЕ

Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» запрашае сяброў і прыхільнікаў роднага слова ад 18 гадоў да 65 гадоў прыняць удзел у даследчай працы па вывучэнні рукапісных сімвалаў беларускай мовы. Трэба будзе запоўніць анкеты з напісаннем беларускіх слоў, некаторых фраз і г.д. Увесь удзел зойме 30 хвілін.

Праца будзе весціся ў наступныя дні:

7 траўня: 13.00–13.30; 13.30–14.00; 17.00–17.30; 17.30–18.00.

8 траўня: 13.00–13.30; 13.30–14.00; 15.00–15.30; 15.30–16.00

9 траўня: 11.00–11.30; 11.30–12.00; 12.00–12.30; 12.30–13.00; 13.00–13.30; 13.30–14.00; 14.00–14.30; 14.30–15.00.

Для ўдзелу неабходна паведаміць сваё імя, прозвішча, зручны для вас час па адрасе: siadziba@gmail.com з пазнакай «праект» да 3-га траўня. А затым падысці на сядзібу (Румянцава, 13) у абраны вамі час.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 484

Падпісана да друку 26.04.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча